НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№1 (976) 10 студзеня 2018 www.nn.by

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# 100 гадоў

# Беларусь Наша Радзіма

**2018-ы – год стагоддзя аднаўлення беларускай дзяржаўнасці. Усё будзе БНР!**

# Рыхтуецца выхад Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы ў 15 тамах

Новы тлумачальны слоўнік беларускай мовы будзе складацца з 15 тамоў. Пра гэта заявіў першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Акадэміі навук, акадэмік Аляксандр Лукашанец у інтэрв'ю агенцтву «Мінск-Навіны».

«Пачалася актыўная праца над новым поўным Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, які будзе ўключаць усю беларускую лексіку XX і пачатку XXI стагоддзя. Меркавана, ён выйдзе ў 15 тамах. Актуальнасць гэтай працы відавочная, паколькі існуючы Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў 5 тамах і 6 кнігах (1977—1984) адлюстроўвае лексіку сярэдзіны мінулага стагоддзя і не ў поўнай меры адпавядае патрэбам сучаснай моўнай практыкі», — патлумачыў Лукашанец.



## Навука

### Генная медыцына трэніруецца знішчаць хваробы яшчэ да нараджэння дзіцяці

2017 год даў чалавецтву новыя адкрыцці. Так, у ЗША навукоўцы дасягнулі значнага прарыву ў тэхналогіі геннага рэдагавання. Скарыстаўшыся CRISPR, яны паспяхова выдалілі ў чалавечага эмбрыёна ген, звязаны з сардэчнымі захворваннямі. Праз два месяцы падобную аперацыю паспяхова правялі кітайскія навукоўцы.

Правядзенне такіх аперацый выклікае этычныя пытанні. Многія лічаць, што навукоўцы такім чынам умешваюцца ў тое, што павінен рабіць толькі Бог ці прырода.

Вучоныя ж заяўляюць, што гэта проста новы спосаб лекавання хвароб – нязвыклы для людзей, але які ў будучыні зможа зрабіць жыццё людзей шчаслівейшым.

**Сяргей Гезгала**

## Падзякі

Дзякуем чытачам-фундатарам «Нашай Нівы» М.Крупко, Я.Чыгіру, А.Паддубскаму, Ю.Ю., Таццяне Т., Яцюку, Сяргею Ш., Саковічу, Васільеву і асабліва Андрэю К. і Аляксею.

### Віцебскі музей падпаліла яго супрацоўніца?

20 снежня ў Віцебску гарэў мясцовы Цэнтр сучаснага мастацтва. Пажар лакалізавалі і пагасілі хутка, за некалькі хвілінаў. Цікава, што захавальніца фондаў, якая была ў памяшканні, распавяла, што ў цэнтр нібыта ўварваўся невядомы, які і падпаліў падсобнае памяшканне.

Але ў студзені стала вядома, што ў падпале вінавацяць саму супрацоўніцу. На жанчыну завялі крымінальную справу аб наўмысным пашкоджанні маёмасці, прычым — у асабліва буйным памеры. Гэта пацвердзілі ў Віцебскім упраўленні Следчага камітэта.

Калі падазраваную прызнаюць вінаватай, яна можа трапіць за краты на тэрмін да 10 гадоў.

**УШ**

## Беларусь стала другім у свеце імпарцёрам нарвежскай фарэлі

З усіх сусветных пакупнікоў экспартаванай Нарвегіяй у мінулым годзе стронгі (фарэлі) нашая краіна прапусціла наперад толькі Японію, паведамляе Нарвежская рада па морапрадуктах (NSC). На трэцім месцы за намі — ЗША.

Нягледзячы на ўвядзенне Расіяй санкцый супраць нарвежскіх рыбных прадуктаў, у мінулым годзе Нарвегія павялічыла экспарт ласасёвых рыб на 3%, то бок на 27 тысяч тон, дасягнуўшы неверагоднага аднаго мільёна тон. А нарвежскі рыбны экспарт агулам павялічыўся на 7%.

«2017 год стаў яшчэ адным фантастычным годам для нарвежскіх экспарцёраў морапрадуктаў», — заявіла выканаўчая дырэктарка NSC Рэната Ларсэн.

Варта заўважыць, што ўдзел «дзікага» ласося ў нарвежскім экспарце складае зараз толькі 28%. 72% — гадаваная ў аквакультуры рыба.

**nn.by**



## 13 студзеня — «Калядныя цары»: магчымасць паўдзельнічаць ва ўнікальным абрадзе

Запрашаем узяць удзел ва ўнікальным беларускім абрадзе, які вядомы на ўвесь свет!
Маршрут: Мінск—Дунаева—Камсамольская—Грозаў—Цімкавічы—Семежава—Мінск.
Пачнем вандроўку з сядзібы Лапухі Эдварда Вайніловіча (XVIII ст.). Трапім у Грозава — славутае мястэчка часоў БНР. Тэму ткацтва разаўём у вёсцы Семежава, дзе наведаем Цэнтр ткацкага рамяства.
Кульмінацыйнай кропкай вандроўкі стане наш удзел у абрадзе «Калядныя цары», што ўключаны ў спіс нематэрыяльных культурных каштоўнасцей ЮНЕСКА.
Працэсія Цароў, да якой мы далучымся, наведае дамы вяскоўцаў, дзе разыграе драму «Цар Максімілян».
З надыходам цемры запаляць паходні і агнявым шэсцем завяршаць абрад.
Цана вандроўкі — 29 рублёў. У суму ўключаны праезд, суправаджэнне экскурсавода, удзел у абрадзе «Калядныя цары», наведванне Цэнтра ткацтва.
Запіс па тэлефоне: (+375 29) 755-68-85.



ПКАУ «Культура роднага краю», УНП 192664818

## Супрацоўнікі МНС выратавалі жыццё журналісту Вадзіму Казначэеву



7 студзеня адбыўся пажар на праспекце Незалежнасці ў Мінску. У 20:47 пажарныя атрымалі выклік ад суседзяў, ужо ў 21:09 пажар быў ліквідаваны.

Гарэла кватэра вядомага публіцыста Вадзіма Казначэева. Яму 53 гады, ён супрацоўнічаў са шматлікімі выданнямі.

Казначэева знайшлі беспрытомнага на падлозе на кухні.

Яго даставілі ў бальніцу з дыягназам «цяжкая тэрмаінгаляцыйная траўма, апёк дыхальных шляхоў, атручванне прадуктамі гарэння».

У офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі, сябрам якой з'яўляецца Вадзім, нам паведамілі: «Пагрозы жыццю няма. Цяпер яму ў бальніцу хуткай дапамогі можна адносіць сокі, ваду без газу, супы, пюрэ», — сказала прэс-сакратар АГП Ганна Красуліна.

МНС паведамляе, што прычыны ўзгарання даследуюцца. Адна з версій — неасцярожнасць пацярпелага пры курэнні.

**Зміцер Панкавец**

## Прыватныя абвесткі

У **Надзеі** і **Андрэя Кімаў** нарадзіўся сын Януш. Віншуем бацькоў, Гадуйцеся здаровымі і вясёлымі!

Віншуем **Аўгінню Манцэвіч** і **Верасня** з нараджэннем сына! Ён будзе такі, як вы, і лепшы за вас! Сябры





### Самае чытанае на nn.by за снежань

1. Дзе жывуць і чым займаюцца дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў
2. «Квоты перавыкананы»: кашмарныя архіўныя дакументы пра 1937 год
3. Фатограф зняў рэальнае жыццё 20-гадовых беларусак: ні грошай, ні мэтаў
4. Страшная трагедыя ў нашай гісторыі: як падчас Першай сусветнай з Беларусі вывезлі 1,2 мільёна жыхароў
5. Топ-20 зайздросных жаніхоў краіны — дзяўчаты, трымайцеся!
6. Ураджэнка Расіі, дэпутатка Гуйвік «зарэзала» першы двухмоўны закон
7. Нехта зліў злачынцам звесткі пра беларуса з закрытых баз, потым да яго «прыехалі ў госці»
8. Зніклая дзяўчына з Мядзела знойдзена ў Мінску мёртвай
9. У Жодзіне пенсіянер застрэліў гандляра сантэхнікай, каб адпомсціць за дачку
10. Хто кіраваў ВКЛ раней: Гедымін ці Альгерд, Вітаўт ці Ягайла? ТЭСТ

# «Поўная маральная дэградацыя»: Раўкоў рэзка выказаўся пра дзедаўшчыну і стаўленне афіцэрства

Шточацвер ва ўсіх вайсковых часцях краіны праводзіцца адзіны дзень інфармавання. Падчас яго лакальнаму камандаванню даводзяцца ідэалагічныя ўстаноўкі, якія выпрацоўваюцца ў Генштабе.



21 снежня камандзірам прыйшоў вельмі рэзкі і доўгі ліст-маналог міністра абароны Андрэя Раўкова.

У дакуменце, які аказаўся ў распараджэнні «Нашай Нівы», Раўкоў канстатуе ўтрыманскія настроі, праблемы ў рабоце з асабовым складам ды іншыя праблемы ў войску, якія патрабуюць хуткага вырашэння.

Прыводзім вытрымкі з ліста Раўкова.

«Скарачэнне злачыннасці і смяротнасці салдатаў у апошнія гады для часткі службоўцаў стала нагодай для самаўхілення ад руплівай работы па падтрыманні дысцыпліны. Як вынік — большая частка крымінальных справаў заведзена не камандзірамі, а Следчым камітэтам, пракуратурай, у лепшым выпадку Вайсковай камендатурай. Навідавоку няведанне рэальнага стану рэчаў», — адзначае Раўкоў і канстатуе, што сёлета загінула некалькі салдат, адзін з якіх — Коржыч — пры нявысветленых дагэтуль абставінах.

«Асобныя кіраўнікі суцяшаюць сябе размовамі, што гэта абумоўлена паніжэннем якасці прызыўнога кантынгенту, паніжэннем грашовага ўтрымання. Такія размовы з'яўляюцца наскрозь ілжывымі і фальшывымі і ствараюць пагрозу для выканання дзяржаўных задач, заганяюць глыбей сацыяльную хваробу, ствараюць недавер да войска. Сёлета колькасць асобаў з судзімасцямі склала каля 5%, а з 2009 па 2012 год у асобных прызывах колькасць такіх асобаў даходзіла да 8%. Адпаведна, дэмаграфічныя праблемы — гэта толькі тыя ўмовы, у якіх знаходзяцца Узброеныя сілы, пры планаванні работы патрэбна прывядзенне ўсяго ладу вайсковага жыцця ў адпаведнасць са Статутам, інакш усе іншыя захады бессэнсоўныя».

Раўкоў канстатуе, што за апошнія пяць гадоў толькі 50% удзельнікаў злачынстваў [у войску] дайшлі да суда, а тыя 90% часцей, дзе няма злачынстваў, не з'яўляюцца паказчыкам адсутнасці парушэнняў і злачынстваў, «бо ў большай ступені яны носяць латэнтны характар».

«У адказных асобаў склалася прымітыўнае разуменне сутнасці выхавання і абсалютнае неразуменне яго метадаў», — даводзіць Раўкоў і падмацоўвае гэта ўзорамі.

«31 сакавіка скончыў жыццё самагубствам шараговец А. Басцюк. З першых дзён службы праявіліся ягоныя нізкія адаптыўныя здольнасці, нізкі ўзровень нервовай устойлівасці. Усё ляжала на паверхні, салдат неаднаразова паведамляў камандзірам пра цяжкасці службы. Але ў выніку абыякавасці і адсутнасці індывідуальнай работы прычыны праблем салдата выяўлены не былі, адпаведна — не былі і вырашаны. 11 сакавіка да кіраўніцтва палка звярнуліся бацькі салдата, якія паведамілі пра нестатутныя адносіны.

Пры гэтым сутнасць звароту бацькоў стала вядомая калектыву, пасля чаго з салдатам перасталі размаўляць саслужыўцы. Напярэдадні смерці салдат пазваніў маці і развітаўся з ёй, але нават пасля гэтага сігналу ад бацькоў кантроль за салдатам і індывідуальная работа з ім не была арганізавана.

Гэта сведчыць пра няведанне абстаноўкі ў падраздзяленнях, адсутнасць выхаваўчай работы, самаўхіленне адказных асоб ад рэагавання на праблемы салдат і невыкананне афіцэрамі рэкамендацый псіхолага па рабоце з псіхалагічна ўразлівай катэгорыяй ваеннаслужачых».

Не абышоў Раўкоў і здарэнне ў Печах.

«Выяўленыя найдзічэйшыя факты злачыннай халатнасці адказных асоб, іх самаўхілення ад выканання абавязкаў, наяўнасць мудрагелістай сістэмы здзекаў, вымаганняў грошай, прычым не толькі ў дачыненні да Коржыча. І ўсё гэта ў навучальным цэнтры, дзе, у адрозненне ад войскаў, прасцей навесці парадак і арганізаваць адбор малодшых камандзіраў.

Пра злачынствы ў 72-м АВЦ даведаліся толькі ў ходзе следчых дзеянняў. Імя прапаршчыка Вірбала [які падазраецца ў вымаганні грошай у Коржыча] стала назыўным, пра яго ведаюць ва ўсім свеце. А ў 19-й асобнай механізаванай брыгадзе выявіўся такі факт: у адказ на зварот салдата да камандзіра роты наконт праблем ва ўзаемаадносінах з саслужбоўцамі апошні параіў звярнуцца да «асновы» роты для вырашэння праблем. Што такое "аснова"? Гэта сінонім «пахана» ці «сматрашчага» на мове крымінальна-лагернага жаргону. То бок афіцэр фактычна ўхіліўся ад абавязкаў падтрымання правапарадку і перадаў гэтыя функцыі служачым. Сёлета таксама заведзена справа на прадстаўніка 72-га АВЦ, які яшчэ ў 2012 годзе прыняў хабар у выглядзе пакета прадуктаў, а потым неаднаразова прымаў для сябе спіртное, каву і прадукты ад ваеннаслужачых. Каментары тут залішнія.

Поўная маральная дэградацыя. Пры такіх афіцэрах не можа быць парадку».

Далей прыводзіцца яшчэ некалькі выпадкаў дробнага хабару, Раўкоў канстатуе, што «чым ніжэйшы памер крадзяжу ці хабару, тым болей упаў чалавек», а таксама запэўнівае, што любое злачынства ў войску будзе выяўлена.

Што ж прапануе міністр?

«Неабходна бязлітасна вычышчаць Узброеныя сілы ад асоб, для якіх няма паняцця афіцэрскага гонару, а таксама звярнуць увагу на наступнае: адказныя асобы, якія паспрабуюць схаваць любыя правапарушэнні, а тым болей злачынствы, а таксама тыя, хто не прыме неабходных дзеянняў для рэагавання, будуць строгім чынам прыцягвацца да адказнасці, у тым ліку крымінальнай. Гэта аксіёма, бо наступствы злачынстваў у войску — гэта ўдар па ўсёй абараназдольнасці краіны. Таксама камандзіры будуць усебакова заахвочвацца, калі яны своечасова выяўяць правапарушэнне, у тым ліку — замах на злачынства ці яго падрыхтоўку», — рэзюмуе Раўкоў у сваім лісце.

**Арцём Гарбацэвіч**

# На дошку Васіля Быкава сабралі грошы за пяць дзён. Прычым знайшоўся нечаканы спонсар

Глеб Лабадзенка паведаміў у сваім фэйсбуку, што за пяць дзён сабралі грошы на мемарыяльную дошку ў гонар Васіля Быкава. Прычым віцебская фірма «Рубікон», што займаецца вытворчасцю лекаў, дала 68% сродкаў.

«На адкрыцці дошкі Рыгору Барадуліну было абвешчана пра збор сродкаў на дошку Васілю Быкаву — на дом у Мінску, дзе пісьменнік пражыў больш за 20 год. За 5 дзён людзі сабралі 32% (!) неабходных сродкаў, самую істотную суму ўнёс спадар Ігар Жабароўскі. А ўчора на сувязь выйшла віцебская фірма «Рубікон», якая займаецца вытворчасцю лекавых сродкаў. Дырэктар, спадар Віктар Фарбер, выказаў гатоўнасць аплаціць усю суму, якой не хапае. А ўжо сёння яны даслалі дамову ахвяравання, дзе значылася якраз тая сума! Такім чынам, фірма «Рубікон» пакрыла 68% неабходных сродкаў, рэшту сабралі людзі (ахвяравалі 60 чалавек). Вялікі дзякуй усім, хто спрычыніўся! Нізкі паклон кіраўніцтву прадпрыемства «Рубікон»! — напісаў Глеб Лабадзенка. — Такім чынам, збор сродкаў на памятную дошку Васілю Быкаву завершаны, цяпер пачынаецца працэдура ўзгаднення і ўласна стварэння дошкі. Справы гэта няхуткія, але, спадзяюся, да канца 2018 года ўсё зробім!»



# «Дармаедаў» прымусяць аплачваць паслугі ЖКГ у стапрацэнтным памеры

1 студзеня 2019 года запрацуе абноўлены Дэкрэт № 3. Дакумент, які нарабіў шмат шуму, змяніць і сваю назву (рабочы варыянт — «Па садзейнічанні занятасці»), і сутнасць.

Якой жа будзе новая рэдакцыя, што чакае беспрацоўных і якія меры плануюць ужываць да тых, хто не збіраецца шукаць работу, журналісту «Звязды» паведаміла старшыня Пастаяннай камісіі па працы і сацыяльных пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Тамара Красоўская.

— Мы заўважылі, што наймальнікі не вельмі ахвотна хочуць браць выпускнікоў ВНУ і каледжаў без досведу, а таксама жанчын, якія толькі выйшлі з адпачынку па доглядзе за дзіцем. Для таго, каб знайсці працоўнае месца для кожнага, у раёнах павінны быць створаны спецыяльныя камісіі. У іх увойдуць дэпутаты ўсіх узроўняў, прадстаўнікі ЖКГ, упраўленняў унутраных спраў, аддзелаў адукацыі і занятасці.

Тамара Красоўская дадала, што павінны быць вызначаныя тэрыторыі з напружанай сітуацыяй на рынку.

Іх пералік неабходна зацвярджаць штогод. Выйсце для такіх рэгіёнаў — адкрыццё новых працоўных месцаў, перападрыхтоўка спецыялістаў і стымуляванне самазанятасці.

Стварыць там таксама інфармацыйную базу грамадзян, не занятых у эканоміцы.

— Важна, каб дзяржаўныя органы ўзаемадзейнічалі пры ве вядзенні, — лічыць старшыня камісіі. — Інфармацыя ў базе павінна актуалізавацца штомесячна — хто пераехаў у іншы рэгіён, хто праходзіць курсы. Вылічыць, ці ёсць работа ў чалавека, можна будзе таксама з дапамогай ID-карткі, якую ў наступным годзе плануюць завесці на кожнага грамадзяніна.

А вось уздзейнічаць на тых, хто працаваць не хоча, складана, прызнаецца дэпутат. «Многія, хто быў уладкаваны камісіяй вясной, усё звольніліся. Хоць ім і месца на добрых прадпрыемствах знайшлі, і заробак далі».

Да гэтай катэгорыі будуць ужываць эканамічныя рычагі. Незанятым грамадзянам працаздольнага ўзросту давядзецца аплачваць паслугі, якія субсідзіруюцца з бюджэту, у стапрацэнтным памеры.

Дакладны пералік такіх паслуг будзе распрацаваны ўрадам у першым квартале 2018 года. Магчыма, у гэтым спісе акажуцца паслугі па газа- і электразабеспячэнні. Пры гэтым беларусы, якія не маюць работы, але знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, будуць вызвалены ад такой платы.

Адзначаецца, што ахвотным заняцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, аказваць паслугі ў сферы аграэкатурызму ці стаць рамеснікам, выдадуць субсідыя.

Яна складае 11 бюджэтаў пражытковага мінімуму (ці 269,5 рубля). Тым, хто збіраецца адкрыць сваю справу ў вёсках, малых гарадах ці рэгіёнах з высокай напружанасцю на біржы, выплачваюць дапамогу ў памеры 15 БПМ (бюджэтаў пражытковага мінімуму), а пры арганізацыі бізнэсу, звязанага з выкарыстаннем вынікаў навуковых даследаванняў і распрацовак, — 20 БПМ.

Для тых, хто не можа канкураваць на рынку на роўных (інвалідаў, былых зняволеных), браніруюць працоўныя месцы. Гэта значыць, што прадпрыемства будзе абавязана прыняць чалавека на работу. Інакш наймальніку давядзецца заплаціць штраф — да 50 базавых велічынь.

# Дзе жывуць і чым займаюцца дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў?

«Наша Ніва» заўсёды надавала шмат увагі беларускім чыноўнікам. Гэта людзі, якія сваімі ініцыятывамі і рашэннямі ўплываюць на жыццё кожнага жыхара краіны.

У многіх краінах свету (у тым ліку ў суседніх Расіі і Украіне) чыноўнікі і іх сем'і мусяць публікаваць свае дэкларацыі даходаў, бо атрымліваюць заробкі з дзяржаўнага бюджэту. У Беларусі такога абавязку няма, жыццё чыноўнікаў — закрытая сфера.

Аднак грамадзяне Беларусі маюць права ведаць, як жывуць прадстаўнікі наменклатуры і іх сем'і.

У традыцыйным артыкуле «Наша Ніва» сістэматызуе інфармацыю пра дзяцей прыкладна 30 топ-чыноўнікаў.

Перадусім мы бралі для вывучэння асобаў з верхніх пазіцый нашаніўскага рэйтынгу «Топ-100 самых уплывовых беларусаў».

Мы шукалі адказы на два асноўныя пытанні: дзе вучыліся і дзе працуюць цяпер дзеці чыноўнікаў. Інфармацыя перадусім бралася з сацыяльных сетак.

У атрыманым спісе ёсць розныя людзі: некага завабіла дзяржаўная служба, як і іх бацькоў, хтосьці працуе ў прыватным бізнэсе. А некаторыя яшчэ толькі ходзяць у школу і абіраюць свой жыццёвы шлях.



Вікторыя Лукашэнка вучыцца ў БДУ на платным.



Вера Кабякова апошні раз фігуравала ў «БПС-Сбербанку».




Віталь Макей працаваў у прадстаўніцтве Беларусі ў ААН.



Георгій Кабякоў вучыцца на праграміста.



На фота адразу дзве Вольгі Шэйман. Злева — дачка Віктара Шэймана, справа — жонка Сяргея Шэймана.



Аляксей Калаўр працуе ў банкаўскай сферы.

**Аляксандр Лукашэнка, кіраўнік Беларусі**

Ні для каго ў Беларусі не сакрэт, што ў кіраўніка дзяржавы трое сыноў.

Віктар, выпускнік факультэта міжнародных адносінаў БДУ, ад 2005 года займае пасаду памочніка прэзідэнта па пытаннях бяспекі.

Тамсама вучыўся і Дзмітрый. Ён узначальвае Прэзідэнцкі спартовы клуб — дзяржаўна-грамадскае аб'яднанне, якое дапамагае спартсменам, але мае і ўласныя бізнэс-інтарэсы.

Нарэшце, Мікалай па-ранейшаму школьнік, вучыцца ў 7 класе Астрашыцка-Гарадоцкай сярэдняй школы.

**Валерый Вакульчык, старшыня КДБ**

27-гадовая дачка кіраўніка спецслужбы на старонках у сацыяльных сетках пазначыла, што вучылася ў ліцэі №1 у сталічным мікрараёне Паўднёвы Захад, а пасля скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт.

Па інфармацыі «Нашай Нівы», цяпер Аксана Вакульчык займаецца маркетынгам у кампаніі *BeCloud* — гэта аператар, які праз правайдараў МТС і «Лайф» забяспечвае беларусам доступ да 4G-інтэрнэту.

**Віктар Лукашэнка, памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі**

Віктар — шматдзетны тата, у яго і жонкі Ліліі чацвёра дзяцей.

Дачка Вікторыя скончыла сталічную гімназію №16 і ўслед за бацькам пайшла на факультэт міжнародных адносінаў БДУ. Спецыяльнасць другакурсніцы Вікторыі — «сусветная эканоміка». На бясплатнае аддзяленне дзяўчыне прабіцца не ўдалося, таму за навучанне даводзіцца плаціць.

Сыну Аляксандру 13 гадоў. На старонкі СМІ ён трапляў толькі калі выйграў Калядны турнір па спартыўна-баявых адзінаборствах на прызы мітрапаліта Філарэта.

Яшчэ адной дачцэ, Валерыі, пакуль што 8 гадоў, а найменшаму Яраславу толькі 4 гады.

**Андрэй Кабякоў, прэм'ер-міністр**

Дачка чыноўніка вучылася на геалагічным факультэце МГУ, калі ён працаваў у Маскве. Вера Кабякова завочна атрымала дыплом прыборабудаўнічага факультэта БНТУ. Апошні раз яна фігуравала ў якасці галоўнага спецыяліста-эксперта ў «БПС-Сбербанку». Дзяўчына пастаянна выкладае ў сацыяльныя сеткі сэлфі з цэнтра Мінска.

Сын Георгій вырашыў стаць праграмістам. Ён вучыцца на другім курсе прэстыжнага факультэта радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій БДУ. Летась хлопец паступіў на бясплатнае аддзяленне, набраўшы 325 балаў з 400 магчымых. ЦТ па фізіцы Георгій здаў на 73 балы, па матэматыцы — на 81 бал, а па рускай мове — 78 балаў. Адпаведна, сярэдні бал атэстата складаў 9,3 бала.



Ілля Снапкоў з жонкай Стэфаніяй. А працуе ён у сферы дзяржаўных закупак.

**Уладзімір Макей, міністр замежных спраў**

Старэйшы сын міністра замежных спраў, Віталь, працуе пад кіраўніцтвам бацькі. Ён — намеснік начальніка Упраўлення эканамічнага супрацоўніцтва і ўстойлівага развіцця ў Галоўным упраўленні шматбаковай дыпламатыі Міністэрства замежных спраў.

Віталь Макей вярнуўся ў Беларусь з Нью-Ёрка разам з жонкай Маргарытай і дачкой Марыяй. Сын міністра быў дарадцам па эканамічных і экалагічных пытаннях у прадстаўніцтве Беларусі пры ААН, а яшчэ раней Віталь працаваў першым сакратаром пасольства Беларусі ў Аўстрыі.

Ад другога шлюбу з актрысай Верай Паляковай-Макей у міністра расце сын Арцём. Ён ходзіць у трэці клас.

**Міхаіл Мясніковіч, спікер Савета рэспублікі**

Савет рэспублікі лічыцца прытулкам для наменклатурных пенсіянераў, але Мясніковіч спрабуе ўплываць на працэсы ў грамадстве і адтуль.

Выглядае, што дзеці спікера не карыстаюцца сацыяльнымі сеткамі. Пэўнай інфармацыі пра іх месца працы няма.

Крыніцы «Нашай Нівы» звязвалі старэйшую дачку чыноўніка, Вольгу, з міжнародным гандлем у сферы хімікатаў. Але мы не знайшлі пацвярджэння гэтай інфармацыі.

Малодшае дзіця Мясніковіча, 37-гадовы сын Дзмітрый, закончыў у Мінску суворaўскае вучылішча. Ужо ў 1990-я, у часы незалежнасці, ён паступіў у акадэмію ФСБ у Маскве. Кар'ера ў сілавых структурах была нядоўгай, Дзмітрый сышоў у бізнэс. Чуткі ў інтэрнэце звязвалі яго з горна-хімічнай галіной і працай у Туркменістане ў сумесным прадпрыемстве.

**Ігар Шуневіч, міністр унутраных спраў**

Аб прыватным жыцці міністра ўнутраных спраў інфармацыі небагата. З прыватнага боку ён сябе праявіў, толькі калі на 9 Мая апрануў форму НКВД — дарэчы, хваліўся, што пашыў за свае грошы, — і разам з жонкай, якая карыстаецца агульнавайсковай формай часоў Другой сусветнай, катаўся па Мінску на рарытэтным аўтамабілі.

Як стала вядома «НН», у сям'і расце пяцігадовая дачка Варвара.

**Віктар Шэйман, кіраўнік спраў прэзідэнта**

34-гадовы Сяргей Шэйман, старэйшы сын непатапляльнага кіраўніка справамі прэзідэнта, выпускнік прыватнага Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута.

«Атрымаў дыплом юрыста. Ужо ў 23 гады ён працаваў галоўным кантралёрам-рэвізорам пры Мінскім аблвыканкаме. Акрамя таго, Сяргей Шэйман быў адным з арганізатараў канцэртаў «За Беларусь!». У прыватнасці, вырашаў пытанні аховы, кантактаваў з зоркамі, зацвярджаў праграмы канцэртаў», — адзначаў карэспандэнт «НН» у артыкуле пра дзяцей сяброў Лукашэнкі. Шэймана-малодшага цяпер ведаюць як бізнэсмена.

Яго 28-гадовая сястра Вольга скончыла той самы інстытут. А нядаўна паехала вучыцца ў ЗША, ва Універсітэт Каплан у штаце Аёва.

**Павел Калаўр, старшыня праўлення Нацбанка**

У сям'і «Чалавека года — 2017» двое сыноў.

Старэйшаму, Аляксею, нядаўна споўніўся 31 год. Ён адвучыўся ў школе з паглыбленым вывучэннем замежных моваў, а пасля паступіў у БДЭУ.

На працягу шасці гадоў Аляксей Калаўр працаваў у банкаўскай сферы, нейкі час у Расіі, але пераважна ў структуры «БПС-Сбербанка». Апошняя яго пасада — намеснік начальніка аддзела развіцця карпаратыўнага бізнэсу.

А месяц таму сын старшыні Нацбанка перайшоў на працу ў кампанію *Epam* на пазіцыю вядучага бізнэс-аналітыка.

Ягоны малодшы брат Уладзімір таксама выпускнік БДЭУ. І ён таксама доўгі час працаваў «БПС-Сбербанку».

Цяпер Уладзімір прадстаўлены ў сацсетках як намеснік дырэктара дэпартамента стратэгічных інавацый і лічбавага бізнэсу банка «БелВЭБ». Гэта той банк, якім кіраваў ягоны бацька да свайго вяртання ў Нацбанк.

**Уладзімір Сямашка, віцэ-прэм'ер**

Галоўны газавы перамоўшчык краіны — чалавек старэйшага веку. Знайсці ў сацсетках яго дзяцей не ўдалося.

«Я толькі рады, што мая старэйшая дачка цэлы год адвучылася ў Англіі, — расказваў некалі Сямашка «Народнай волі». — У яе дзве вышэйшыя адукацыі, яна паспяхова скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — факультэт матэматыкі, потым «наргас».

Я нават хацеў, каб яна адчула жыццё ў Англіі, параўнала ўзровень адукацыі. Дарэчы, яе параўнанні не на карысць Кембрыджа. Яна вярнулася з Англіі і працуе ў Мінску. Сказала, што ніколі ў жыцці з Беларусі не з'едзе».

**Аляксандр Канюк, генеральны пракурор**

У сям'і Аляксандра і Святланы Канюкоў у 2004 годзе адбылася трагедыя — загінуў старэйшы сын Уладзімір.

Малодшаму, Дзмітрыю, цяпер 29 гадоў. Хлопец скончыў юрыдычны факультэт БДУ, некалькі гадоў правёў у юрыспрудэнцыі, але ў выніку пайшоў у сферу інфармацыйных тэхналогій.

Дзмітрый — менеджар у мінскім офісе IT-кампаніі *PandaDoc*. Гэты стартап беларускіх хлопцаў прыцягнуў больш за 20 мільёнаў ад замежных інвестараў. Апроч таго, сын генеральнага пракурора практыкуе як бізнэс-трэнер.

**Андрэй Раўкоў, міністр абароны**

Дачка міністра Юлія вучылася ў Эканамічным універсітэце. Яна гадуе малую дачку. Хобі Юлі — выраб упрыгожанняў з лямцу.

**Мікалай Снапкоў, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта**

У чыноўніка, які вызначае ў Адміністрацыі прэзідэнта развіццё экономікі, двое сыноў.

Старэйшы — 28-гадовы Ілля — скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Паводле інфармацыі ў сацсетках, ён працуе ў аддзеле маркетынгу і дамоўнай працы Рэспубліканскага цэнтра тылавога забеспячэння ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Ілля Снапкоў адказвае за дзяржаўныя закупкі.

Малодшаму, Захару, 16 гадоў. Ён вучыцца ў сталічнай гімназіі. Па словах бацькі, Захар сам вырашыў вучыць кітайскую мову.

**Сямён Шапіра, старшыня Федэрацыі хакея Беларусі**

У былога губернатара Гродзеншчыны і Міншчыны двое дзяцей.

Старэйшы сын — Андрэй — скончыў Эканамічны ўніверсітэт. Ён працуе ў агракамбінаце «Дзяржынскі» намеснікам генеральнага дырэктара па інавацыях і турызме. У сферы яго кантролю — Цэнтр экалагічнага турызму «Станькава» і база адпачынку «Хатава».

Дарэчы, менавіта з агракамбіната «Дзяржынскі» Шапіра-старэйшы сыходзіў на пасаду міністра сельскай гаспадаркі.

Дачка Ганна скончыла юрыдычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «правазнаўства». Цяпер яна разам з мужам жыве ў Мінску. Ён па прафесіі доктар.

Працяг на старонцы 6.



Андрэй Шапіра працуе ў агракамбінаце «Дзяржынскі», які ўзначальваў ягоны бацька.



Ганна Шапіра – юрыстка.



Дачка Наталлі Качанавай Вольга працуе ў наваполацкім раддоме.



Альбіна Наскевіч вырашыла застацца на Радзіме.

# Дзе жывуць і чым займаюцца дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў?


Яніна Давыдзька скончыла Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт. Мяркуючы па анкеце ў сацыяльных сетках, яна працуе ў «Мінскпраекце».


Вадзім Худык курыруе запраўкі «Газпрамнафты» на Гарадзеншчыне.


Старэйшая дачка міністра гандлю Уладзіміра Калтовіча – Аляксандра.



Іван Калтовіч, сын міністра гандлю, вучыцца ў Акадэміі мастацтваў.

### Наталля Качанава, кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта

У яе дзве дачкі — Вольга і Алена.

Вольга паступіла ў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт на спецыяльнасць «педыятрыя». Адвучыўшыся, яна вярнулася на малую радзіму разам з мужам, таксама педыятрам. Вольга працуе ў наваполацкім раддоме і гадуе двух дзяцей.

Алена скончыла аддзяленне замежных моваў гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яна пазначыла гэты ўніверсітэт як месца працы. Але, найхутчэй, Алена знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку — маленькай дачцэ Міраславе каля года.

### Іван Наскевіч, кіраўнік Следчага камітэта

Галоўны следчы — шматдзетны бацька. У сям'і чацвёра дзяцей.

Альбіна вучыцца на факультэце англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Адзначым, што дзяўчына ў свой час была рэкамендаваная для залічэння ў Расійскі ўніверсітэт дружбы народаў па праграме «Расійскага супрацоўніцтва», аднак вырашыла застацца на радзіме.

Даніла сёлета паступіў на першы курс фармацэўтычнага факультэта Медуніверсітэта, прычым на бюджэтнае навучанне. Гэта значыць, што ён паказаў бліскучыя веды на ЦТ, бо прахадны бал на гэты факультэт касмічна высокі.

Меншы сын чыноўніка пакуль вучыцца ў сярэдняй школе. Самай маленькай дачцэ, Марыі, два гады.

### Васіль Мацюшэўскі, першы віцэ-прэм'ер

24-гадовы сын Ян ідзе шляхам бацькі. Год таму ён згадваўся як магістрант Інстытута бізнэсу і менеджменту тэхналогій БДУ. Цяпер Ян працуе ў кампаніі «Райфайзен-лізінг», гэта даччыннае прадпрыемства «Прыёрбанка».

### Дзмітрый Лукашэнка, кіраўнік Прэзідэнцкага спартыўнага клуба

У сям'і Дзмітрыя Лукашэнкі тры дачкі: старэйшыя Дар'я і Настасся, а таксама маленькая Аляксандра.

Дар'я і Настасся некалькі гадоў таму перамаглі ў спаборніцтве аўтараў беларускамоўных казак, а пасля яшчэ і ў конкурсе інструментальнай музыкі «Маладыя таленты Беларусі».

### Максім Рыжанкоў, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта

У сям'і чыноўніка расце дачка Уладзіслава, ёй 9 гадоў.

### Васіль Жарко, віцэ-прэм'ер

Пра адзіную дачку чыноўніка карэспандэнтам «Нашай Нівы» расказвалі сваякі сям'і.

Вольга скончыла гістарычнае аддзяленне брэсцкага ліцэя, а ў 2007 паступіла на факультэт міжнародных адносінаў БДУ. Падчас вучобы яна выйшла замуж і нарадзіла сына. Праз некалькі гадоў у сям'і нарадзілася яшчэ і дачка.

### Андрэй Шорац, старшыня Мінгарвыканкама

У сям'і кіраўніка Мінска двое малых дзяцей — Іван і Дар'я.

### Андрэй Уцюрын, першы намеснік дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі

24-гадовы Антон Уцюрын цяпер працуе ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Ён займае пасаду менеджара праектаў у кампаніі *Itransition*. Гэта адзін з найбуйнейшых распрацоўшчыкаў праграмнага забеспячэння ў Беларусі, у якім працуе больш за 1500 чалавек.

Сын былога кіраўніка аховы Аляксандра Лукашэнкі скончыў факультэт міжнародных адносін БДУ. Падчас летніх канікул ён двойчы праходзіў дадатковае навучанне ў Лондане.

Пасля заканчэння вучобы Антон пapрацаваў год у кампаніі «Белспецзнешттэхніка», якая займаецца продажам зброі за мяжу.

### Генадзь Давыдзька, старшыня Белтэлерадыёкампаніі

Дачка Яніна скончыла Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт. Мяркуючы па анкеце ў сацыяльных сетках, яна працуе ў «Мінскпраекце».

### Міхаіл Русы, віцэ-прэм'ер

У ягонай сям'і дзве дачкі. Старэйшая, Таццяна, скончыла факультэт тэхналогіі арганічных рэчываў Тэхналагічнага ўніверсітэта, а малодшая, Юлія, вучылася на фінансіста ў Эканамічным універсітэце.

### Уладзімір Калтовіч, міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю

У сям'і міністра двое дзяцей. Старэйшая — Аляксандра. Адметна, што на старонцы «Укантакце» яна падпісаная па-беларуску (як, дарэчы, і яе муж).

Аляксандра вучылася на завочным і працавала ў гандлёвым доме «На Нямізе». Нядаўна яна нарадзіла дзіця.

Малодшы сын, Іван, скончыў мінскую гімназію-каледж мастацтваў, пасля паступіў у Акадэмію мастацтваў на факультэт дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### Алесь Карлюкевіч, міністр інфармацыі

Адзіная дачка Вераніка скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у 2009 годзе. Ёй 31 год, яна спецыялізуецца на кітайскай мове. Выкладала ў БДУ, адказвала за сувязі з грамадскасцю ў гатэлі «Пекін». Цяпер Вераніка Карлюкевіч жыве ў Маскве, дзе працуе піярдырэктаркай у кітайскай кампаніі «Карпарацыя ZTE — Сувязьтэхналогіі».

### Валерый Малашка, міністр аховы здароўя

Сын міністра Антон Малашка працягнуў сямейную дынастыю. Ён працуе хірургам у траўматалагічным аддзяленні Магілёўскай абласной бальніцы. Дарэчы, жонка Антона — таксама медык.

### Андрэй Худык, міністр аховы прыродных рэсурсаў

36-гадовы сын Вадзім — дырэктар кампаніі «Лiданафтапрадукт». Ён скончыў Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт, працаваў на «Лідахлебапрадукце», пасля стаў начальнікам запраўкі ў Лідзе. Адтуль Худык-малодшы пайшоў на павышэнне — ён стаў курыраваць працу ўсіх запраўак «Газпрамнафты» на Гродзеншчыне. А год таму вярнуўся ў Ліду ў якасці дырэктара нафтавай кампаніі. У яго сям'і растуць два сыны.

Яшчэ адзін сын міністра, Мікалай, вайсковец.

### Уладзімір Вашчанка, міністр па надзвычайных сітуацыях

Двое дзяцей галоўнага ратавальніка краіны — Ірына і Дзмітрый — скончылі факультэт эканомікі і права Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Пасля завяршэння навучання Ірына каля года папрацавала ў магілёўскім «Праматамнаглядзе» і «Магілёўаблмаёмасці». Апошнія 13 гадоў яна працуе ў Дзяржпрамнаглядзе — гэта арганізацыя, падкантрольная міністэрству, якое ўзначальвае яе бацька.

Цяпер Ірына Вашчанка займае пасаду начальніка аддзела міжнароднага супрацоўніцтва і гадуе малога сына.

Ягор Марціновіч

# Смерць дзіцяці ў Нясвіжы: спачатку дактары недаацанілі сур'ёзнасць, пасля рэанімабіль ехаў чатыры гадзіны

Шасцімесячны Арцём Грыцкевіч памёр ад няяснай пакуль хваробы.

«Нашай Ніве» сталі вядомыя абставіны трагедыі, віна за якую, імаверна, ляжыць на дактарах.

Сям'я Грыцкевічаў жыве ў Снове — узорным аграгарадку ў Нясвіжскім раёне.

«Пад вечар 3 студзеня ў сына трохі — да 37 — паднялася тэмпература, шчокі пачырванелі, — расказала нам яго маці Алена. — На наступны дзень мы пайшлі да доктара. Тэмпература перад прыёмам — ужо 38,2. Тэрапеўт глянула горла, паслухала і кажа: прайдзіце ў пакой для здаровага дзіцяці, гэта ў вас зубы рэжуцца. Паказвае мне на тое месца ў роце, дзе кутнія зубы растуць, і кажа: «Бачыце, там дзясна таўсцейшая? Гэта зубы лезуць, не хвалюйцеся». Тут варта сказаць, што тэрапеўта нам нядаўна замянілі — дзяўчынка пайшла ў дэкрэт, а на яе месца прыслалі іншага. І вось гэты чалавек працуе тэрапеўтам і не ведае, што першыя вылазяць разцы?!»

Жанчына кажа, што тэрапеўт не прызначала аналізаў, а выпісала рэцэпт на ўкраінскі парацэтамол за 2 рублі.

«Я бачыла па дзіцяці, што яму горш, ставіла свечы, збівала тэмпературу, але пасля абеду стала зусім кепска. Вядома, я той доктарцы званіць не стала — адразу ў хуткую. Доктар хуткай з парога сказаў: «Збірайцеся, падазрэнне на пнеўманію». Зрабіў нейкі ўкол ад тэмпературы, і мы паехалі ў бальніцу ў Нясвіж. У машыне дзіця ўжо пачало трохі ўсміхацца, гуляцца з тымі крапельніцамі, што былі ў салоне, кісларод яму далі. Доктар быў упэўнены, што дзіця адпусцяць дадому на наступны дзень», — расказвае далейшы ход падзей жанчына.

У бальніцы Нясвіжа, кажа яна, дактары працавалі надзвычай марудна.

«Пакуль яны вырашалі, што і куды... Схадзілі на здымак, зрабілі аналізы. Але мне ні слова ніхто не казаў: неяк усё цішком, каб ніхто не чуў. Якія лейкацыты? Які гемаглабін? Я не ведаю! На мае пытанні не адказвалі. У рэанімацыі яму прачысцілі нос, медсёстры, што мяне супакойвалі, расказвалі, што нічога там звышнатуральнага не знайшлі, гною не было. Значыць, не пнеўманія?


Мама и тата Арцёма абое працуюць у агракамбінаце «Сноў».

Пачалі казаць, што гэта ў сына лейкемія. І вось далей ужо ўзнікаюць пытанні: а што яму давалі? Я не ведаю, што калолі: мне не казалі. Але нашы знаёмыя ў бальніцы кажуць, што яму ўкалолі «нешта антыімуннае», што добра пры лейкеміі, але забівае імунітэт.

У выніку доктар выйшаў з рэанімацыі і сказаў чакаць: маўляў, яны выклікалі дактароў з Салігорска. Чаму з Салігорска?

Бо там адзіная дзіцячая рэанімацыя на некалькі раёнаў. Калі камусьці ў Слуцку кепска, напрыклад, то яны туды едуць, а потым назад. Калі выклікалі той рэанімабіль, здаецца, яшчэ не было 23 гадзін, а прыехаў ён з Салігорска ў тры ночы!» — зрываецца на плач жанчына.

Яна кажа, што недзе паўгадзіны салігорскія медыкі знаходзіліся ў бальніцы.

«Я чула, як доктар на калідоры гаварыў з кімсьці па тэлефоне пра нас, і там былі такія словы, маўляў: «Я так разумею, у Мінску дзіця вам не трэба?».Пасля гэтага сына забралі ў салігорскую машыну. Сказалі, што мяне не возьмуць з ім, і мне, маўляў, трэба самой быць ужо заўтра раніцай у Мінску, бо сына, найхутчэй, павязуць з Салігорска ў мінскую анкалогію», — кажа жанчына.

У 6:15 раніцай, калі бацькі выправіліся ў Салігорск, каб разам з сынам ехаць у Мінск, ім пазванілі з хуткай і сказалі: «Прыміце спачуванні».

Жанчына сцвярджае, што машына да таго часу яшчэ не даехала да Салігорска, таму цела сына павезлі назад.

«Я сваю віну адчуваю, бо не прадбачыла гэта ўсё, паслухала таго тэрапеўта. Але і незразумела, што нашаму дзіцяці рабілі, чаму ўсе маўчаць? Нам расказваюць цяпер, што наша амбулаторная картка актыўна «рэдагуецца», каб усё прывесці да ладу, кажуць, што з'яўляюцца там прышчэпкі розныя. Я хачу, каб было празрыстае разбіральніцтва», — кажа Алена.

Яна паказала даведку аб смерці, дзе прычынай значыцца «прыроджаная інфекцыйная ці паразітарная хвароба, недакладна».

«Дык а чаму нам тады казалі ехаць у Бараўляны? Чаму быў папярэдні дыягназ — анкалогія? Што яны давалі сыну, каб тую «анкалогію» лячыць?» — задаецца пытаннем жанчына.

«Ніякіх прыроджаных хваробаў у нас не было — з раддома выпісалі з жаўтушкай. Адзінае, што ў мяне перад родамі быў трохі паніжаны гемаглабін і ў яго, адпаведна. Зрэшты, калі я нараджала, то там яшчэ тая гісторыя была — 8 вонкавых швоў і 3 унутраныя. Словам, сын мой з болем даўся, з болем і забралі», — плача Алена.

У бальніцы Нясвіжа здарэнне пакуль не каментуюць, спасылаючыся на тое, што доктар, які праводзіў тэрапію, знаходзіцца на выходным пасля некалькіх запар зменаў.

Намесніца галоўнага доктара Галіна Сікірыцкая папрасіла звяртацца пасля святаў.

Ад чаго дзіця магло «згарэць» за дзень і ці маглі ўкалоць яму нейкае «антыімуннае», як мяркуюць бацькі? Пра гэта мы запыталіся ў медыкаў з абласной дзіцячай анкалогіі.

«Найперш, тут дзіўная даведка аб смерці. Канечне, хай яна папярэдняя — бо нейкую ім павінны былі выдаць для пахавання, а дыягназ можа ўдакладняцца, — але чаму не выдалі паперы аб выніках ускрыцця? Хай бацькі гэтыя паперы патрабуюць.

Далей, у колькі выехала рэанімацыя з Нясвіжа ў Салігорск? Хай у 4 гадзіны раніцы. Але калі смерць адбылася а шостай раніцы, чаму ў пасведчанні месцам смерці значыцца Нясвіжскі раён?

А што да лейкозу, то ад яго дзіця не згарыць за суткі... Можа быць менінгіт, але ён дыягнастуецца проста.

Мне здаецца, што дзіця тут проста «прапусцілі», хай бацькі звяртаюцца ў органы для правядзення праверкі», — сказаў нам доктар.

«Гісторыя пра ўкол «антыімуннага» малаімаверная, — мяркуе ён. — Бо калі ёсць падазрэнні на лейкоз, то дзяцей, асабліва такіх малых, накіроўваюць у РНПЦ анкагематалогіі, дзе праводзяць пункцыю касцявога мозгу, даследаванні спінна-мазгавой вадкасці і іншае.

У прынцыпе, у Нясвіжскай бальніцы не можа быць такіх лекаў, бо імунасупрэсіўная тэрапія праводзіцца ў нас. У такіх выпадках задача няпрофільных дактароў — гэта толькі зніжэнне тэмпературы і падтрымка жыццёва важных органаў. Але, зрэшты, уколы могуць быць розныя, як і рэакцыя на іх — трэба ведаць, якія ў яго былі аналізы і якія давалі лекі. Патрэбна праверка», — сказаў нам доктар.

«Мы з гэтым сутыкнуліся ўпершыню, што да чаго не ведаеш, давяраеш жыццё дактарам, думаеш, усё добра», — падсумоўвае Алесь, бацька Арцёма.

**Арцём Гарбацэвіч**

**P.S.** Доктар агульнай практыкі сноўскай амбулаторыі Галіна Зізіка сказала нам, што «трэба дачакацца вынікаў экспертызы, бо ў дзяцей вельмі шмат прычын, па якіх можа узнікнуць такія сітуацыя».

Па яе словах, на такія артыкулы, як гэты, «бурна, часам неадэкватна, рэагуе электарат».

Па нашай інфармацыі, у панядзелак 8 студзеня ў Нясвіжскім раёне ўжо вялася праверка, якая мае на мэце вызначыць прычыны смерці малога.


P37.9
9. В случае смерти от последствий воздействия внешних причин (травм, отравлений, несчастных случаев, самоубийств и некоторых других): а) дата
b) вид травмы: бытовая 1, уличная (кроме транспортной) 2, дорожно-транспортная 3, школьная 4, спортивная 5, производственная травма 6, прочая 7
c) место и обстоятельство, при которых произошла травма (отравление, самоубийство, иной случай)
10. Смерть женщины наступила во время беременности – 1, родов – 2, в течение дней после родов.
11. Причина смерти (мертворождения) установлена: лечащим врачом (лицом, его заменяющим) – 1, врачом, принимавшим роды – 2, врачом, констатировавшим смерть – 3, врачом -патологоанатомом – 4, государственным медицинским судебным экспертом – 5
12. Сведения о матери мертворожденного или умершего ребенка в возрасте 0-365 (366) суток
дата рождения матери, в соответствии с документом, удостоверяющим личность 01.08.1989
образование матери: высшее - 1, среднее специальное - 2, профессионально-техническое – 3, общее среднее – 4, общее базовое – 5, общее начальное – 6, не имеет общего начального – 7
семейное положение: состоит в браке – 1, не состоит в браке – 2
13. Ребенок (плод) родился при одноплодных родах 1, первым из двойни 2, вторым из двойни 3, при других многоплодных родах 4
2018 г.

---

## Курсанты вайсковага факультэта чатыры гады збіралі грошы на выпускны. Сяржант растраціў і павесіўся

«Нашай Ніве» стала вядома пра трагедыю, якая ўвесну 2017 года адбылася на вайсковым факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР).

Выпускны курс меў адзначаць скасчэнне вучобы. Па курсанцкай завядзёнцы грошы на выпускны адкладаюцца з першага курса, так было і тут: курсанты здавалі ўнёскі свайму сяржанту, намесніку камандзіра ўзвода Яўгену Б.

Некалькі гадоў курсанты давяралі Яўгену свае грошы, але бліжэй да выпускнога выявілася, што арганізаваць свята не ўдасца: сяржант развёў сабраныя грошы на асабістыя патрэбы.

Курсанты звярнуліся па дапамогу да начальніка курса, але той толькі схаваў здарэнне ад кіраўніцтва факультэта. А неўзабаве кіраўнік змяніўся.

Новы начальнік падышоў да справы рашуча, пагаварыў з Яўгенам і — зноў-такі не паведамляючы свайму кіраўніцтву — узяў з яго слова вярнуць грошы.

У выніку сяржант папрасіў звальненне, каб нібыта з'ездзіць па грошы, але ўжо не вярнуўся. 30 сакавіка ён зрабіў сабе смерць.

«На выпускныя трэба ж сталы накрыць, машыны арандаваць і гэтак далей. Трэба было ўносіць перадаплату, а грошай — пуста. Яму трэба было кампенсаваць грошы да канца сакавіка, здаецца. Ніякіх падводных камянёў у гэтай гісторыі няма, на яго не ціснулі і не здзекаваліся, як у Печах, напрыклад. Ён сам гэта [самагубства] зрабіў», — расказаў «Нашай Ніве» сваяк загінулага.

Сваякі таксама кажуць, што памер сумы, якую Яўген быў вінны, ім не паведамілі.

Аднагрупнікі хлопца, якія сталі лейтэнантамі, колькасць грошай таксама не называюць — кажуць, што ім цяжка і не хочацца пра гэта гаварыць.

Кіраўніцтва вайсковага факультэта БДУІР не каментуе здарэння.

Паходзіў загінулы з Гродна. Ён трохі адвучыўся ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, быў адлічаны за прагулы, аднак пасля перапаступіў у БДУІР.

Хлопцу было 26 гадоў.

**Арцём Гарбацэвіч**



# «Усё па законе»: як махляры, банкі і прадаўцы мабільнікаў карыстаюцца інвалідамі

На пачатку верасня маладая пара зайшла ў салон сувязі «Алё» ў Брэсце і выбрала мабільны тэлефон. Новенькі «Хуавэй» коштам 700 рублёў вырашылі браць у крэдыт. Хуценька афармілі паперы, у якасці бонуса банк выдаў яшчэ і картку овердрафт на 2 тысячы рублёў. Гэта значыцца, можна сыходзіць у «мінус» на такую вялікую суму.

Юлія з новым тэлефонам і карткай з грашыма паехала да сябе дадому. Антон — да сябе. Пасля Антону пачалі прыходзіць смс з банка. Ён здзівіўся. Хворы на сіндром Вільямса Антон нават не зразумеў, што крэдыт афармлены на яго, бо Юля ж папрасіла яго быць паручыцелем. Пазней хлопец расказа, што пазваніў Юлі, тая сказала: «Гэта смс пра тое, што я плачу крэдыт, усё нармальна». Ён супакоіўся. А праз месяц з банка пазванілі бацькам Антона. Высветлілася, што грошы з овердрафту знялі і ані за яго, ані за мабільнік ніхто не плаціў.



Антону Савейку 32 гады. У яго сіндром Вільямса. Гэта значыць, што ён ад прыроды бязмежна даверлівы.

### Хросны бацька і крэдытаатрымальнік

Берасцейцу Антону Савейку — 32 гады. Антон хворы на сіндром Вільямса, гэта храмасомная хвароба, якая выклікана генетычнай мутацыяй. Людзі з сіндромам Вільямса заўсёды маюць характэрнае аблічча, яны вылучаюцца сярод іншых. І яны ад прыроды бязмежна даверлівыя.

Для людзей з сіндромам Вільямса вельмі часта характэрна адсутнасць абстрактнага і вобразнага мыслення, інфантыльнасць і фактычна дзіцячая непасрэднасць. Пры гэтым яны звычайна самі цягнуцца да людзей, даверлівыя і добразычлівыя, цікаўныя, лёгка ідуць на кантакт. Ды што далёка хадзіць за прыкладам: таго ж Антона добра ведае амаль увесь Брэст — хлопец заўзяты меламан, наведвае ўсе канцэрты мясцовых гуртоў.

Акрамя таго, Антон з 12 гадоў — актывіст у царкве. Цяпер дарослага ўжо хлопца знаёмыя часам просяць быць хросным бацькам. Антон ніколі не адмаўляецца — для яго гэта вялікі гонар і шчасце.

І вось у жніўні сяброўка Антона па царкве распавяла, што яе знаёмая не можа знайсці хроснага бацьку. Сама тая знаёмая вырасла ў дзіцячым доме, сваякоў не мае, дзяцей цяпер гадуе адна. Антон, канечне, пагадзіўся дапамагчы. Неўзабаве хлопец пазнаёміўся з Юляй і стаў хросным бацькам яе дачкі.

Пасля некалькі разоў Антон сустракаўся з Юляй, гуляўся з яе дзецьмі. Усё было нармальна, пакуль у кастрычніку ў кватэру не пазванілі з банка ВТБ. Высветлілася, што на хлопцы вісіць доўг.

«Антон не разумеў, што адбываецца, казаў, маўляў, знаёмай дапамог. Мы з бацькам удваіх тлумачылі сыну, што крэдыт узяў менавіта ён», — узгадвае Галіна Савейка, мама Антона.

Сам Антон тлумачыць свой учынак проста: «Я падумаў, што куме трэба дапамагчы».

«Картку Юля забрала адразу. Я не зразумеў, што за картка. Пасля мне пачалі прыходзіць смс, што грошы не плацяць. Я званіў Юлі, яна супакойвала, што ўсё добра. Але гэта была хлусня», — кажа Антон.

«Яна, напэўна, з кімсьці кансультавалася, што рабіць, каб не прыцягнулі за махлярства. Таму што адзін плацеж 50 рублёў Юлія зрабіла, пасля яшчэ адзін — 60, і ўсё. Пасля смяялася мне ў твар, казала: «Мне нічога не будзе!» — сцвярджае Галіна Савейка.

Бацькі Антона ў выніку закрылі крэдыт самі. Тэлефон забралі ў Юліі. Але ў банку паведамілі, што на хлопцу вісіць яшчэ амаль тысяча даляраў — той самы овердрафт. Бацькі пачалі пытацца ў сына: які овердрафт? Той адказваў проста: «Я не ведаю». Пасля ўзгадаў, што атрымліваў нейкую картку. Але, па словах хлопца, картку адразу забрала Юлія.

Савейкі закрылі і гэты крэдыт. Цяпер чакаюць, каб Юля аддала грошы за выкарыстаныя 2 тысячы овердрафту.

### «Нах** ты той тэлефон брала?»

У Брэсце гэта не першая такая гісторыя. У цэнтры «Асаблівае жыццё», дзе вучацца і падпрацоўваюць людзі з асаблівасцямі развіцця, такім навінам не здзівіліся. Тое ж самае ўжо адбывалася з іх падапечнымі.

27-гадовая Наталля Парада кажа, што каля 5 гадоў таму яна ўжо была ў амаль такой жа гісторыі.

«Знаёмы папрасіў дапамагчы. Казаў, што трэба грошы, каб набыць машыну ў цыгана. У мяне быў пашпарт. Пайшлі ў банк, мне далі грошы».

Наталля кажа, што не памятае сумы, як і назвы банка. Грошы аддала знаёмаму.

«Таму цыган даў машыну. Якую? Чырвоную, якая ледзь-ледзь ездзіла!» — кажа Наталля.

Па яе словах, знаёмы нічога банку не плаціў. Звярталіся ў міліцыю — нічога. Крэдыт вылічвалі з пенсіі, пакуль Наталля не расплацілася.

А паўтара года таму яна ізноў уляпалася ў крэдыт.

«Мне трэба было адрамантаваць ноўтбук. Грошай не было. Назбіраць ніяк не магла. Я ўбачыла аб'яву на слупе: «Грашовыя пазыкі». Пазваніла. Прыехаў мужчына», — распавядае Наталля.

Далей, па словах Наталлі, яны сустрэліся каля салона МТС. Мужчына паабяцаў даць ёй патрэбную на рамонт суму, калі яна возьме для яго тэлефон у крэдыт. Плаціць пабяцаў сам. Адправіў дзяўчыну ў салон — праверыць, ці атрымаецца. Сам чакаў на вуліцы.

«Я падышла з пашпартам. Спытала, ці можна ўзяць тэлефон у растэрміноўку. Ён каштаваў 7 мільёнаў. Яны праверылі ў камп'ютары, кажуць, што можна, даўгоў у вас няма», — узгадвае Наталля.

Новы знаёмы выдаў ёй мільён на першы ўнёсак за мабільнік. Тая афарміла паперы, выйшла з салона з тэлефонам. Мужчына паабяцаў, што неўзабаве сустрэнецца з Наталляй і аддасць ёй грошы, якія абяцаў. Пасля ён забраў тэлефон і ўсе паперы ды знік.

Больш мужчыны Наталля не бачыла. Праз 2 месяцы ёй прыйшла смс — у вас доўг. Пачалі прыходзіць паперы, што грошы будуць спаганяць праз суд. Яна пайшла ў міліцыю, напісала заяву, але гэта скончылася нічым.

«Дапытвалі мяне. Крычалі на мяне мацюкамі: нах** ты той тэлефон брала?».

Дапытвалі Наталлю адну — прадстаўніка цэнтра «Асаблівае жыццё» з ёй не пусцілі.

У брэсцкай міліцыі пацвердзілі: па апошняй справе правялі праверку, накіравалі дакументы ў Следчы камітэт.

Але ў Следчым камітэце няма інфармацыі па гэтай гісторыі. Гэта значыць, справу вырашылі не заводзіць.

У выніку Наталля плаціць за той мабільнік і па сёння.

«Была сума 10 з чымсьці мільёнаў. Гэта крэдыт і штрафы. Вылічвалі з пенсіі раней 900 тысяч штомесяц. Пенсія — 2 мільёны 200 тысяч. Цяпер мне засталося плаціць 5 мільёнаў, па-мойму. Цяпер з пенсіі забіраюць менш, толькі 300 тысяч».

### «Брат», «сястра» і тры крэдыты

А на 23-гадовага Сямёна Бурвана сёлета павесілі аж 3 мабільнікі.

У ліпені да яго пагрукалася ў сацсетках нейкая Наталля. Пачала рабіць хлопцу кампліменты. «Пісала: «Ты так спяваеш! Ты такі прыгожы!» — узгадвае Сямён.

Пасля сустрэліся. З Наталляй прыйшоў нейкі Уладзімір, нібыта брат. «Брат» распавёў, што яму тэрмінова патрэбны мабільнік, грошай няма, а пашпарт на візе. Папрасіў Сямёна дапамагчы.

«Я пагадзіўся. Не ведаю чаму. Мы паехалі ў салон МТС, я ўзяў тэлефон у растэрміноўку. «Самсунг» за 673 рублі», — кажа Сямён.

Хлопец аддаў мабільнік і дакументы «брату».

А на наступны дзень Уладзімір папрасіў Сямёна ўзяць у крэдыт яшчэ мабільнік. За гэта абяцаў дазволіць сустракацца з «сястрой».

На гэты раз пайшлі ў «Вэлком». Адтуль Сямён выйшаў з новым «Хуавэем». Ізноў дакументы і мабільнік забраў Уладзімір.

Пасля Сямёна папрасілі дапамагчы ў набыцці яшчэ аднаго мабільніка. Як ні дзіўна, усё атрымалася. У салоне сувязі ў гандлёвым цэнтры Сямён павесіў на сябе новы крэдыт, Уладзімір атрымаў новы мабільнік «Мейзу».

Пасля Уладзімір падбіваў Сямёна афарміць на сябе картку растэрміноўкі «Халва» (але хлопцу адмовілі ў банку), пытаўся, ці няма ў яго сваякоў ці знаёмых, якія б узялі яшчэ пару мабільнікаў у растэрміноўку. Плаціць за крэдыты Уладзімір абяцаў сам.

Але плаціць за іх сёння Сямён з пенсіі — 151 рубель штомесяц. Пенсія ў хлопца — 187 рублёў.

### Вінаватыя не махляры, а банкі?

Адносна паспяхова скончылася толькі адна справа — Сямёна Бурвана. І тое толькі таму, што там было відавочнае махлярства з вялікай колькасцю эпізодаў і пацярпелых. Крымінальную справу нядаўна перадалі ў суд. У ёй 115 эпізодаў, падазраваны завалодаў 140 мабільнікамі, цяпер яго ўсё ж будуць судзіць за махлярства.

Як бы цынічна гэта ні гучала, у выпадку з Сямёнам махляроў згубіла сквапнасць. Каб яны абмежаваліся адным тэлефонам, даказаць махлярства было б няпроста. Плюс падазраваны — асабліва не судзімы, з добрымі характарыстыкамі — заўсёды можа заявіць, што не планаваў нікога падманваць і прызнаць доўг.

Як і атрымалася ў гісторыі з Антонам Савейкам. Крымінальную справу заводзіць адмовіліся, бо Юлія прызнала доўг і абяцае грошы аддаць.

Гэта разумеюць і бацькі інвалідаў, і сацыяльныя работнікі. Яны часта сутыкаюцца з тым, што іх дзяцей падманваюць ці выкарыстоўваюць несумленныя людзі.

«Падмануць такіх людзей, як Антон, вельмі проста. Яго самога калісьці проста сярод белага дня разувалі на вуліцы — падышлі нейкія хлопцы, сказалі: «У цябе басаножкі не крутыя, давай здымай, зараз нармальныя прынясем». У выніку босага і заплаканага сына прывезла дамой міліцыя», — кажа Галіна Савейка.

Галоўная прэтэнзія ў яе — да банка і салонаў сувязі.

«Так, грошы мы згубілі. Сума немалая, але для нас некрытычная. Але галоўнае пытанне да банка, бо ён фактычна зброя ў руках махляроў. Чаму не праверылі дакладна даходах Антона? Навошта навязалі яму той овердрафт, пра які ён не прасіў? Чаму дакументы аддалі трэцяй асобе? Чаму сістэма працуе так, што фактычна дапамагае махляру падставіць чалавека?»

Сам Антон сцвярджае, што касірка проста спытала, колькі ён зарабляе. У адказ ён распавёў, што атрымлівае пенсію па інваліднасці плюс невялікую зарплату на прадпрыемстве, дзе працуюць інваліды. Гэта не засмуціла работніцу банка.

І касірка банка, і Юлія адказваюць: Антон ведаў, што крэдыт бярэ ён. Картку і паперы нібыта сам аддаў Юліі.

Галіна Савейка пісала ў ВТБ-банк. У адказ атрымала паперу за подпісам намесніка старшыні праўлення Дзмітрыя Фралова.

«На падставе вашага звароту было праведзена разбіральніцтва. У работніка банка, які афармляў крэдыт, запатрабавалі тлумачальную запіску. На падставе тлумачальнай запіскі можам паведаміць, што ў Савейкі Антона Мікалаевіча яўных прыкметаў наяўнасці асаблівасцяў развіцця не назіралася. Варта адзначыць, што Савейка А.Н. ясна адказваў на пытанні і адэкватна ацэньваў сітуацыю», — гаворыцца ў адказе банка.

Бацькі Наталлі нікуды, акрамя міліцыі, не звярталіся. Але адказ салона сувязі, хутчэй за ўсё, быў бы прыкладна такім жа.

### Усё кепска, але ўсё па законе

Галоўны момант тут: інваліды, якія трапіліся ў крэдытныя гісторыі, не былі пазбаўлены дзеяздольнасці. То бок, усё па законе.

«Насамрэч, такіх людзей часта не пазбаўляюць дзеяздольнасці. Прычыны простыя — гэта даволі доўгая працэдура, трэба звяртацца ў суд, дый самі бацькі часта лічаць, што калі дзіця мае асаблівасці, то яно відавочна недзеяздольнае. А некаторыя нават не хочуць, каб дзецям выстаўлялі дыягназ: хтосьці саромеецца, хтосьці спадзяецца, што зможа адаптаваць ці самастойна выцягнуць дзіця. Камусьці проста пляваць, бо нярэдка бацькі самі хворыя ці маюць праблемы з алкаголем. А самі мы не можам заняцца гэтай працэдурай — толькі сваякі», — тлумачаць сацыяльныя работнікі.

Тлумачыць сваю пазіцыю і Галіна Савейка.

«Калі я пазбаўлю Антона дзеяздольнасці, то пасля не змагу пакінуць яму кватэру. То бок, калі са мной штосьці здарыцца, над ім прыйдзецца афармляць апеку камусьці са сваякоў ці яго адправяць у псіханеўралагічны інтэрнат».

Атрымліваецца замкнёнае кола. І выйсця, якое б задавальняла ўсе бакі, з яго проста няма.

**Улад Швядовіч**

# Як «агурковыя прынцы» Альшан плююць на закон

З снежня здарылася бяда: трое маладзёнаў разбіліся на машыне пад Жыткавічамі. «Мерседэс» вылецеў у кювет, урэзаўся ў дрэва, перакуліўся. Ад машыны амаль нічога не засталося.

Высветлілася, што ўсе трое хлопцаў родам з «агурковай сталіцы» Беларусі, з Альшан. За стырном, магчыма, быў 18-гадовы хлопец без правоў — сын Івана Грыба, буйнога фермера. Іван разам з братам Міхаілам займаецца вырошчваннем агуркоў і экспартам іх у Расію. Грыбы не хавалі, што за сезон зарабляюць каля мільёна даляраў.

Альшаны вядомыя заможнасцю фермераў. У вялікіх сем'ях амаль усе працуюць на гаспадарцы. Амаль усе, пачынаючы з ранніх гадоў, маюць машыны, і машыны неблагія.

Жыццё маладога хлопца абарвалася, гэта трагедыя. Але гэта і тэндэнцыя. Праблемы з ДАІ для Альшан — не рэдкасць.

Больш за тое, трагічнае ДТЗ пад Жыткавічамі нават не першае з удзелам сям'і Грыбоў.

У 2006 годзе Сяргей Грыб, тады 21-гадовы хлопец, збіў насмерць веласіпедыстку. У 2008 годзе быў суд, хлопца прызналі вінаватым у прычыненні смерці па неасцярожнасці. Сяргей атрымаў 3 гады хатняй «хіміі». А ў 2013 годзе Сяргея Грыба ізноў падазравалі ў тым, што ён насмерць збіў чалавека — пад коламі яго BMW X5 загінуў 48-гадовы мужчына, які ішоў па краі праезнай часткі. Грыб, нават не спыніўшыся, з'ехаў з месца ДТЗ. Міліцыя аб'явіла план «Перахоп», праз тры дні Грыба знайшлі і затрымалі. BMW стаяў у яго ў гаражы.

Мясцовыя СМІ пісалі, што Грыб прыняў чалавека за гурбу снегу. Крымінальная справа была завездзена, але да суда не дайшло. Расследаванне было спынена, паведамілі ў Следчым камітэце. Правялі экспертызы і следчы эксперымент. Вывад — кіроўца не мог заўважыць пешахода загадзя і спыніць аўтамабіль.

Міліцыя нярэдка акцэнтавала ўвагу на сітуацыі ў «агурковым краі». Начальнік ДАІ Брэсцкай вобласці Сяргей Талатай у верасні адзначаў, што для Альшан непаўналетнія кіроўцы — гэта не рэдкасць, а «сумная заканамернасць праз папушчэнне бацькоў».

«Колькі разоў мясцовыя супрацоўнікі ДАІ і я асабіста чулі ад бацькоў, непаўналетняе дзіця якіх было затрыманае за рулём матацыкла ці аўтамабіля: а ты што, не мог уцячы? А калі дзіця скача на службовым аўто ДАІ? А калодачкі ў аўтамабілях, каб дзіця даставала да педаляў?! Гэтыя прыстасаванні робяць дзецям іх бацькі! Гэта стаўленне дарослых праектуецца на паводзіны дзяцей. Яны падвяргаюць той самай рызыцы не толькі сваё дзіця, але і іншых удзельнікаў дарожнага руху, — казаў міліцэйскі начальнік у інтэрв'ю столінскім «Навінам Палесся». — Закон адзіны для ўсіх. А што мы назіраем у Альшанах? Словы, напрыклад, пастара тут не падвяргаюць сумневу, а дзяржаўны закон трактуюць па-свойму чамусьці! Кожны рэгіён нашай краіны мае нейкія свае асаблівасці і традыцыйныя асновы, але ўсе жывуць у рамках закона. Выключэнне — Альшаны.

Гэта праблема не аднаго дня, гэты, вобразна кажучы, нарыў фармаваўся доўгія гады. Адыгралі сваю ролю і аддаленасць ад раённага і абласнога цэнтраў, і традыцыйныя асновы, якія фармаваліся гадамі, і пэўная вера, і ўпэўненасць у сваёй выключнасці...»

Навіны пра парушальнікаў ПДР і непаўналетніх бяспраўнікаў з Альшан з'яўляюцца нярэдка. У 2016 годзе даішнікі спрабавалі спыніць «Жыгулі», у адказ аўто толькі паскорыла рух. Пагоня скончылася ДТЗ — «Жыгулі» ўрэзаліся ў слуп. У салоне было 5 непаўналетніх



хлопцаў. Кіроўцу было 16 гадоў. У тым жа годзе даішнікі спынілі «Аўдзі А6», якой кіраваў таксама 16-гадовы падлетак. У наступны раз, калі даішнікі спынілі чарговага непаўналетняга бяспраўніка, вакол машыны ДАІ сабраўся натоўп, які пачаў патрабаваць адпусціць хлопца, некаторыя нават намагаліся выцягнуць яго з машыны.

Восенню 2016 года сямёра хлопцаў з Альшан перакуліліся на BMW X5 (прычым аднаго з хлопцаў перавозілі ў багажніку). Хлопцы вярталіся з пінскага начнога клуба. У выніку ДТЗ 21-гадовы кіроўца загінуў. Права на кіраванне аўтамабілем ён не меў.

Сёлета матацыкліст без правоў сыходзіў ад пагоні даішнікаў і збіў 13-гадовую дзяўчынку. Ізноў натоўп мясцовых жыхароў сабраўся вакол машыны, пазней альшанцы сцвярджалі, што хлопец не хлопец — маўляў, даішнікі падрэзалі матацыкліста.

А ў верасні даішнікі спынілі ў Альшанах «Жыгулі». Кіроўца, 16-гадовы падлетак, не толькі не меў правоў, а яшчэ і быў п'яны.

І не варта забывацца, што ў СМІ трапляюць толькі гучныя навіны пра парушэнні ДТЗ. А колькі дробных выпадкаў? А ці можна быць упэўненым, што некаторыя пытанні не вырашаюцца на месцы?

Што праблема існуе, прызнае і пастар мясцовай царквы Хрысціян Веры Евангельскай Уладзімір Чынікайла.

«Мы на гэта заўсёды рабілі акцэнт і робім, просім аб послуху. Вучым, просім. Але моладзі шмат, не ўсе паслухмяныя, — сказаў Чынікайла. — Часам моладзь не можа здаць на правы і вырашае садзіцца за стырно без іх. Той хлопец, што разбіўся ў Жыткавічах, здаецца, тры разы здаваў на правы і не здаў. І бацькі забаранялі браць машыну... Але бачыце, як яно выходзіць. Не паслухалі і паехалі. Ёсць такая праблема.

Калі правы не атрымалі, а за стырно схапіліся, тое не значыць, што бацькі гэта ўхваляюць. Ніхто не ўхваляе, папярэджваем заўсёды. Але здараецца.

Але аварыі бываюць не толькі ж у нас. Таму начальніку міліцыі можна адказаць, што вось кіраўнік Баранавіцкага ДАІ збіў жанчыну насмерць у Ляхавічах. Але ж мы не робім выснову, што ўсе начальнікі міліцыі кепскія».

**Улад Швядовіч**

# «Ён вылез проста з унітаза, з вады»: жыхар Мінска сутыкнуўся з пацукамі, што траплялі ў кватэру з каналізацыі

Аляксандр Юркевіч здымаў кватэру на першым паверсе шматкватэрнага дома на вуліцы Чарвякова ў Мінску. Заходзіць ён неяк ранкам у прыбіральню, а там на бачку сядзіць вялікі шэры пацук. Пабачыўшы чалавека, ён нырнуў у ваду ва ўнітаз і знік.

Аляксандра гэты выпадак настолькі шакаваў, што ён пераехаў на іншую кватэру і вырашыў расказаць чытачам «Нашай Нівы».

«Уявіце ж спектр маіх пачуццяў! Мы паглядзелі адзін на аднаго: той таксама не ведаў, што рабіць, але першым прыняў рашэнне, скокнуўшы ў калідор, пачаў тыкацца ў куты. Я хуценька зачыніў дзверы на кухню і ў пакой, узяўся за венік і пачаў яго заганяць назад у туалет. Нейкі час мы так ваявалі, пасля чаго ён... даў нырца ва ўнітаз!»

«Добра яшчэ, што мая дзяўчына спала», — усміхаецца Аляксандр.



Хлопец праверыў усе сцены — ніякіх дзірак не было. Выходзіць, пацук і прыйшоў з каналізацыі.

«Суседзі сказалі, што заўважылі пацука раней за мяне і пачалі ўжо труціць, — кажа Аляксандр. — Але я падумаў, што гэта іхняя вайна, а мне прасцей проста змяніць кватэру».

Спецыялісты з санэпідэмстанцыі сказалі «Нашай Ніве», што пра канкрэтную апісаную сітуацыю ім цяжка разважаць, бо гэта ўсё са словаў. Але параілі: калі вы выявіце ў сябе пацукоў, якія прыходзяць з каналізацыі, то ні ў якім разе не труцьце іх самі (могуць здохнуць у цяжкадасяжных месцах) — званіце ў санстанцыю ці ў раённы ЖЭС, яны вырашаць гэтую праблему прафесійна.

**Сямён Цыбульскі**

# Як яно — быць ростам 126 см у правінцыйным горадзе? Гісторыя Галіны

**Галіну Антоненка** ў яе горадзе ведаюць як самую маленькую жанчыну. А яшчэ як медсястру, якая робіць сапраўды бязбольныя ўколы. Нягледзячы на ўласныя падлеткавыя комплексы з нагоды 126-сантыметровага росту і няверу некаторых знаёмых і калег у тое, што яна дасць рады абавязкам медработніцы, ёй усё ўдалося.



> «Калі ўжо пабачыў жыццё, разумееш, што галоўнае — спакой, а не выгляд»

Юрый: «З Галяй за тры гады мы ні разу не пасварыліся».

Мы сустракаемся з Галінай пры канцы яе змены: са сваіх 45 гадоў 26 жанчына працуе медсястрой у Горацкай цэнтральнай раённай бальніцы. Спачатку значылася ў тэрапеўтычным аддзяленні, пасля — на заборы крыві, а потым і па сёння — у дзённым стацыянары.

«Медыцынская лінія ў нашай сям'і пачалася ад бацькі, — расказвае Галіна. — Ён спачатку займаў пасаду заатэхніка, пасля — ветэрынара. Шмат жывёл было і ў нашай гаспадарцы: мы, дзеці, бачылі, як бацька лячыў кароў, свіней, і захапляліся гэтым працэсам. Таму спачатку па яго слядах пайшла старэйшая сястра, а пазней і я — самая малодшая з пяці».

Асабіста Галіну медыцына вабіла яшчэ і таму, што праз свой дыягназ — астэахандрадысплазія (група прыроджаных захворванняў шкілета, якія адносяцца да непрапарцыйнай карлікавасці, бо суправаджаюцца ўкарачэннем канцавін) — ды іншыя хваробы ёй прыйшлося шмат паматацца па лякарнях. Дзеянні людзей у белых халатах, якія дапамагалі іншым, заварожвалі. Астэахандрадысплазія лічыцца спадчыннай хваробай. І так, бацька ў Галіны невялікі — 160 сантыметраў, але яна «выйшла» самай маленькай у іх родзе.

«Асэнсоўваць, што я не такая, як іншыя, я пачала ў школе, можа, у класе чацвёртым. Аднакласнікі раслі, а я ўсё гэтак жа стаяла апошняй у шарэнзе. Праўда, гэта не перашкаджала мне быць камандзірам класа на вайсковай падрыхтоўцы: голас у мяне гучны», — працягвае расказ пра сябе жанчына.

### «Глядзіце, якая маленькая пайшла!»

Праз маленькі рост у яе было шмат перажыванняў: «Як я змагу з'ехаць з бацькоўскай хаты і вучыцца адна ў іншым горадзе», «Як пасля здолею працаваць»... Смалы ў агонь падлівалі крыўдныя абразы кшталту «ліліпутка!». Сёння яна таксама можа пачуць на свой адрас здзіўленую рэпліку «Якая маленькая пайшла!», але рэагуе на падобныя выпадкі з усмешкай. У невялікім горадзе ўсе навідавоку і побач, таму крыўдзіцца ці хавацца бессэнсоўна.

«Я неяк усё дрэннае навучылася забываць. А хваробы прымаць як частку сябе. Бывае, прыходзяць да мяне пацыенты на ўколы і скардзяцца, як ім цяжка. А я лічу, што нельга канцэнтравацца на нядобрым», — дзеліцца філасофіяй жыцця Галіна. Змірылася яна і з тым, што ўсю вопратку прыходзіцца падшываць, а абутак замаўляць у дзіцячых крамах: затое прадаўцы, якія ведаюць яе сітуацыю, не шкадуюць рабіць на рэчы зніжкі.

Каб не ездзіць на працу з роднай вёскі Халмы, што ў Рэкцянскім сельсавеце, і не жыць пастаянна ў інтэрнаце, Галіна самастойна пабудавала хай і аднапакаёвую, але сваю кватэру. Працавала дзеля гэтага на чатырох працах.

«Сыходзіла з дому ў шэсць раніцы і вярталася апоўначы. Акрамя бальніцы, мерала ціск кіроўцам камунальнай службы, выкладала медыцыну ў аўташколах. Я люблю працаваць і хоць магу, паколькі маю трэцюю групу інваліднасці, выйсці раней на пенсію, наўрад ці буду гэта рабіць».

Пенсіі той ёй прызначана ўсяго 170 рублёў, ды яшчэ ёсць штогадовая матэрыяльная падтрымка на Дзень людзей з інваліднасцю. Больш ніякіх ільгот, хоць жанчына іх ніколі і не чакала. Час ад часу яна нават забываецца, што ў яе такі дыягназ. Рамонт у кватэры спецыяльна рабіла звычайны, а калі нешта трэба дастаць з высокай паліцы ў краме ці паднесці — ёй ніколі не адмаўляюць звычайныя мінакі, суседзі і сябры (апошніх у жанчыны шмат).

Тры гады таму на «Аднакласніках» Галіна пазнаёмілася з Юрыем. Завязалася прыемная перапіска, і хутка яны вырашылі сустрэцца. Мужчына прыехаў да яе ў Горкі з суседняга Дрыбіна.

«Памятаю, сядзелі на кухні, пілі чай. Калі ён паехаў назад дадому, я ўсё перажывала, што больш ужо не вернецца. Хаця яшчэ ў перапісцы шчыра расказала пра свой рост. Аднак не, вярнуўся. З той пары жывём разам», — згадвае Галіна.

Юрый кажа, што толькі з Галінай сустрэў чаканы душэўны спакой: «З Галяй за тры гады мы ні разу не пасварыліся. Калі зведаеш жыццё і пабачыш розных жанчын, скандалы і складанасці, а потым, нарэшце, сустракаеш спакой — шмат што пачынаеш цаніць пановаму. Няважна, прыгожы ці непрыгожы чалавек, высокі ці нізкі — справа ў тым, як табе з ім жывецца».

Пасля вечаровай гарбаты Юрый і Галіна сядаюць за прагляд сумесных фотаздымкаў: шашлыкі на лецішчы, капанне бульбы, сумесныя паездкі на мора, вяселлі і дні народзінаў сваякоў... Згадваюць самыя вясёлыя моманты і смяюцца. Калі ёсць моц сямейная, усё астатняе ўжо не так страшна.

**Кацярына Карпіцкая**



Галіна з мамай.



Усе хочуць папасці да Галіны, бо ў яе – лёгкая рука.

# Тэлевядоўца Дзяніс Кур'ян развёўся з жонкай пасля васьмі гадоў сумеснага жыцця

Ад шлюбу ў Дзяніса і яго жонкі Юлі засталіся двое дзяцей і супольны бізнэс у выглядзе сеткі блінных «Мама дома», якія яны падзялілі паміж сабой.

Пра свой развод Дзяніс распавёў толькі цяпер, хаця афіцыйна былыя муж і жонка разарвалі адносіны яшчэ ў мінулым годзе. Пара доўгі час наведвала псіхолага і спрабавала «дамовіцца», але, як відаць, не ўдалося.

Юля пакінула сабе прозвішча мужа. Дзеці таксама засталіся з ёй: Дзяніс бачыцца з імі некалькі разоў на тыдзень.

Нагадаем, яшчэ год таму пара выглядала самай шчаслівай у свеце. Дзяніс дзяліўся з журналістамі сакрэтамі шчаслівага шлюбу і публікаваў у інстаграме гарачыя фотаздымкі Юлі.

**Кацярына Карпіцкая**





# Раскрыты архівы: літоўскі акцёр Баніёніс быў агентам КГБ, а дырыжор Сандэцкіс распрацоўваў уласнага бацьку

Такія дадзеныя апублікаваў Цэнтр па даследаванні генацыду і супраціву жыхароў Літвы.

На сайце *kgbveikla.lt* паведамляецца, што Данатас Баніёніс працаваў пад імем Бронюс [Бронік]. Ён быў завербаваны ў 1970 годзе. КГБ разлічваў з яго дапамогай сабраць звесткі пра літоўцаў ЗША. Вярбоўка была, імаверна, умовай дазволу на яго паездку ў Злучаныя Штаты па запрашэнні дыяспарнай арганізацыі *Santaros Šviesa* ў 1970 годзе.

«Да паездкі агента праінструктавалі пра дзейнасць літоўцаў Злучаных Штатаў Амерыкі, з ім таксама падзяліліся каштоўнай інфармацыяй і расказалі пра ўскладзеныя на яго задачы, якія ён выканаў. Агент увайшоў у кантакт з некаторымі літоўскімі эмігрантамі, якія цікавілі КГБ. Ён падаў іх характарыстыку. Гэта магло б палегчыць аператыўную працу [сачэнне] падчас наведвання гэтымі людзьмі Літвы», — гаворыцца на сайце.

У 1974 годзе Баніёніс перастаў быць агентам — мусіць, таму, што ў тым годзе ён быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета ЛССР», — адзначаюць архівісты.

Баніёніс быў адным з самых вядомых літоўскіх акцёраў. Ён актыўна здымаўся ў Расіі нават пасля развалу СССР.

Як высветлілася, супрацоўнічаў з КГБ і выбітны літоўскі дырыжор Саўлюс Сандэцкіс. Яго завербавалі ў 1962 годзе. Ён працаваў пад імем Салютас і ў агентурнай сетцы фігураваў да 1982 года. КГБ хацеў з дапамогай Сандэцкіса-сына вярнуць з эміграцыі Сандэцкіса-бацьку. У 1967 годзе КГБ атрымаў інфармацыю пра тое, што Яцкус Сандэцкіс хацеў звязацца са сваім сынам, і вырашыў скарыстацца гэтым. Мэтай савецкай спецслужбы было, каб сын паўплываў на бацьку, каб той адмовіўся ад антысавецкай дзейнасці і прыехаў у Літву. У 1968 годзе сустрэчу бацькі і сына арганізавалі ў Канадзе, куды Саўлюс Сандэцкіс адправіўся з канцэртамі.

Данатас Баніёніс памёр у 2014 годзе ў 90 гадоў. Сандэцкіс памёр у 2016 годзе ў 88-гадовым узросце.

Літва, як і іншыя краіны Балтыі, разглядае перыяд 1940—1990 гадоў як перыяд савецкай акупацыі, а КГБ — як структуру акупацыйнай адміністрацыі.

**Сяргей Гезгала**

# Ідэальныя зімовыя пернічкі — грэюць не толькі душу

Традыцыя рабіць печыва са спецыямі на Раство існуе ў многіх народаў. Яго неймаверны водар і саграваючы, крыху пякучы смак цудоўна спалучаюцца з атмасферай зімовых святаў і надаюць ім утульнасці.

Я прапаную рэцэпт такога печыва ад нашых заходніх суседзяў палякаў, што адшукала на партале *kwestiasmaku.com.* Падобнае печыва часта называюць «пернічкамі», а цеста для яго робяць найчасцей з гатовай сумессю спецый, якая так і называецца — «*przyprawa do piernika*». Не ведаю, ці нешта падобнае прадаецца ў нас, але калі не — не бяда, яе можна зрабіць і самастойна.

Аснову такой сумесі звычайна складаюць цынамон, імбір, гваздзік і мускатны арэх у прапорцыі прыкладна 4:2:1:0,5. Таксама ў яе можна дадаць кардамон, каляндру, духмяны перац, аніс — усё залежыць ад вашых упадабанняў.



**Вам спатрэбіцца:**

150 г масла
100 г цукровай пудры
1 яйка
2 ч.л. мёду
1,5 ст.л. прыправы для перніка
250 г мукі
0,5 ч.л. разрыхляльніку

**Як гатаваць:**

1. Мяккае масла ўзбіць з цукровай пудрай у пышную масу. Дадаць яйка і ўзбіваць яшчэ пару хвілін.
2. Дадаць мёд і прыправу, перамяшаць. Дадаць муку з разрыхляльнікам, замясіць гладкае эластычнае цеста (мукі можа спатрэбіцца крыху больш). Цеста сабраць у шар, загарнуць у плёнку і пакласці ў халадзільнік мінімум на гадзіну.
3. Раскачаць цеста таўшчынёй каля 3 мм, выразаць пячэнькі, выкласці на бляху (найлепей гэта рабіць у некалькі заходаў, пакідаючы рэшту цеста ў халадзільніку).
4. Выпякаць на 180°C 10—15 хвілін.

Вясёлых і смачных святаў!

**Юлія Міцкевіч**

# У Жодзіне пенсіянер прыйшоў у краму і застрэліў гандляра сантэхнікай, каб адпомсціць за дачку

Каля 11-й гадзіны раніцы 14 снежня ў жодзінскую краму па продажы сантэхнікі зайшоў немалады мужчына. Ён дастаў паляўнічую стрэльбу і забіў 46-гадовага гаспадара крамы. Пасля чаго ўбачыў на вуліцы міліцэйскі патруль і паведаміў, што забіў знаёмага.

63-гадовага мужчыну затрымалі.

Як тлумачыць мясцовы партал *ex-Press.by*, бізнэсам па продажы сантэхнікі валодаў прадпрымальнік Васіль [імёны зменены — Рэд.]. Ён пакінуў сямейную справу двум сынам, Антону і Уладзіміру.

Аднак некалькі гадоў таму Антон трапіў у аўтакатастрофу. Сам загінуў, а яго жонка Аксана засталася інвалідам з маленькім дзіцём на руках.

Тым не менш другі брат-бізнэсмен, Уладзімір, нібыта адсудзіў сабе не толькі бізнэс, але і кватэру загінулага брата.

І вось цяпер бацька Аксаны прыйшоў адпомсціць за дачку.

**УШ**

# Як Наста і Зміцер Дашкевічы закалолі свінку

## Адзін дзень з жыцця маладой сям'і за 200 км ад сталіцы

Дзея адбываецца ў вёсцы Падгалле Любанскага раёна. Усе імёны сапраўдныя — так, тут ёсць Наста і Зміцер Дашкевічы, цёзкі ды амаль аднагодкі вядомай мінскай маладафронтаўскай сям'і. Чым жа розняцца ад сталічных і чым падобныя іх жыццё і праблемы?


Сяргей Гудзілін

Усё робіцца ў поўным маўчанні, як вывераны рытуал. Удзельнікі і гледачы засяроджаныя, нібы граюць п'есу.

Адчыняюцца дзверы, і з катушка ў доўгі калідор хлява, між загарадак з козамі, выскоквае чорная свіння. Прабягае ў другі канец, да дзвярэй на вуліцу, замкнутых на крук, кідаецца на іх, разварочваецца і хаваецца ў куце.

Следам выходзіць Зміцер Дашкевіч, шугае яе. Свіння бяжыць назад у свой хлевушок. Зміцер заходзіць следам. Дзверы зачыняюцца.

Пяць хвілін маўчання. Дзверы адчыняюцца зноў. Гэтым разам Зміцер цягне свінню за заднія ногі. Праз увесь хлеў, да шырэйшай пляцоўкі перад выхадам.

Кладзе. Наступае нагой на вяроўку, якой звязаныя заднія ногі. Рукамі ловіць пярэднюю нагу, пераварочвае ахвяру на спіну. Сядае на яе, прыціскае да зямлі.

На ўсё гэта са сваіх загарадак, як з партэра на сцэну, неадрыўна глядзяць дзесяць коз. Цішыню рве часты і роўны, як пад метраном, брэх малога сабачкі, якога не ўдалося вытурыць з хлява перад пачаткам.

Зміцер вядзе рукой вакол па падлозе, шукаючы швайку. Гэта спецыяльная завостраная спіца, другі канец якой выгнуты кольцам. У кольца ўстаўляецца палец, швайка заціскаецца ў кулак. Зміцер акуратна, але з сілай уганяе вастрыё свінні пад лапатку. Прыслухаўшыся, лаканічна каментуе: «Сэрца наскрозь».

Вонкава нічога не змяняецца. Няма фантана крыві, няма роспачнага віску. Свіння нейкі час моўчкі «даходзіць». Зміцер застаецца сядзець на ёй. Хвілін праз пяць яна пачынае выгінаць спіну і сукаць нагамі: сутаргі. Канец.

Праз увесь двор ахвяру ў ганаровым суправаджэнні сабак цягнуць за ногі да месца смалення. У пашчу ёй укладаецца цагліна, каб не спякліся вантробы. Зміцер доўга чаруе з «машынкай» — паяльнай лямпай, якая ўсё ніяк не разгарыцца як след.

З хаты яму прыходзіць дапамагаць жонка Наста. Усчынаецца кароткая дыскусія, ці тую свінню Зміцер закалоў. «Бацька сказаў любую браць. Я паглядзеў, за каторай парасяты пабеглі, — тую не чапаў...»

Так выглядаюць бухавіны на Любаншчыне на Каляды-2017. Удакладняем: свіння была в'етнамскай пароды кілаграмаў на сорак. Такіх яшчэ гадоў дваццаць таму ў беларускай вёсцы не зналі, а цяпер яны папулярныя.


Сяргей Гудзілін

### Дом з эркерам

У Падгаллі жывуць бацькі Насты. У іх вялікі, з фантазіяй збудаваны дом на некалькі ўзроўняў з паўкруглым, накшталт важкай раманскай вежы, эркерам. Сцены звонку белыя, тынкаваныя, усярэдзіне шаляваныя дрэвам, паравое ацяпленне, дзве печы (адна з плітой, другая з ляжанкай), «зручнасці» — унітаз і душ — пры кухні за шырмачкай.

На адной са сцен вялікага пакоя — дыван з выявай Багародзіцы. «Але гэта хутчэй упрыгажэнне: мы атэісты», — каментуе Наста.

«Можна вам пазайздросціць — у такім доме раслі», — кажу. Яна рэагуе з лёгкім раздражненнем: «З гэтага дома я толькі ў 11-ы клас пайшла». А ўсё яе дзяцінства сям'я з пяці чалавек пражыла ў часовым буданчыку з аднаго пакоя і неацепленай кухні: «Бацька дзесяць год дом будаваў».

### Гісторыя аднаго фермера

Мы гутарым з Насціным бацькам, Андрэем Лапцікам, уладкаваўшыся на фатэлях у гасцёўні, палову якой складае той самы эркер. Тут жа круціцца малая дачка Дашкевічаў, Анечка. Дзед між справай паказвае ёй «казу» і спявае, замест пацешкі, песню Высоцкага пра Бермудскі трохкутнік.

Маракоў, докераў, што за Саветамі яшчэ хапнулі салёнага ветру і нармальных грошай, відно і праз дзесяцігоддзі — нейкая ў іх ёсць шырыня, балагурыстасць. І байкі, бясконцыя байкі.

Спадар Андрэй са страчанага пакалення, якое яшчэ чакае свайго Рэмарка. Рамантыкі, дзеці перабудовы, што ў пачатку 90-х кінулі чужыну ды авантур на вярнуліся заводзіць бізнэсы на зямлю продкаў.

Андрэй выехаў з Беларусі яшчэ ў 70-я — ледзь скончыўшы школу. Быў зваршчыкам, працаваў у эстонскіх карабельных доках, у калгасе эстонскім, які нават у тыя часы быў больш падобны да капіталістычнай гаспадаркі. Хацеў і на радзіме займацца фермерствам. Прыязджаў, як стала незалежнасць, «зандзіраваў глебу». Не цураўся грамадскай дзейнасці — прайшоў мінскія мітынгі, ведаў Пазняка і Хадыку, быў у Сялянскай партыі. Раённае ды калгаснае начальства давала зялёнае святло, абяцала яму ўрадлівыя землі на выбар. Тут, над ракой Арэсай, ён думаў і сваю гаспадарку разгарнуць, і яшчэ сем чалавек у раёне загітаваў у фермеры. Але як толькі выпісаўся з Эстоніі ў 1992-м, перавёз сям'ю — усё застапарылася.

Спачатку не давалі зямлі, пасля далі такое балота, што лепш не давалі б зусім. Біўся на тых палетках, з якіх у мокры год гектараў дзесяць можна было не засяваць увогуле. Круціўся, судзіўся, дабіваўся, а ўрэшце махнуў рукой. Сапсаваны трактар, палова камбайна ды ржавыя фрагменты іншай буйной сельгастэхнікі, раскіданыя па ўчастку, нагадваюць пра той перыяд жыцця. За-

сталася яшчэ прыказка «назло ворагам», якой часта перасыпае свой аповяд гэты марак на сушы.

На вокнах у гасцёўні — кандэнсат: дом слабавата трымае цяпло.

### Батарэйкі «Дзеці пракурора»

Цяпер Андрэй загадвае сельскім клубам, але ці ўдасца дабыць да пенсіі, не ведае: «Летась у нас памерла пяцьдзясят, нарадзілася — чатыры. Мёртвыя душы трымаюць у спісах, каб статыстыку не псаваць. У школе некаторых класаў няма зусім. Зачыняць і клуб праз пару год».

Энергічная натура спадара Андрэя і ў клубнай дзейнасці знаходзіць задавальненне. Ён арганізаваў каманду КВЗ, у якой грае ўся яго сям'я, а сам ён капітан. КВЗ на Любаншчыне папулярны, спаборніцтвы мясцовых каманд збіраюць поўныя залы. Андрэй успамінае, як перад гульнямі паламаў нагу і выходзіў на сцэну з мыліцамі.

«Мы ў раёне самая любімая каманда ў насельніцтва, а вобласць нас заваьвае. Ім трэба перад гульнёй сцэнар паказваць з усімі жартамі для зацвярджэння. І яны адразу выкрэсліваюць тое, што нельга казаць. А скажаш — нулявая адзнака будзе. У нас быў такі жарт: батарэйкі «Дзеці пракурора» ніколі не сядуць. Наш раённы пракурор сам быў у журы — клаўся ад смеху. А паехалі на вобласць — гэты жарт выкраслілі».

### «Я кабана забіваць не буду»

Яшчэ адным вынікам фермерства стала тое, што дзяцей Андрэя Лапціка на 180 градусаў адвярнула ад сельскай гаспадаркі, і прафесіі яны сабе абралі выключна інтэлігентныя. Самым адаптаваным да вясковай работы выглядае зяць Зміцер — гарадскі хлопец з Клецка.

«Я кабана забіваць не буду», — катэгарычна казаў раніцай малодшы брат Насты. Ён вывучыўся ў Мазырскім педуніверсітэце на настаўніка матэматыкі і інфарматыкі, сёлета ажаніўся з дзяўчынай, на курс маладзейшай, ды прывёў яе ў бацькоўскі дом. На запясцях у абаіх — татуіроўкі: зрабілі пасля вяселля на памяць. Маладыя адпрацоўваюць размеркаванне ў мясцовай школе, а ў выходны разам ляпяць катлеты ў кухні пад жорсткую гітарную музыку.

### Праблемы IT-краіны

Сама Наста скончыла журфак БДУ, працавала ў раёнцы «Голас Любаншчыны», пакуль не выйшла ў дэкрэт. Яны са Змітром і паўтарагадовай Аняй жывуць у Касцюках. Гэта вёска пры самай Любані. Там сям'я не так даўно купіла дом.

Каштаваў будынак са шлакаблоку на шэсць пакояў 1961 года пабудовы каля пятнаццаці тысяч даляраў. Робяць яшчэ рамонт, дабіваюцца тэлефона. Бо на іх вуліцы няма свабодных ліній. У тэлефонных сетках наўпрост сказалі: мы вам адным лінію цягнуць не будзем, чакайце, пакуль якая з вашых суседак-пенсіянерак памрэ, тады забераце сабе яе нумар.

Як няма стацыянарнага тэлефона, дык і доступ да інтэрнэту маецца толькі праз мабільнік — і даражэй, і не так зручна.

Яшчэ адна праблема — доктара не дазвацца. За паўтара года да малой прыходзілі паўтара раза, хоць мусяць рэгулярна. «Я сама раз прыходжу ў бальніцу з малой, а яны кажуць мне: мы да вас ходзім-ходзім, а вас усё дома няма. Дзе ж я, цікава, мала быць, калі не дома», — іранізуе Наста.

Вось такія праблемы бываюць у краіне, дзе перамог біткойн.

### Чаму іх выгадна трымаць

Пры доме Дашкевічаў — гектар зямлі. Можна сад пасадзіць. Але ні гарода вялікага, ні гаспадаркі Насце не хочацца. Сям'я трымае сабаку-лабрадора і ката. «Мама ўвесь час мне прапануе: вазьміце казу, вазьміце парася... Але я гаспадаркай назаймалася, калі з бацькамі жыла. Мы кароў трымалі раней, кожнай тры вядры вады трэба ў дзень: пакуль напоіш — рук не чуеш».

Скруцілі гаспадарку і бацькі: кароў даўно няма, у прадзіманым вятрамі хляве з цыратай на вокнах жыве статак казоў ды непатрабавальныя в'етнамскія парсючкі.

Ім, кажа Андрэй Лапцік, не трэба ні бульбы, ні камбікорму. Усё лета яны гадуюцца ў загоне на траве, а восенню — на гарбузах, якіх тут тоны нарастаюць. Так што свінні хоць і невялікія, але дзяшовыя ва ўтрыманні, і плодзяцца — страх: свінаматка па дзесяць-пятнаццаць парасят за раз прыводзіць.

Аднаго з іх і закалолі перад Калядамі.

### Праблемны год

2017-ы для сям'і Дашкевічаў быў няпросты: Зміцер не меў сталай працы. Ён, скончыўшы індустрыяльна-педагагічны каледж, працаваў інструктарам па кіраванні ў ліцэі, механікам і запраўшчыкам на льнозаводзе ў Любані. Але калі там на яго паспрабавалі павесіць растрату паліва, сышоў.

Доўгі час не мог нідзе ўладкавацца, вось цяпер знайшоў месца ў прыватнай фірме, якая прымае ад насельніцтва скаціну на мяса. Абяцаюць там заробак рублёў пяцьсот-шэсцьсот у пачатку, пасля мо болей.

Работа ў перспектыве будзе «чыстая», не ў мясным цэху. Абавязак Змітра — разам з падначаленымі і ветэрынарам кантраляваць двор, на які прывозяць скаціну, заганяць кароў у цэх, пасля забою праводзіць дэзынфекцыю, сачыць, каб двор заўжды заставаўся чыстым. Вось і сёння з раніцы, як сям'я сабралася да бацькоў біць свінню, яго выклікалі на працу: прывезлі з калгаса чатырох кароў.

Таму ў Падгалле Зміцер прыехаў толькі пад сярэдзіну дня, ужо ў рабочым камбінезоне і з устойлівым пахам смерці за плячыма. Гэта адчуваюць два вялікія, але таварыскага складу дваравыя сабакі, якія з верным віскатам суправаджаюць яго.

### «Мы не ведалі, што ты такі небяспечны»

Зміцер Дашкевіч і вонкава падобны да свайго цёзкі-маладафронтаўца. Хіба трохі ніжэйшы ростам. Да супадзення імёнаў ён ставіцца з іроніяй. У 2010-м, калі апазіцыянер Дашкевіч перад самымі выбарамі трапіў у турму, са Змітра пачалі жартаваць у сацыяльных сетках некаторыя знаёмыя: «Мы не ведалі, што ты такі небяспечны чалавек!»

У яго 18-гадовым «Опелі»-ўніверсале вісіць георгіеўская стужачка. Але трэба ведаць, што машыну падарыў сваяк з Расіі, прыгнаўшы аж з Северамарска.

Зміцер гаворыць трасянкай, Наста — падкрэслена чыста па-беларуску («я ж журналіст!»).

«Я ў 2010-м была на другім курсе, — успамінае яна. — І я не хадзіла на Плошчу. Не верыла ў гэта ўсё. І цяпер, мне здаецца, няма ў Беларусі дзеяча, які б выклікаў давер і мог штосьці змяніць. Мне падабаецца Захаранка. Я глядзела відэа яго выступаў, чытала пра яго. Мяне захапляе, што чалавек паўстаў супраць сілы ў абарону закона. Калі б такі лідар з'явіўся зараз, я б за ім пайшла».



Зміцер скончыў індустрыяльна-педагагічны каледж, але працуе ў прыватнай фірме.



Андрэй Лапцік, бацька Насты, вярнуўся ў Беларусь з Эстоніі, каб стаць фермерам.



### Мара пра «Зорку Венеру»

Зміцер і Наста жанатыя шосты год. Адпачыць дзесьці выпадае, мякка кажучы, не заўсёды: у вясельнае падарожжа з'ездзілі ў Чарнагорыю, пасля раз — да маміных сваякоў у Расію, у Белгародскую вобласць. Затое практыкуюць бліжэйшыя вандроўкі і нават маюць арыгінальную навагоднюю традыцыю. «Мы на Новы год стол не робім — едзем кудынебудзь. Летась былі ў Пінску, гулялі па горадзе. І малую ўзялі — захуталі, насілі з сабой. Сёлета ў Рэчыцу збіраемся», — расказвае Наста.

Фантастыка і выдуманыя сусветы захапляюць Насту Дашкевіч: Пітэр Джэксан, «Марвел». «Песня лёду і полымя» ў яе электроннай чыталцы... Ёсць і навагодняя мара. Яна мае прыгожую назву «Зорка Венера». Гэта кінатэатр у Салігорску. Туды пасля новага года Наста, пакінуўшы дачку на родных, на вечар уцячэ глядзець новыя «Зорныя войны».

**Андрэй Скурко,**
**фоты Сяргея Гудзіліна**

*Гэты рэпартаж быў падрыхтаваны дзякуючы Алесю Плотку.*

# Свінства

## Піша Таццяна Барысік.



На фотах: дружная сям'я Емельяновічаў з вёскі Паплава Навагрудскага раёна.

ФОТЫ СЯРГЕЯ ЗІНІНА

**«Добра, што збавіліся ад гэтага свінства!» — ледзь не штодня паўтарала бабуля тым летам, і было незразумела, чаго болей у яе словах: спробы канчаткова пераканаць самую сябе ці праўдзівай уцехі. Тое лета 96-га насамрэч было для нас адметным. Першае лета без парсюкоў, але пакуль што з паляндвічкамі ў кладоўцы. Адважыцца збавіцца ад свінства бабуля не асмельвалася гадоў пяць, нягледзячы на ўгаворы дзяцей і стан здароўя.**

«Нашто вам тыя свінні? Колькі вам з бацькам таго мяса трэба, у цябе ж ногі хворыя, ледзьве па хаце соваешся. Не так яно і выгадна цяпер стала, падаражэла ўсё: і хлеб, і крупы — і камбікорм не надта вязуць...» Бабуля слухала, пагаджалася... А вясною зноўку два лычы рохкалі ў хлеўчуку.

Яна была працавітай, практычнай, ашчаднай. Найперш усведамляла сябе дужай і спраўнай да любой працы гаспадыняй сядзібы і падворка, і толькі пасля маці і настаўніцай. Галоўным было самой заўжды рабіць работу і сачыць, каб сям'я таксама не лайдачыла. Казала: «Скупы — не дурны. Запас бяды не чыніць. Чым дабру прападаць — дык няхай жывот лопне!» Але пры гэтым, у які б час сутак ні завітаў дарагі госць, заўжды мела чым прыняць, бо «людзі глядзяць, што на стале, а не па вуглох».

Калегі па працы і сябры, прыгадваючы яе, заўжды прыгадвалі таксама хатнія бяседы, вэнджаныя паляндвічкі ды каўбасы. Цяпер такіх ані на кірмашы, ані ў краме не знойдзеш. Таму бабуля не магла развітацца са «свінствам» нават тады, калі ўжо нават на ганак не выходзіла і ўсю работу рабіла седзячы.

Словы «свіння» і «свінства» для мяне ніколі не мелі агульнапрынятай негатыўнай афарбоўкі. Байка «Ганарысты парсюк», чытаная ў падручніку, нічога не змяніла. Памятнае з маленства: «Дзюдзі кажуць: «Рох-рох-рох, смачны параны гарох...» — аказалася мацнейшым. Пабачыўшы ў школьныя гады артыкул у газеце пра тое, што свінню можна навучыць тым самым камандам, як і сабаку, але за больш кароткі тэрмін, я не здзівілася. Бо суседскі дурны сабака брахаў на мяне, на нашым двары стоячы. А вось нашыя кабанчыкі, хаця і толькі зблізку, заўжды пазнавалі гаспадароў. Як усе свінні на свеце створаныя зямлю рыць, а не лічыць зоркі на небе, яны няздольныя ўздымаць галовы ўгару. Падчас сваіх рэдкіх шпацыраў па двары, заўважыўшы здалёк любыя чалавечыя ногі ля брамкі, з віскатам і рохканнем наша свінства ляцела насустрач. Аднак, наблізіўшыся і пабачыўшы малазнаёмую асобу без вядра ў руках, рэзка спынялася і, развярнуўшыся з ранейшым імпэтам, навыперадкі імчэла прэч. Хаця параўнанні былі не на карысць суседскага сабакі, але дрэсіраваць парасят, ездзіць на іх, ганяць па двары не прыходзіла нам з сястрою ў галаву, бо разумелі: старэйшыя не пахваляць — нашыя свінні не для гэтага. Іх можна толькі пагладзіць, пачухаць за вухам і, канешне, карміць.

Бабуля карміла парасят мяшанкаю тройчы на дзень, апроч таго, паміж асноўнымі прыёмамі ежы ім кідалі не менш за два кошыкі зелля і паданкі. Буйныя яблыкі трэба было рэзаць на кавалкі, бо «ў кабанчыка няма рукі ўзяць», з ігрушаў выразаць сярэдзіны і хвасты, каб не забіўся страўнік.

Варылася ў чыгуне і таўклася секачом бульба, падмешвалася мука да першага падарожання купляная, рэзаны гарбузнік, бацвінне, ашпараная крапіва, у куце заўжды стаяў картапляны мех з крупамі-сечанкай, адмыслова для свіней у гародзе развялі, а пасля ніяк не маглі звесці земляную грушу. Пакуль было магчыма, крышылі хлеб, у 80-я гады ніхто з гаспадароў у краме менш за 8 —10 боханаў не купляў. Усё, што не даелі людзі, апроч супу, на свіным булёне вараным, — «адзін аднаго есці будуць», — даядалі парасяты.

**Умеюць гэтыя істоты, як не хто іншы, цаніць найлепшыя моманты свайго існавання – сытны абед ды мяккую чыстую пасцелю**

Летам да гадавання свінства далучаліся і мы з сястрою. Ужо гадоў у 8—9 ірвалі зелле, збіралі паданкі шчэ раней. Спярша дзеля выхавання і прывучэння да працы, пасля — у нашай дапамозе з'явілася рэальная патрэба: бабуліна здароўе год ад году горшала, дзядуля таксама не маладзеў. Не скажу, што рваць



Дзеці збудавалі сабе са снегу пячору. Пры нашым клімаце цяпер – рэдкая радасць.

зелле, ды яшчэ ў барознах, а заадно і бульбу прапалваць, у дзяцінстве і ранняй маладосці надта падабалася. Рэзаць паданкі, асабліва калі іх назбіралася 3 кошыкі, таксама. Іншая справа — гарбузнік! Трашчыць, смачна хрумкае пад нажом, аж сакавітыя пырскі ляцяць, да таго ж на ганку рэжаш, а не ў хаце — бачна, хто па вуліцы ідзе.

Свінні жылі ў векавой будыніне з тоўстых бярвёнаў, збудаванай яшчэ бабуліным дзедам і падзеленай на дзве палавіны — варыўню і свіран. У куце свірна, напамінкам пра ягоную былую веліч, стаялі жорны. У засеку насупраць ляжаў торфабрыкет, трохі далей, злева за нізкаю брамкай, месціўся загон для свіней памерам з ладную маласямейку, тут у любую пару панавалі прыцемкі і прахалода, праз маленечкае акенца бруілася святло, па вуглах тулііся драўляныя колы ад падводы, бабуля казала, гэта для таго, каб вуглы не гнілі, а людзі казалі, што яна «нешта знае». Свінням было зручна: рый колькі хочаш — нічога не звернеш, людзям не вельмі. Пры ўваходзе — суцэльны змрок, за доўгія гады асела і земляная падлога, і сама будыніна. Адчыніць дубовыя дзверы, ступіць на паўметра ўніз з кошыкам зелля ці вядром мяшанкі, не ляснуўшыся галавою аб вушак, удавалася не заўсёды.

Амерыканскую канюшыну з лебядою ды паданкі насілі ў свіран змалку, мяшанку ўжо як у сілу ўвабраліся, шкадуючы дзядулю. Карміць «свінства» падабалася. У гэтых жывёлаў цудоўны апетыт, а погляд на жыццё самы пазітыўны! Ужо пачуўшы крокі знадворку, яны голасна вітаюць цябе рохканнем і адзін перад адным лезуць да карыта так, што могуць і вядро з харчам перакуліць, таму кідаеш спярша шматок зелля, каб адцягнуць іхнюю ўвагу, ці адагнаць спрабуеш. Без толку! Усе лычы і галовы ў мяшанцы! Ядуць так, што ажно вушы варушацца. Умеюць гэтыя істоты, як не хто іншы, цаніць найлепшыя моманты свайго існавання — сытны абед ды мяккую чыстую пасцелю. На свежай саломе качаюцца, куляюцца, віскочуць! Хадзіць па падсцёл, як трохі пасталела, таксама падабалася, асабліва жніеньскай ночкай да калгасных сціртаў. Па-першае, якая-ніякая прыгода і рызыка, падругое, ад адной-дзвюх ношак саломы ў бабулі настрой лепшаў, а значыць, не было ахвоты бурчаць з-за позніх нашых пагулянак.

Першая мая свежына надарылася ў дванаццаць гадоў. Была лютаўская адліга, на гравійцы с*тая*ў увесь снег, бацька жартам прапанаваў заадно пасадзіць бульбу, каб два разы не ездзіць. Тады я толькі пазірала на тое, што і як робіць суседка з бабуляю, на скрутак кішак у ночвах, вантробы ў тазе ды крывавую конаўку. Другім разам прыехала памочніцаю ўжо, на бабуліна запрашэнне. Бабуля вырашыла, што так будзе лепш: не трэба паіць суседку, даваць ёй мяса, дый робіць яна неахайна.

«Колькі можна пісаць пра гэтыя смаленні вепрукоў ды дзяльбу кабанчыкаў!» — абураюцца некаторыя. Далёкім ад традыцыйнай культуры людзям сапраўды цяжка зразумець, чым гэтая тэма так вабіць. Для гарадскога вяскоўца свежына — адзіная пазбаўленая трагічных колераў экзістэнцыйная з'ява. Нагода для родзічаў, раскіданых па розных гарадах, зноў сабрацца ў адну сям'ю, незамыленым вокам, па-за будзённымі абставінамі паглядзець на ўласнае жыццё, на тых, хто побач з табою, і зрабіць высновы, часам нечаканыя, часам не надта прыемныя. Бадай усе літаратурныя творы — ад прафесійных апавяданняў да фальклорных показак — напісаны пра гэта. У кожнай беларускай сям'і знойдзецца сваяк, адзін ці некалькі,


А хлопчык прыглядаецца да работы дарослых.


Кроў збіраюць на крывянку.


А ў снезе астывае галава.

так ці інакш падобны да персанажа вядомага анекдота, які просіць вясковых родзічаў: «Калі будзеце кабана біць, дык пакіньце мне задні мост. Той ліст, у якім вы прасілі памагчы капаць бульбу, я не атрымаў».

І неабавязкова чакаць хваробаў, хаўтураў ці надзвычайных здарэнняў — дастаткова і памінак белае свінкі, каб зразумець: падтрымкі ці ахвяры ад такога не дачакаешся, ён разумны толькі ў свой бок, ніколі сябе не абдзеліць.

Калі б у мяне была магчымасць абраць найлепшыя моманты дзяцінства і юнацтва, пражыць іх яшчэ раз, я б без сумневаў абрала паездкі на свежыну. Яны надараліся двойчы на год. Успаміны пра гэтую ўрачыстасць, даўжынёю два-тры дні, яскравыя і шматколерныя, здаецца, тое толькі ўчора было.

Больш як паўдня ў дарозе з некалькімі перасадкамі. Спярша едзем з Магілёва аўтобусам да Бабруйска праз Кіраўск ці дызелем да Асіповічаў, а далей — як пашчасціць. Ужо цёмначы дабіраемся да Глушы, наперадзе чакае шлях даўжынёю сем кіламетраў па бязлюднай зімовай гравійцы, заснежаны лес, буйныя зоркі ў небе, гул старых соснаў і бацькава заўсёднае: «Мо заспяваем — няхай дома пачуюць!» Спеваком і музыкам ён не быў, але вось калоць і разбіраць свіней умеў добра.

Ягонае жаданне спяваць тлумачылася не столькі наведваннем вакзальных буфетаў, колькі прадчуваннем свайго заўтрашняга зорнага часу : «Я яго швайкаю толькі тах — ён захрыпеў і ўпаў!» Толькі аднойчы, не дачакаўшыся бацькавага прыезду, каб хутчэй было, бабуля папрасіла закалоць кабана Хохлю. Той Хохля зрабіў сваю справу і прыйшоў да стала магарыч піць. А бедны кабанчык узняўся на ногі са швайкаю ў грудзях і стаяў пасярод двара. Акурат у гэты момант прыбег з аўтобуса бацька і спыніў пакуты. Пра гэты выпадак ён заўжды памятае і пры кожнай нагодзе нагадвае пра яго іншым, каб таксама не забываліся і цанілі ягонае майстэрства: «Чалавек пайшоў ад свінні. У яе такія самыя органы. Я хірург!»

Заходзім у вёску, стукаемся ў хату.

— Хто там? — пытае дзядуля.

— Ішлі, з дарогі збіліся. Пусціце пераначаваць, — жартуе бацька.

— Заходзьце!

Вітаемся, абдымаемся са старымі і дзядзькам. Пасля вячэры мы з бабуляю сцелем пасцелі, шукаем бацьку і дзядзьку адзёжу на заўтра. Бабуля сядзіць на зэдліку, па яе загадзе з шафаў, старых чамаданаў, клункаў на печы выцягваю вялікія і малыя штаны рознай якасці і афарбоўкі, з латкамі і без латак, плюшаўкі, кухвайкі, нейкія кабаты з драўлянымі гузікамі, белы шахцёрскі падшлёмнік, аблавух, суконны брыль з дзіркаю, шкарпэткі парныя і не. Усё мусіць быць зручнае, цёплае і па памеры. Экіпіроўка для свежыны падбіраецца надзвычай адказна, з павольным абмеркаваннем кожнай яе дэталі, нібы размова ідзе пра канцэртныя строі эстраднае зоркі.

Заўтрашнім ранкам ужо напалена печ, стаіць вада ў чыгунах, нетаропкая хада, узважаныя размовы. Мужчыны выходзяць.

Выводзіць кабана з катуха ў двор дзядуля. А пасля вяртаецца ў хату і плача. Ён ветэран вайны, бачыў кроў і смерць неаднойчы ў ваенны і мірны час.

— Чаго ты? — хвалюецца бабуля.

— Карміў, карміў усё лета, а яны ўзялі і адразу павалаклі.

— Цьфу ты! А ўжо ж, што ім той кабан — здараўцы такія! Знайшоў па чым плакаць, я ўжо думала пакалечыў каторага! — зусім нязлосна абураецца бабуля.

Працяг на старонцы 16.





Мужчыны яшчэ разбіраюць, а жанчыны ўжо смажаць свежыну.

Усё-такі яе неспакой, хаця і зрэдку, але меў падставы. Здараліся часам неспадзеўкі. Аднаго разу навязвалі кабана. Дзядуля падаў дзве вяроўкі, адна была трохі перацёртая, другая — з вузлом, бацька забракаваў абедзве. Дзядуля знайшоў трэцюю, зусім новую, — урэшце навязалі. Кабан тузануўся — вяроўка вытрымала, а плот не. Разам з калом, да якога быў прывязаны кабан, паляцеў у смароднік. Смароднік, не меншы за тыповы дачны надзел, нагадваў у тыя часы калі не гушчар, дык хмызняк на балоце: разлапістыя старыя кусты смародзінаў і парэчак, ля плоту — дзікія слівы, на мяжы — хмель, ад вуліцы шчэміцца ўсюдыісны бэз.

— Ты чаго кабана не лавіў? — папракаў пасля дзядзьку бацька.

— Я стаяў і баяўся, — абяззброіў той сваёй шчырасцю, уратаваўшыся ад далейшых абвінавачванняў.

Выправіў сітуацыю, аказаўшыся героем дня, канечне, бацька.

— Я яго за лапу... Толькі швайкаю — тах, ён захрыпеў, і ўсё.

Звычайна абыходзіліся ўсё ж без прыгодаў.

Чорны, абсмалены газавай лямпай, вялізны кабан ляжыць на шчыце з дошак. Побач — вядро вады. Кіруе працэсам бацька. Каб адчуваць сябе зоркаю і пераможцам, яму не трэба сусветная вядомасць, дастаткова і чатырох сваякоў.

— Скрабіце лепш... Ліні вады... Ды не пад ногі! Ваісціну сказана: услужлівы дурак апаснейшы за врага!..

Кроў на снезе. Водар абсмаленай скуркі. Плойма вясковых катоў у чаканні спажывы. Дзіўна: гэтая заколатая істота зусім не атаясамліваецца з парасяткам, якому я ўлетку амарыканскую канюшыну цягала. Не плачацца. Настрой святочны. Пакуль не пачалі разбіраць і насіць вантробы ў хату. Кручуся побач: то вады прынясу, то анучу, то конаўку. Нават паспяваю зляпіць са снегу свінячую галаву і паставіць яе высока на вароты. Атрымліваецца нешта накшталт помніка.

Бабуля пытае, на колькі пальцаў у кабана сала, і неўзабаве кліча сабе на падмогу.

Абіраем здор з сеткі. Пасля разводзім кішкі ў ночвах. Гэтая праца патрабуе спрактыкаванасці, пільнасці і добрых вачэй, каб не парваць кішку. Але час ад часу ўсё адно рвецца, тады бабуля загадвае то патрымаць, то завязаць, іначай усё заплыве і не будзе ніякіх каўбасаў.

Мужчыны спраўляюцца разабраць свінчо да таго, як звечарэе.

Збіраемся за стол на бяседу. Патэльня сала з мясам, патэльня падпечанае крыві, пячонкі і мазгоў.

Мяса смажыць заўжды бацька.

— Чорт цябе ведае, што ты з ім робіш, чаруеш мусіць, так смачна выходзіць! — падхвальвае дзядзька.

Яно сапраўды смачнае, не калгаснае, вадой з камбікормам кормленае, сала, што масла, само ў рот просіцца. Скрутак тоненькай, высмаленай скуркі ў шклянцы.

«Толькі ж во па двары бегала!» — не можа стрымаць сваёй радасці бацька.

Дзякуючы старым, што выкармілі, за сталом напачатку ўсе размовы круцяцца вакол свіней.

— Во ў нас тут колюць, а ў некаторых рэжуць.

— А ў Чавускім раёне ў вуха страляюць!

— Інцярэсна! Як на паляванні!

— Ага, ахота — на ўвесь двор адзін ты і кабан!

Дзядзька з бацькам на ўцеху іншым працягваюць нязлосна кпіць адзін з аднаго:

— Ты вурдалак! З кабана кроў піў.

Аднак бацька не крыўдуе за вурдалака, ягоны адказ гучыць ухвалаю кабану і гаспадарам:

— Была б кепская кроў — не піў бы.

Надыходзіць час традыцыйнай спрэчкі за найлепшую самагонку. (У часы антыалкагольнага закону купонаў і цукровага дэфіцыту яе не гнаў хіба гультай.) Першым сваё пітво выцягвае дзядзька. У шкляной бутэльцы з-пад пэпсі-колы тырчыць нейкая доўгая былінка.

— На зуброўцы настоена, — з гонарам абвяшчае дзядзька.

— Ты гэтую травіну пад плотам знайшоў! — пасміхаецца бацька і дастае сваю.

— Тваю самагонку лянівая цешча гнала, — падколвае ў адказ дзядзька.

Бабуля не п’е зусім, у яе ціск, яна суддзя ў гэтай спрэчцы. Бярэ на язык адзін і другі напой. Пасля загадвае мне:

— Ліні мне, унучка, на руку і падпалі.

— Табе ж балюча будзе!

— Не бойся!

Дзядзькава занімаецца адразу. Бацькава нешта не падхапілася. Хвалююся за бацьку. Лічу яго найлепшым самагоншчыкам у свеце. Ён з усяго ўмее гнаць: і з павідла, і з падушачак. Яшчэ раз чыркаю запалкай. Успыхвае сіні агеньчык. Ад радасці пляскаю ў ладкі: «Ура! Вы абодва добрыя самагоншчыкі».

Бабуля хваліць брагу з кісялю ў пачках. Бацька просіць мяне запісаць рэцэпт. «На адну выварку вады чатыры пачкі кісялю...» — старанна вывожу літары на зялёнай вокладцы сшытка.

Заснежаныя слівы ў месяцовым святле пазіраюць на мяне з чорных вокнаў.

«Колькі ў небе зор, цяжка палічыць...» — шырокай павольнай ракою разліваецца па хаце аксамітны бабулін голас.

Я сяджу побач з ёю, апранутая ў яе падарунак — шарсцяны спартыўны касцюм — найлепшы строй для любой нагоды ў тагачасных падлеткаў, паспрабуй яшчэ купі! Злупіўшы патэльню мяса, адчуваю сябе шчаслівай, спяшаюся наталіцца цеплынёю гэтай халаднаватай хаты. Бо ўжо цяпер, у свае трынаццаць, разумею: цяплей, як тут, мне больш нідзе не будзе. Дзядзька з бацькам ідуць адпачываць. А наша з бабуляй асноўная праца толькі пачынаецца. Трэба пачысціць і памыць, папарадчыць усю свінячую стрававальную сістэму. Рабіць гэта адной немагчыма. У школе ужо вучым біялогію, бабуля таксама настаўніца біялогіі і хіміі. Яна падрабязна распавядае пра адсутнасць апендыксу ў свіней, паказвае сляпую кішку, інакш кутніцу, страўнік, тонкі і тоўсты кішэчнік, тлумачыць, для чаго гэта ўсё трэба свінні і што з гэтым усім зробіць пасля гаспадыня. Лю ваду зверху, кавалак кішкі выварочваецца як панчоха.

Ранняю вясною падсушаныя каўбасы і салёныя паляндвічкі дзядуля будзе капціць, пасля яны зоймуць сваё ганаровае месца на цвіках у каморы пад самым дахам і захаваюцца да наступнай свежыны.

Апошняя свежына для нашай сям’і выдалася памятнай, ледзь не містычнай. Загадзя ведалі: яна насамрэч апошняя. Бабуля канчаткова вырашыла больш не гадаваць парсюкоў. Не мучыць сябе і дзядулю. Яму было ўжо добра за восемдзесят. Ёй самой патрабаваўся догляд: «Каб у бальніцу легла б, першую групу далі б, але хто мяне ў той бальніцы глядзець будзе!» Бульба пагарэла ўся ў спёку. Старыя запасы сечанкі і мукі, зробленыя ў ранейшыя часы, скончыліся. Тады я ўжо вучылася на другім курсе. На каталіцкія Каляды калолі адразу дзвюх свіней, таму прыехалі на свежыну і маці, і бацька. Як толькі мы выйшлі з Глушы, па ўсім наваколлі згасла святло. Запалілася толькі назаўтра ўвечары, калі заканчвалі мыць кішкі. Раніцою збіраліся ў Магілёў, шчэ цёмначы, выйшлі на глушанскую аўтастанцыю — не пашчасціла: ноччу адліга маразамі змянілася — страшэнная галалёдзіца, хоць на каньках едзь. Спознішся на аўтобус — да вечара ў Магілёў не дабярэшся. І мы дарогаю лаяліся між сабой, шукаючы вінаватага. А вінаватых не было. Нібы нейкая найвышэйшая сіла зрабіла апошнюю свежыну знарок працяглай па часе, нібы заклікала нас пачакаць, затрымацца, запомніць да драбніц.

«Добра, што збавіліся ад гэтага свінства!»

Ды не, не збавіліся, бабуля, не збавіліся. Снежаньскім адвячоркам, калі я сяджу ва ўніверсітэце на пары па методыцы прыродазнаўства, мне хочацца напісаць зусім не тое, што прынята чытаць на пасяджэннях нашага літаб’яднання. Пра зіму, па першым часе несапраўдную без свежыны, і бягонію клінападобную ў зялёным кутку кабінета, бо яе пухнатыя з ружовымі пражылкамі лісты ўсё больш нагадваюць мне парасячыя вушы. Не забываецца. Дый ці магчыма?



# Чаму Скарына не наважыўся выдаць Біблію народнай мовай

**1517 быў годам вялікага юбілею Скарынавай Бібліі. Але, аказваецца, пра самога Скарыну мы ведаем зусім мала, кажа доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка. Вакол імя Скарыны болей міфаў, створаных папулярызатарамі, чым правераных звестак. Некаторымі сваімі думкамі навуковец падзяліўся з чытачамі НН.**

### Скарына і Антычнасць

Пэтэр Войт, гісторык чэшскага кнігадрукавання, выказаў ідэю, з якой бы я паспрачаўся. Што Скарына быў ідэолагам Адраджэння, Рэнесансу ў заходнееўрапейскім разуменні. Але Адраджэнне — гэта культурная традыцыя, якая абапіраецца на антычныя традыцыі, а яны не прасвечваюцца ў дзейнасці Скарыны. У той час, калі працаваў Скарына, тэрмін «Еўропа» не датычыў земляў Вялікага Княства Літоўскага, тым больш так званых «рускіх» земляў.

### Ці мог быць каталіком

Імя Францыск — каталіцкае, але мяшчанскае полацкае асяроддзе, з якога выйшаў Скарына, было пераважна праваслаўнае. Імёны яго сваякоў маюць праваслаўнае гучанне — Іван, Лука. Францыскаў няма. Хоць, між іншым, мяшчанства, асабліва ў буйных гарадах, было найбольш рухомым у сэнсе ўспрыняцця, талерантнасці. Яны ж гандлявалі з Захадам, з Поўначчу, з Рыгай. Маглі і адразу даць яму такое імя, але ўсё адно гэта патрабавала б нейкага імпульсу.

Скарына мог вучыцца ў каталіцкай школе. У той час у Полацку былі прыватныя каталіцкія школы, якія вучылі немцаў, што выбіраліся з Лівоніі. Паколькі яны гандлявалі з Полацкам, яны хацелі ведаць мову. Таксама ў Полацку быў бернардзінскі кляштар, заснаваны ў канцы XV ст., і ён праводзіў актыўную дзейнасць. Нават маскоўскі князь Іван IV скардзіўся, што праз бернардзінаў Полацк стаў рассаднікам каталіцкіх тэндэнцый.



**Георгій Галенчанка**

Нар. 1937. Доктар гістарычных навук, гісторык-медыявіст. Больш за 50 гадоў займаецца вывучэннем беларускага кнігадрукавання XVI—XVIII ст. і ў прыватнасці спадчыны Францыска Скарыны.

### Стаўленне да народнай мовы

Скарына быў веруючы чалавек, ён думаў, што Біблія прадыктаваная Госпадам Богам. Проста трэба знайсці самыя старажытныя рукапісы. У той час у ВКЛ не было практыкі выкарыстання народнай мовы ў духоўнай сферы. У канцылярскай — так, прасунуліся, выдалі Статут.

Таму асноўны тэкст Скарына імкнуўся захаваць. Ужо прадмовы — так, ён піша больш жывой мовай, як і свае папраўкі на палях, тлумачэнні для «паспалітага люду языка рускага». Тут на яго паўплывалі, напэўна, і гусіцкая традыцыя, і талерантныя традыцыі ў самой Празе. Але сам тэкст Бібліі ён імкнуўся перадаць найбольш дакладна. Толькі калі не знаходзіў тэрмінаў, якія ўліваліся абсалютна аўтаматычна ў тэкст, ён мог уключыць і слова беларускае. Мовазнавец Аркадзь Жураўскі быў спецыялістам класным: ён давёў, што асноўная слоўная структура Скарынавай Бібліі — царкоўнаславянская.

### Скарына і цэнзура

Калі Скарына пачаў друкаваць свае кніжкі ў ВКЛ, яны змяніліся нават па мове. Ужо менш адчування было, што выкарыстоўваецца жывая гаворка. Бо Скарына трапіў у асяроддзе, якое больш кантралявалася. Вільня не была ў той час часткай рэгіёна Усходняй Еўропы, куды залічаюць і Украіну, і Беларусь. Таму да дзейнасці Скарыны, які друкаваў славянскія кнігі, там ставіліся як да староннякі, дзіўнай, непатрэбнай. Галоўную ролю тут адыгрываў віленскі біскуп Ян, пазашлюбны сын караля Жыгімонта I. Ён хоць і апякаў Скарыну, але карыстаўся ім у сваіх мэтах.

Ён і сам выдаваў малітоўныя кнігі на лаціне, але друкаваў іх выключна ў Кракаве, а не ў Вільні.

### Ці быў выдатным лекарам

Калі б гэта было так, не так проста яго адпусціў бы віленскі біскуп Ян у Кёнігсберг. Акрамя таго, давайце паглядзім на даты смерці ягоных мецэнатаў. Якуб Бабіч да 1530-га ўжо не жыў, у гэты ж перыяд памёр Багдан Онкаў, каля 1525 памёр і Юрый Адвернік, з жонкай якога пасля ажаніўся Скарына. І яна памерла каля1529 года таксама. Або яны былі значна старэйшыя, або ў іх быў кепскі лекар.

### Чаму Прага

У Чэхіі былі ўжо біблейскія выданні ў абрамленні, якія навукоўцы вызначаюць як «мяккі гусізм». То бок Гуса ўжо даўно няма, яго замаскіраваныя прыхільнікі яшчэ былі. Выдалі Біблію чэшскія мяшчане, даволі заможныя, у Венецыі, 1506 год. Гэтай кнігай карыстаўся і Скарына. Гусізм быў родапачынальнікам пазнейшай Рэфармацыі.

Сваёй друкарні ў Празе ў яго не было, ён не мог яе заснаваць, бо ўпершыню сутыкнуўся з гэтай справай, яна яго зацікавіла. Былі кампаньёны з Вільні — Багдан



Онкаў, Якуб Бабіч, якія, магчыма, фінансавалі. Багдан Онкаў быў сынам радцы магістрата віленскага. Ён гандляваў з Чэхіяй сукном. Ведаў, што там зарплаты добрыя, тавар разыходзіцца, магчыма, пойдзе і кніжка друкаваная. Скарына здорава патраціўся на сваё выданне — гэта не так проста, выдаваць кожны год па такой кнізе. Акрамя таго, трэба было аплачваць працу рамеснікаў.

Чаму выехаў з Прагі? Думаю, разлікі на тое, што кнігадрукаванне будзе даваць прыбытак, будзе кар'ерай, не спраўдзіліся. Мецэнаты сталі менш яго падтрымліваць.

### Біблію друкавалі яўрэі і немцы?

Памылка Войта і паплечнікаў — лічыць гравюры і шрыфты Скарыны яго ўласнай працай. На мой погляд, гэта памылковы падыход, і вось чаму. Вялікія ініцыялы драўляныя, яны патрабавалі апрацоўкі рамесніцкай, вельмі адрозніваюцца [у розных кнігах], не маюць адзінства. І гравюры не маюць адзінства. Сам Скарына не мог гэтага зрабіць, гэта рабілі рамеснікі, якіх ён наймаў. Некаторыя гравюры маюць дачыненне да Дзюрэра, некаторыя дошкі паступалі непасрэдна з Нюрнберга.

Незразумела, хто ж працаваў у яго друкарні. Наняць памяшканне, аплаціць яго Скарына мог, калі прыехаў з грашмі ў Прагу. Ёсць версія, у Празе ў той час пачынала развівацца іудзейскае кнігадрукаванне, магчыма, некаторыя яго прадстаўнікі, не маючы работы, маглі працаваць у Скарыны.

А другая версія, якой прытрымліваецца Войт, што гэта была друкарня Паўла Севярына, якая якраз у 1517—1519 не працавала. Але Скарына мог наняць толькі памяшканне ў Севярына, а ўзяць на працу мог каго заўгодна — і немцы маглі працаваць.

Іншае пытанне: хто фінансаваў яго вучобу? За свае грошы ў Кракаў ён яшчэ мог выбрацца: яго брат Іван добра зарабляў на гандлі, бацька быў прадпрымальны чалавек. Але адкуль атрымаў грошы, каб паехаць у Падую, у Данію? Багдан Онкаў не пацягнуў бы, і ў яго зацікаўленасці ў такой інтэлектуальнай дзейнасці не было. Значыць, былі вышэйшыя апекуны.

### Здаваў на доктара экстэрнам?

Пра Падую дагэтуль не высветлена праблема: ці працаваў Падуанскі ўніверсітэт у 1512 годзе. Невядома, вучыўся Скарына там ці не. У той час ішла палаца італьянскіх войнаў.

Экзамен ён вытрымаў у 1512 годзе. Або ён заплаціў, каб сабраць калегіі, прайсці некалькі гэтых этапаў і здаць «экстэрнам».

Медыцыне акадэмічнага ўзроўню Скарына вучыўся ў Кракаве. Там у той час ужо працавалі кафедры, але яны яшчэ не атрымалі папскага пацверджання, таму не маглі даваць такога статусу. Мог вывучаць і ў Капенгагене, але там пагарэў фонд універсітэта і захаваліся дакументы толькі з 1611 года.

### «Людзям языка рускага»

У пражскіх выданнях на палях ёсць скарынаўскія каментары, ён адзначае, што кніга прызначалася «паспалітаму люду языка рускага». Калі перакласці на сучасную мову, гэта значыць, усяму народу, беларусам.

Ён сапраўды патрыёт, калі выкарыстоўваць гэты сучасны тэрмін. Тое, што ён захаваў сваю этнічную свядомасць, тое, што ён заўсёды згадваў Полацк, хоць быў там даволі рэдка — пасля таго, як ад'ехаў з Прагі, звестак няма, што ён наведваў. Адчуваецца, што чалавек быў прывязаны да сваёй Радзімы, увогуле да свайго «рускага народа». Заўважце, што тэрмін «русіны» ў дачыненні да маскавітаў тады амаль не выкарыстоўваўся...

Стагоддзем пазней уніяцкі мітрапаліт Антоній Сялява, якому надакучылі рэнесансавыя прэтэнзіі і крытыка каталіцызму, пісаў, што ўсё гэта пачалося ад Скарыны, які навыдаваў кніг, якія куплялі рускія папы і русіны. А пасля Скарыны, маўляў, пайшлі ерэтыкі Будны, Цяпінскі, пайшлі аб'яднанні, брацтвы і г.д.

### Ці былі ў Скарыны вусы

Перш, чым разбірацца з гэтай тэмай, вы знайдзіце сапраўдныя адбіткі той гравюры, а не тое, што пасля падраблялася і публікавалася ў папулярных выданнях. Далёка не ва ўсіх кніжках гравюры сапраўдныя. Капііст мог зрабіць такую копію, якую мог прадаць як рэальную кнігу. Сярод тых 11 выданняў, якія былі ў Нацыянальнай бібліятэцы, адзін экзэмпляр яўна копія. Я пагледзеў яе і сказаў, што гэта нельга лічыць арыгіналам: там пырскі захаваліся ад таго, што пяром малявалі. Калі друкавалі, адліваўся шрыфт, які не даваў такіх пырскаў.

### Скарына і Лютэр

Спецыялісты, якія займаюцца вывучэннем творчасці Скарыны, часта збіваюцца ў фантазіі.

Гіпатэтычная версія ёсць, што Скарына сустракаўся з Лютэрам, што той так спужаўся, што ўцёк у Вітэнберг. Нічога не ўказвае на тое, што гэта быў Скарына. Першыя выданні ўспамінаюць нейкага яўрэя, які перахрысціўся і якога каталіцкія біскупы накіравалі ў Германію, каб ён змагаўся з ерэтыком Лютэрам.

Ёсць яшчэ легенда, што друкарня ў Вільні згарэла. Як згарэла, калі ініцыялы з яго віленскай друкарні выкарыстоўваліся ў брацкай свята-духаўскай друкарні да 1653 года?

### Дзе шукаць новыя звесткі

Што даказалі навукоўцы за апошні час? Удалося ўдакладніць дату смерці. Ёсць прывілей караля чэшскага Сімяону, сыну Скарыны, які атрымаў спадчыну, якая засталася ад бацькі. Паколькі дакумент самага пачатку 1552-га, значыць, памёр Скарына, магчыма, у 1551-м. Ускосны доказ: прыехалі два крэдыторы з Вільні ў той час. Не сталі б чакаць з 1541-га (год смерці Скарыны паводле іншай версіі).

Зараз адшукалі, што ёсць згадкі пра Сімяона Скарыну ў чэшскіх дакументах. Там, у Празе, уся падшыўка дакументаў захавалася — гэта трэба год працаваць, каб усё вывучыць. Але тады можна знайсці нейкія папярэднія дакументы і выйсці на новыя звесткі пра Скарыну.

У Рыме трэба вывучаць. Раз ён быў сакратаром караля Даніі («Дакіі»), то выбіраўся туды, гэта мусіла фіксавацца.

У Кракаве трэба шукаць матэрыялы. Нядаўна выйшла кніга «Ліцвіны ў Кракаве». Там незадоўга да 1512-га згадваецца фінансавая спрэчка Скарыны з мясцовай мяшчанкай.

У Вільні, дзе Скарына працаваў, быў штатнай фігурай у біскупа, загінулі найбольш раннія біскупскія архівы. Нешта фрагментарнае захавалася. Напрыклад, будавалі касцёл — сярод сведкаў згадваецца доктар Францыск, гэта яўна Скарына.

Многае будзе знойдзена яшчэ, бо фігура была сапраўды маштабная, рэнесансавая. Гэты чалавек, Францыск Скарына, вырашыў выдаць Святое пісьмо — без санкцыі Царквы, але для патрэб і Царквы, і паспалітага люду языка рускага.

**Запісаў Сяргей Мікулевіч**

# «Квоты перавыкананы»: кашмарныя архіўныя дакументы пра 1937 год у Беларусі

Піша гісторык
**Ірына Раманава.**

20 снежня (7-га паводле старога стылю) 2017 года споўнілася 100 гадоў ВЧК (Усерасійскай надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам).

Гэтая ўстанова, ачоленая Феліксам Дзяржынскім, стала асноўным інструментам тэрору супраць груп, абвешчаных савецкай уладай класавымі ворагамі і контррэвалюцыянерамі. У 1922 г. ВЧК быў пераўтвораны ў ГПУ, апошні ў 1934 г. — у НКВД. Самі абрэвіятуры ВЧК, ГПУ, НКВД сталі сінонімамі тэрору.

Сёлета мінула і 80 гадоў падзеям, якія сталі сімвалам «Вялікага тэрору» — рэпрэсіям 1937 года. Пра той год у Беларусі сёлета гаварылі. Не ў апошнюю чаргу гэта заслуга светлай памяці Леаніда Маракова, які зрабіў вельмі шмат для ўвекавечання памяці ахвяр сталінізму.

Неймаверна, адзін чалавек узяў на сябе працу цэлага Інстытута нацыянальнай памяці. Ён не толькі падрыхтаваў значную колькасць даведнікаў аб рэпрэсаваных, але і ўвеў у беларускі дыскурс дзень памяці ахвяр сталінізму, «ноч расстраляных паэтаў», 29 кастрычніка, калі ў Курапатах было знішчана больш за сто беларускіх культурных і грамадскіх дзеячаў.

Разам з тым, шкада, што ў «юбілейны» год мы гаварылі ў асноўным пра рэпрэсаваных дзеячаў культуры... Безумоўна, гэта важная тэма, але ілюстраванне рэпрэсій лёсамі толькі «вялікіх» людзей стварае ілюзію, што, па-першае, рэпрэсіі тычыліся не ўсіх, што таталітарны рэжым — гэта тое, што мела адносіны толькі да тых, хто недзе там, «наверсе».

## «Кулакі» і крымінальнікі

У 1937 годзе рэпрэсіі дасягнулі свайго піку. У гэты час праводзіліся самыя масавыя аперацыі НКВД: «кулацкая аперацыя» (паводле загаду №00447), шэраг аперацый супраць нацыянальных меншасцяў. Гаспадарчыя і партыйныя працаўнікі, вайскоўцы і пісьменнікі, савецкая эліта, прадстаўнікі якой аказаліся на лаве падсудных у час маскоўскіх працэсаў і сфарміравалі нашыя першыя ўяўленні аб ахвярах «Вялікага тэрору», тут не ўзгадваліся.



**Ірына Раманава**

Прафесар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Жыве ў Мінску.



**Жыхар Мінска з партрэтам замучанага чэкістамі бацькі каля будынка КДБ у Мінску.**

Пачатак падзей, якія пасля былі названы «Вялікім тэрорам», паддаецца дакладнай дацыроўцы — 3 ліпеня 1937 г., калі Іосіф Сталін як сакратар ЦК УсеКП (б) перадаў народнаму камісару ўнутраных спраў СССР Мікалаю Яжову і рэгіянальным кіраўнікам партыі прынятае на дзень раней рашэнне Палітбюро аб пачатку кампаніі рэпрэсій супраць былых кулакоў і крымінальнікаў. Мэтавыя групы рэпрэсій былі вызначаны празмерна расплывіста, затое яны актыўна шальмаваліся ў якасці галоўных зачыншчыкаў шматлікіх злачынстваў і актаў сабатажу ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці.

## Збіранне статыстыкі

Рэспубліканскім органам належала правесці папярэдні ўлік усіх тых, каго некалі назвалі кулакамі, а таксама — хто пазбег у свой час раскулачвання, і тым больш — вярнуўся з месца высылкі ці спецпасялення; былых членаў антысавецкіх партый (напрыклад, эсэраў); усіх, каго ўлады назвалі «бандытамі» і «бандпасобнікамі», «удзельнікамі паўстанцкіх арганізацый, фашысцкіх, тэрарыстычных і шпіёнска-дыверсійных контррэвалюцыйных фарміраванняў»; «найбольш актыўных антысавецкіх элементаў з былых кулакоў, карнікаў, бандытаў, былых сектанцкіх актывістаў, царкоўнікаў» — незалежна ад таго, дзе яны знаходзяцца: у калгасах, на прадпрыемствах, транспарце, у савецкіх установах, на будоўлі ці нават ужо ў турмах, лагерах і працоўных пасёлках. Таксама па дадзеным загадзе рэпрэсіям падлягалі крымінальнікі.

Усе яны мусілі быць зарэгістраваныя на рэгіянальным ўзроўні і, у залежнасці ад ступені іх небяспекі для савецкай дзяржавы, падзяляцца на 1-ю (для якіх прадугледжваўся расстрэл) і 2-ю катэгорыі (8—10 гадоў заключэння).

Для асуджэння «вінаватых» прадугледжвалася стварэнне пазасудовых органаў — троек. Як правіла, у склад троек уваходзіў начальнік аддзела НКВД (старшыня), пракурор, першы ці другі сакратар партыі. Гэтая пазасудовая інстанцыя ўжывалася кожны раз, калі належала ліквідаваць ці пазбавіць волі «антысаветчыкаў» без прытрымлівання прававых нормаў, у вялікай колькасці, з дапамогай паскоранай працэдуры і не прыцягваючы ўвагу грамадскасці (як у часы грамадзянскай вайны ці на піку калектывізацыі). Пасяджэнні троек праходзілі, як правіла, па начах, пры зачыненых дзвярах. Суддзі не бачылі абвінавачаных. Абскарджанне было немагчыма.

Лічбы па ўсіх варожых элементах, сабраныя на месцах, ішлі ў шыфратэлеграмах у ЦК УсеКП(б)Б Сталіну на зацвярджэнне.

Так, у шыфратэлеграме, накіраванай 7 ліпеня 1937 г. за подпісам В.Шаранговіча, указвалася, што ў БССР неабходна рэпрэсаваць 3000 чалавек па першай катэгорыі і 9800 — па другой.

У склад тройкі прапаноўваліся: кіраўнік НКВД БССР Берман, другі сакратар ЦК КП(б)Б Дзеніскевіч, начальнік міліцыі Беларусі Шыйрон.

## Сацспаборніцтва

Аператыўны загад НКВД СССР № 00447 «Аб аперацыі па рэпрэсаванні былых кулакоў, крымінальнікаў і іншых антысавецкіх элементаў» быў выдадзены 30 ліпеня 1937 г. на падставе пратакола Палітбюро, падпісанага Сталіным. Менавіта гэты загад стаў вертыкаллю «Вялікага тэрору» 1937 г., а асноўнымі яго ахвярамі — сяляне. У яго прэамбуле падкрэсліваецца, што акцыя накіравана на канчатковае вырашэнне праблемы ўнутраных ворагаў Савецкага Саюза: «Перад органамі дзяржаўнай бяспекі стаіць задача — самым бязлітасным чынам разграміць усю гэтую банду антысавецкіх элементаў (...) і, урэшце, раз і назаўсёды пакончыць з іх подлай падрыўной работай».

Прадугледжваўся расстрэл 75 950 чалавек (у тым ліку 10 000 вязняў ГУЛАГа) і заключэнне 193 000 чалавек у лагеры і турмы. Агулам кантынгент рэпрэсаваных ахопліваў 268 950 «антысавецкіх элементаў». Для БССР былі вызначаныя наступныя ліміты: 2000 па першай і 10 000 па другой катэгорыі.

Але гэта былі толькі арыенціры, дапускалася павышэнне лічбаў, хоць і пасля запыту на адрас НКВД. Быў знойдзены механізм, які стымуляваў рэгіянальных кіраўнікоў НКВД да спаборніцтва за найвышэйшыя паказчыкі і адначасова даваў цэнтральнаму кіраўніцтву ў Маскве інструмент дазіравання рэпрэсій.

Кіраўніцтва НКВД і партыйная вярхушка ў Маскве былі заваленыя хадайніцтвамі аб павышэнні лімітаў і амаль заўсёды рэагавалі пазітыўна. У правінцыях стаўленне да лімітаў было такім жа, як да планавых лічбаў чарговай партыйна-гаспадарчай кампаніі.

Паводле даступных дадзеных, ніводзін з рэгіянальных кіраўнікоў не адважыўся застацца ў рамках першапачаткова выдзеленай квоты.

Так, калі на 30 ліпеня 1937 г. квоты па Беларусі былі 2 і 10 тысяч, дык на 1 студзеня 1938 г. ужо адпаведна 6 тыс. і 14,5 тыс.

Адзін з кіруючых работнікаў апарата НКВД тлумачыў пазней: «Я точно знаю, что эти лимиты становились предметом своеобразного соревнования между многими начальниками НКВД. Вокруг этих лимитов в наркомате была создана такая атмосфера — тот из начальников, кто скорее реализовывал данный ему лимит в столько-то тысяч человек, получал от наркома новый, дополнительный лимит и рассматривался как лучший работник, который лучше и быстрее выполнял и перевыполнял директивы Н.И. Ежова по разгрому контрреволюции».

19 снежня 1937 г., з нагоды 20-й гадавіны заснавання ЧК, 10 кіраўнікоў УНКВД былі ўзнагароджаны ордэнам Леніна і больш за 20 — ордэнам Чырвонай Зоркі.

На правядзенне аперацыі адводзілася 4 месяцы. Аднак яна не скончылася ў тэрмін і цягнулася 14 месяцаў. У выніку ад жніўня 1937 г. да лістапада 1938 г. па СССР было арыштавана 699 929 чалавек (амаль утрая больш за запланаванае), з іх 376 206 расстралялі (у пяць разоў больш, чым планавалася), што склала амаль палову арыштаў па СССР у 1936—1938 г. і больш за палову смяротных прысудаў.

Па БССР толькі па гэтай аперацыі было асуджана не менш чым 24 209 (у 2,5 разу больш) чалавек, з іх 6 869 — да смяротнага пакарання (у 3,5 разу больш, чым планавалася). Сюды не ўваходзяць тыя беларусы, хто быў рэпрэсаваны не на тэрыторыі БССР, а знаходзіўся ў лагерах, турмах за межамі рэспублікі, у спецпасёлках.

## «Нацыянальныя аперацыі»

Адначасова па СССР разгортваліся аперацыі НКВД супраць пэўных нацыянальнасцей: палякаў, немцаў, латышоў, літоўцаў, эстонцаў, фінаў, грэкаў, румын, балгар, кітайцаў, іранцаў, афганцаў.

Яны агулам і без ніякіх рэальных прычын разглядаліся як «пятая калона», якая ў выпадку вайны выступіць на баку акупантаў.

У разгар масавых рэпрэсій Наркам унутраных спраў БССР Берман у сваёй запісцы ў ЦК КП(б)Б ад 20 кастрычніка 1937 г. адзначаў: «Практычная дзейнасць контррэвалюцыйных фарміраванняў, якія актыўна дзейнічалі ў Беларусі і яе пагранічных раёнах, разгортвалася, галоўным чынам, у кірунку: разведвальнай работы на карысць палякаў і немцаў, падрыхтоўкі паўстанцкіх кадраў і стварэння апорных пунктаў для фашысцкіх інтэрвентаў».

У час правядзення нацыянальных аперацый супрацоўнікі НКВД «ускрывалі» «шырока разгорнутыя сеткі дыверсійна-паўстанцкіх арганізацый», «шпіёнска-дыверсійныя гнёзды і шырока разгалінаваныя шкодніцкія арганізацыі».

Асабліва моцны ўдар прыйшоўся па прыгранічных раёнах, вёсках, справа даходзіла да таго, што тут арыштоўвалі амаль усё мужчынскае насельніцтва!

Так, у адной з вёсак Тураўскага раёна (80 двароў) пасля арыштаў засталося трое мужчын; у калгасе «Чырвонаармеец» Плешчаніцкага раёна з 29 мужчын у канцы 1937 г. і пачатку 1938 г. былі арыштаваныя 23... У былых памежных вёсках Лепельскага раёна, расказвалі старажылы, усіх мужчынаў арыштавалі за адну ноч як «польскіх шпіёнаў».

Былы загадчык аддзела УГБ НКВД Гепштэйн на допыце (і ён быў арыштаваны) 7 сакавіка 1939 г. паказаў:

«Лінія на арышт у першую чаргу палякаў прывяла ў рэшце да таго, што на месцах пры складанні даведак на арышт, часта на падставе толькі таго, што ў чалавека польскае прозвішча ці імя, ва ўстановачных дадзеных за вочы пісалі «паляк», ведаючы, што пры гэтым Мінск абавязкова дасць санкцыю на арышт».

Наркам унутраных спраў Наседкін 13 снежня 1938 г. пісаў сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку, што падчас арыштаў 1937 — першай паловы 1938 гг. «з узятых асоб па польскай лініі — чыстых палякаў было вынята не больш за 35—40%, а астатнія былі беларусы, рускія, яўрэі, украінцы».

### Былі польскія шпіёны — сталі латышскія

Латышская аперацыя пачалася крыху пазней. У дырэктыве, даведзенай да ўсіх раёнаў Віцебскай вобласці, адзначалася: там, дзе ёсць «латышскае насельніцтва, абавязкова павінна быць контррэвалюцыйная арганізацыя». І яе трэба неадкладна ліквідаваць. Улічваючы перавыкананне плана па польскай аперацыі і недавыкананне па латышскай, НКВД пачало «пераводзіць» польскіх шпіёнаў у латышскія.

Так, у Віцебску пераафармілі пратаколы на ўжо асуджаных да найвышэйшай меры пакарання за «шпіянаж на карысць Польшчы» латышоў як на ўдзельнікаў нацыяналістычнай контррэвалюцыйнай латышскай арганізацыі. Падчас передопытаў кожны абвінавачваны пад катаваннямі назваў па 25—30 «саўдзельнікаў».

Арыштаванай Чыжэўскай паказалі спіс членаў латышскага клуба і спыталі, ці ведае яна іх. Чыжэўская пацвердзіла. Усе 60 чалавек былі арыштаваныя як удзельнікі контррэвалюцыйнай латышскай арганізацыі.

Як адзначалася, па аперацыі №00447 рэспублікам спускаліся ліміты. А далей працаваў просты механізм: рэспубліка «размяркоўвала» лічбы паміж абласцямі, вобласці — паміж раёнамі і г.д. А паколькі нацыянальныя аперацыі ішлі адначасова з «кулацкай» і праводзіліся тымі ж выканаўцамі, то, натуральна, метады правядзення былі тыя ж. Начальнік Рэчыцкага райаддзялення УГБ Валавік на нарадзе аператыўных работнікаў паведаміў, што раёну дадзена заданне выявіць і арыштаваць 300 чалавек палякаў, латышоў, немцаў і інш., «для чаго даў заданне выявіць па прадпрыемствах і сельсаветах такіх асоб»; начальнік 3-га аддзела УГБ НКВД БССР Гепштэйн «у верасні 1937 года па тэлефоне даў указанні, што Віцебск павінен арыштаваць 300 чалавек палякаў» і г.д.

Працавала матэматычная логіка: рэспубліка — вобласць — раён. Далей ліміты вызначаліся на кожнага следчага. З матэрыялаў справы аб працы Віцебскага УНКВД: супрацоўнік Сакалоў «папрасіўся ехаць дадому на выходны дзень, Левін сказаў: «Калі сёння паднаціснеш, то заўтра паедзеш». Сакалоў прыступіў да допыту арыштаваных, за гэты дзень атрымаў прызнанне шасці арыштаваных. На допыце Сакалоў арыштаваным ставіў пытанне ў лоб: «Збіраўся ўзарваць мост», «З'яўляўся ўдзельнікам к.р. арганізацыі» і г.д. На ўсе пастаўленыя пытанні дабіваўся станоўчага адказу ад арыштаваных шляхам прымянення зверскіх мераў фізічнага ўздзеяння».

### «Кроплі шчырасці»

Ужо ў першыя месяцы вялікай чысткі апарат НКВД у цэнтры і на месцах быў павялічаны ў некалькі разоў. Як успамінаў Хрушчоў: «Сталин... решил брать туда на работу людей прямо с производства, от станка. Это были люди неопытные, иной раз политически совершенно неразвитые. Им достаточно было какое-то указание сделать и сказать: «Главное, арестовывать и требовать признания».

Адчуваючы сваю бязмежную ўладу над людзьмі, многія з такіх «навічкоў» хутка авалодвалі прыёмамі катаў і ператвараліся ў канчаных садыстаў. Так, у НКВД БССР арыштаваных зацягвалі ва ўціхамірвальныя кашулі, аблівалі халоднай вадой і выстаўлялі на мароз, улівалі ў нос нашатырны спірт, здзекліва называны «кроплямі шчырасці».

У Асобым аддзеле Беларускай вайсковай акругі арыштаваных прымушалі прысядаць сотні разоў з Бібліяй у выцягнутых руках, гаўкаць па-сабачы і інш.






**Наркам УС БССР Барыс Берман прыклаў руку да шпіёнаманіі ў Беларусі. Калі маўр зрабіў сваю справу, ён таксама не пережыў 1938 год.**



**Першы сакратар ЦК КП(б)Б Васіль Шаранговіч падпісаў спіс з 12800 чалавек, прызначаных да рэпрэсій у БССР. Праз 20 дзён арыштуюць яго самога.**

Для арыштаваных ствараліся такія ўмовы, што яны прызнавалі ўсё, чаго ад іх дабіваліся следчыя, што мелі «нормы выпрацоўкі» (прымяняліся гэтак званыя «стойкі», «канвеерныя допыты», заключэнне ў карцар ці рэжымныя камеры, утрымліванне ў спецыяльна абсталяваных сырых, халодных ці вельмі гарачых («парылкі») памяшканнях, пазбаўленне сну, вады, збіццё).

Калі ў 1938 г. было ўзнята пытанне аб адхіленні ад працы тых энкавэдыстаў, якія бралі ўдзел ў збіцці арыштаваных, Панамарэнка заявіў, што гэта немагчыма, бо гэта тычылася не менш за 80% апарата НКВД.

З дакументаў вынікае, што многія следчыя працавалі «не за страх і не за сумленне», а атрымлівалі сапраўднае задавальненне ад «працы». Таталітарная дзяржава стварыла спрыяльныя ўмовы для садыстаў.

Сталінскае кіраўніцтва выкарыстоўвала эфектыўны ў тых умовах спосаб маніпуляцыі грамадскай думкай: усё добрае — ад партыі, савецкай улады і Сталіна; усё дрэннае (адсутнасць прадуктаў, жылля, шырокамаштабныя рэпрэсіі, злоўжыванні) — ад ворагаў і шкоднікаў. Сродкі масавай інфармацыі, масавыя сходы і мітынгі рабілі сваю справу.

### «А цябе яшчэ не забралі?»

Шпіёнаманія дасягнула апагею! Цікавым дакументам з'яўляецца, напрыклад, ананімны ліст з роднай вёскі старшыні СНК К. Кісялёва 1938 г. на імя Сталіна. У ім пісалі, што Кісялёў па нацыянальнасці зусім не беларус (як ён піша ў аўтабіяграфіі), а паляк: «Ён шляхціч, а гэта ўсё адно, што паляк» і сапраўднае імя яго не Кузьма, а Казімір, а бацьку яго завуць Бенядзікт, «а хрысцілі яго ў касцёле, беларусаў у касцёле не хрысцілі».

Зводка НКВД «Аб настроях насельніцтва БССР у сувязі з арыштамі контррэвалюцыйных элементаў сярод палякаў» ад 9 верасня 1937 г. утрымлівае наступныя сведчанні: на мінскай фабрыцы «Кастрычнік» рабочыя звярталіся да палякаў: «А цябе яшчэ не забралі?»; «Камсамолка Белкіна звярнулася да работніцы-перабежчыцы з пытаннем, ці прадасць яна ёй зараней (да арышту) свой ложак»; калгасніца к-са «Кавалі» Дзяржынскага раёна Жаўцікоўская гаварыла: «Забралі ўсіх, хто мае сваякоў у Польшчы. Калі каго не забралі, то чакайце — забяруць, трэба хутчэй прадаваць кароў»; настаўніца польскай школы Будкевіч: «Я ад арыштаў упадаю ўжо ў кашмары, такая атмасфера, што не ведаеш, калі цябе схопяць за каўнер і пацягнуць у турму. Дзесяць гадоў жыцця аддала б, каб хоць трохі мець упэўненасці ў жыцці»; «Калгаснік калгаса «Будзённы» Гармаза, член сельсавета, заўважыўшы аўтамашыну і супрацоўнікаў НКВД, кінуўся бегчы. Калі спыталі ў яго маці, чаму ён пабег, апошняя адказала: «Ён цэлую ноч не мог спаць: баяўся арышту»; «Калгаснік Мінько Пятро, убачыўшы ў вёсцы аўтамашыну, сеў на каня і паехаў у лес. Калі старшыня калгаса паслаў хлопчыка па Мінько, то апошні адказаў: «Мяне кліча не старшыня калгаса, а НКВД, гэта яны па мяне прыехалі».

### «Я зразумеў, што гэта не памылка, а што — патлумачыць не маглі»

«Дыму без агню не бывае...», «А можа, і сапраўды ён/яна/ яны ворагі?», «Лес сякуць — шчэпкі ляцяць» і г.д. Але раптам здарылася самае страшнае — арыштавалі менавіта цябе! А ты ж дакладна не шпіён, не вораг... Перад намі вытрымка з яшчэ аднаго вельмі паказальнага дакумента, як самі арыштаваныя спрабавалі для саміх сябе патлумачыць, што адбываецца. Былы капітан 13 стралковай дывізіі Кунд Густаў у сваёй заяве ў ЦК пісаў:

«Думаў, што арыштаваны памылкова, але калі ў камеру 88 прыбыло яшчэ каля 20 камандзіраў пераважна не рускай нацыянальнасці, я зразумеў, што гэта не памылка, а нешта іншае, што — патлумачыць не маглі.

У камеры гаварылі, што калі патрапіў, то адсюль не вырвешся, калі справы няма, то створаць, і што людзі ад пабояў вар'яцеюць, і ёсць выпадкі забойства і самагубства... адчувалася, што ў турме дабіваюцца толькі подпісу на паперцы, не важна, вінаваты чалавек і ці было здзейснена злачынства (гаварылі, што гэта трэба, каб асудзіць чалавека на асаблівай нарадзе завочна). Былі і версіі, што камандны склад пасля праверкі будзе накіраваны ў Кітай і Іспанію і што арышт і пратаколы з'яўляюцца маскіроўкай мерапрыемства... Пасля, калі ўсё гэта не здзейснілася, думаецца, як гэта члены партыі і старыя камандзіры далі лжывыя паказанні пад збіццём. Я цяпер упэўнены, што тыя камандзіры ў камеры і я ў фашысцкім палоне ці турме вытрымалі б любыя пабоі, не сказаўшы ні слова, але тут былі іншыя абставіны — ужываліся метады: 1) калі дасі паказанні — атрымаеш лепшыя ўмовы ў турме, і сведчанні, і сувязь з сям'ёй; 2) версіі аб магчымасці паездкі ў Кітай і Іспанію; 3) за артыкулы, за якія даюць 10 гадоў, аказалася адміністрацыйная высылка; 4) галоўнае, унушалі, што так трэба для савецкай улады, і калі старыя члены партыі, упаўнаважаныя дывізіі, якія ведалі сваіх камандзіраў, што яны не шпіёны, кулакамі рабілі з іх шпіёнаў, пачынаеш думаць, што, можа быць, сапраўды так трэба».

### 55 тысяч чалавек за 16 месяцаў

Былы пракурор БССР Новік на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б 26 ліпеня 1939 г. у сваіх паказаннях адзначыў, што масавыя арышты праводзіліся па лініі вайсковай пракуратуры, таму што ў Беларусі арыштоўвалі, галоўным чынам, па 68 артыкуле — за шпіянаж.

Аналіз 7 тыс. картак персанальнага ўліку жыхароў Мінска і Мінскай вобласці, рэабілітаваных у 1955—1993 гг., зроблены гісторыкам У.І. Адамушкам, сведчыць, што рэпрэсаваныя за шпіянаж склалі 38% (арт.68), таксама найбольш папулярнымі артыкуламі былі: «прапаганда і агітацыя супраць савецкай улады» (арт.72); «арганізацыйная дзейнасць супраць савецкай улады» (арт. 76).

Ад жніўня 1937 г. да лістапада 1938 г. у рамках усіх нацыянальных аперацый па СССР было асуджана больш за 335 тыс. чалавек, з іх амаль 74% — да расстрэлу (па польскай аперацыі працэнт быў яшчэ вышэйшы).

У Беларусі па гэтай аперацыі ад жніўня 1937 да верасня 1938 г. былі арыштаваныя 21 407 «польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і ўдзельнікаў паўстанцкіх арганізацый», 563 чалавекі «нямецкай агентуры», 1459 — латышскай. З агульнага ліку арыштаваных каля 19 тысяч чалавек да канца 1938 г. было асуджана да расстрэлу.

Але аперацыя цягнулася да лістапада, звестак за апошнія два месяцы я, на жаль, не маю.

Усяго ж ад ліпеня 1937 г. да лістапада 1938 г. НКВД Беларусі арыштавала не менш за 54 845 чалавек, з іх не менш за 27 391 расстралялі.

У загадзе № 00447 мелася ўказанне аб «абавязковым поўным захаванні ў таямніцы часу і месца прывядзення прысуду ў выкананне»... Выдадзены ў 1939 г. загад № 00515 прадпісваў адказваць на запыты сваякоў знакамітай фармулёўкай: «10 гадоў папраўча-працоўных лагераў без права перапіскі». А ў 1945 г. ім паведамілі, што сваяк, асуджаны на 10 гадоў ППЛ, памёр у зняволенні...



ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

# Лабірынт

**Алесь Кіркевіч**. Апавяданне.

*Працяг апавядання «Агонь нас любіць», апублікаванага ў «НН» № 7’2017.*

«Мілы, цябе няма дома», — Несцяровіч некалькі разоў перачытаў чатыры словы, напісаныя сіняй асадкай на аркушы ў клетку. Гэта ягоны чорны нататнік з жоўтым лагатыпам мабільнай кампаніі на вокладцы, але почырк не ягоны. Нахіл літараў, інтэрвалы, філігранна выпісанае «М» — усё іншае. Гэта напісала яна, невядома навошта, невядома, чаму акурат у ягоным нататніку, невядома, ці меўся быць нейкі працяг фразы. «Мілы, цябе няма дома».

Яна пісала гэта той халоднай вясной, калі большасць ягоных сяброў трапіла ў СІЗА літаральна за пару дзён, на ўездзе ў горад былі збудаваныя блокпасты з мяхамі з пяском, у метро стаялі сумуючыя міліцыянты з АКСУ, а на шэрую костку праспекта ля ўвахода ў парк Чалюскінцаў павольна лягалі сняжынкі, што высыпаліся з шэрага неба, нібы пер’е з парэзанай падушкі. «Мілы, цябе няма дома».

Яна пісала гэта, калі ён знік без папярэджання. Знік, бо ўжо быў «там» і не хацеў так запраста трапіць ізноў. Не папярэджваў, бо думаў, што яна зразумее. Не зразумела, таму, седзячы ў пустой трохпакаёўцы з рассохлымі драўлянымі рамамі ў вокнах, праз шчыліны якіх усярэдзіну падступна прабіраўся холад, слухаючы адно мармытанне веццяклёна, што рос адразу за балконам, узіраючыся ў псіхадэлічныя арнаменты з кветак на шпалерах здымнай кватэры, якія нагадвалі ўнутраную абіўку труны, яна выводзіла: «Мілы, цябе няма дома».

Зараз няма ўжо ані яе, ані дома. Вялікі шэры горад стаўся яшчэ больш вялікім і шэрым. Нічога няма.

Калі ўсё скончылася, хлопцы павыходзілі на волю, лета перайшло ў сваю фінальную стадыю, а «Ілля прынёс гнілля» і паводле вясковых забабонаў купацца было ўжо не камільфо, сам ён вярнуўся ў Горадню, дакладней, перанёс туды сваю абалонку, пад якой ужо не засталося «агню, які нас любіць», адно вуголле, ля якога яшчэ можна было пагрэць рукі.

* * *

Несцяровіч любіў і ненавідзеў Горадню. Тут прайшло ягонае дзяцінства, тут жа ўпершыню ён пацалаваўся ў пад’ездзе, дзе падваконні былі застаўленыя высахлымі кветкамі ў вазоніках, тут жыла неймаверная і невыказаная дагэтуль легенда пра горад каралёў Рэчы Паспалітай ды анарха-панкаў з «Кальяна». Адначасна гэта быў горад мёртвых, дзе людзі занадта часта нагадвалі руіны Старога Замка, са сценаў якога штогод па начох адвальваліся камяні ды каціліся, каціліся, каціліся, падскокваючы, каб спыніцца адно на ходніку ўзбярэжжа, традыцыйнага «месца з’ёму» па вечарох у выходныя, так і не трапіўшы ў хвалі Нёмана. Руіны таго самага замка, які не мае князя, якому не патрэбныя ані сцены, ані камяні. Так і з горадам — людзі тут лішнія. Людзі і руіны. Людзі-руіны...

Несцяровіч адклаў нататнік убок і зірнуў на гадзіннік. Палова на дванаццатую. Трэба збірацца. Цікава, да якой сёння працуе бар (той адзіны, які ён каціраваў): да другой ці да чацвертай? Пятніца, значыць, да чацвертай.

Праслухаўшы дзяжурную мелодыю дамафона ды бразгат жалезных дзвярэй пад’езда, трэба было выканаць абавязковы рытуал. Кішэнь, запальнічка, «Кэмэл-кампакт»... Цвырк-цвырк — і да вугалькоў у вокнах суседніх пяціпавярховікаў дадаецца і ягоны асабісты агеньчык. Лісце каштанаў шапацела праз дробны дождж, зорак не было відаць, адно груваст-кія хмары няспешна паліравалі начное неба, ідучы сваім, нікому не вядомым маршрутам.

Калі гойсаеш пад дажджом, звычайна добра думаецца. Папершае, людзей вобмаль, ніхто не перарывае ўвагі. Па-другое, набрынялае вільгаццю паветра лепш праводзіць электрычнасць, што нараджае думкі, рыфмы і знакі прыпынку ў коратка стрыжанай галаве. Думалася, у каторы ўжо раз, пра іх дзвюх. Тую, якая была ў Курапатах, з’ехала, а пасля вярнулася, але гэта ўжо не мела значэння. І тую, якая нікуды не з’язджала і чакала, чакала, чакала... а пасля ўсё зразумела і сышла з яго жыцця, пакінуўшы допіс у нататніку.

Кажуць, што адзіны спосаб асэнсаваць сваё «я» — гэта вынырнуць хоць на момант з бясконцага патоку думак і асацыяцыяў, што прадукуе мозг. Думкі, па вялікім рахунку, гэта ж таксама механіка арганізма, як боль, голад, жаданне, то бок не тваё асэнсаванае дзеянне, а рэакцыя на знешнія фактары. Калі жыццём кіруюць адно знешнія фактары — цябе няма, ты механізм. Калі ж ты сам кіруеш сваёй механікай, значыць, ты ёсць, ты «заслужыў на душу», згодна з маніхейскай ерассю... А вось ужо і знаёмыя агеньчыкі на Віленскай. Дайшоў.

* * *

— Ого-о-о! Вечер перестаёт быть томным!

— Угу...

— Прівет!

— Начной госць!

Наверсе па пятніцах зазвычай было болей народу, чым унізе — у склепе, дзе месціўся бар. Людзі стаялі купкамі, сядзелі на ходніках альбо на выцертых джынсамі металічных парэнчах, кідаючыся ў абдымкі новым ценям, якія выпаўзалі са змроку на агменьчык кнайпы. Там-сям ужо ляжалі аскепкі цёмнага шкла ад піўных бутэлек, а метраў за сто пяцьдзясят ціхутка цякла Гараднічанка — яе не было чуваць, бо на вуліцу выносіліся калонкі: *Anakondas*, *Brutto*, *Linkin Park* — грала ўсё на купу.

— Вася, давай як заўжды, — Несцяровіч прымасціўся на высокім барным зэдліку.

— Ш-што? Джын?

— Угу.

— С-с-тонікам магу — нап-пітак англійскіх к-каланізатарав.

— Так-так, давай, каб на малярыю не захварэць.

— Адзін ма-а-мамент.

І тут пачыналася магія. Бармэн Вася, хударлявы хлапец у бандане, фрызуру якога Несцяровіч ды і, здаецца, большасць сталых наведнікаў ніколі не бачылі, пачынаў бегаць, даставаць згары і ставіць назад нейкія слоікі, бутэлькі, ляпаць дзверцамі лядоўні. Круты чэл — алхімік!

Назіраючы за працай бармэнаў з-за стойкі, бачыш нешта накшталт ТВ-шоу: яны для цябе нібы ў тэлевізары. Бачыш, а дакрануцца не можаш: хіба грошы перадаць ці ўзяць, што замовіў. Хаця, больш імаверна, акурат наведнікі выглядаюць для бармэнаў такімі сабе акцёрамі: смяюцца, п’юць, танчаць, цалуюцца, падаюць... Збольшага тут усе адзін аднаго ведалі, таму бармэнам даводзілася назіраць усё тую ж Санта-Барбару з нязменнымі гульцамі, даўно прапісанымі характарамі ды рэплікамі, абмежаванай варыятыўнасцю выпадковых сімпатыяў, рукапацісканняў, абдымак і міжполавых кантактаў.

«Десять миллионов рабов, новорожденный будь готов...» — крычаць дынамікі. Гэта Васеў плэйліст, хаця Адэля, ягоная напарніца, здаецца, таксама не супраць. Сёння яна не надта гаваркая: на шыі лёгкі шалік — захварэла, таму без настрою. Хутка прыйдзе Марк, гаспадар кнайпы, былы гастарбайтар, і зайграе нейкая польская тэма — *Lady Pank*, да прыкладу — дзе ж ты такое пачуеш у Менску? А пакуль... пакуль можна папаліць наверсе.

Праціскаючыся паміж фарбаванымі ў ружовы ды руды дзяўчатамі, добра накіданымі хлопцамі ў капюшонках ды байках з мудрагелістымі назовамі замежных гуртоў, пузатымі мужчынамі пад 40 у скуранках, якія так і засталіся панкамі-падлеткамі, нягледзячы на лысіны ды даўгія бароды, Несцяровіч нарэшце выбраўся вонкі. Тут зорак не бачна, як і абрысаў хмараў, адно ліхтары ды агменьчыкі цыгарэт тутэйшай публікі. Па кароткім дажджы ў паветры застыла прыемная свежасць.

— Даров. Надолга тут?

— Не ведаю. Пакуль тут.

— Паня-я-ятна, — як заўжды, манатонна працягнуў Серы, стары знаёмец Несцяровіча, фатограф. — А мы з Ірай вырашылі забегчы на аганёк.

Побач усміхалася Іра, фарбаванае на бландынку зеленавокае дзяўчо, захутанае ў клетчатую чырвона-чорную накідку. Яна, здаецца, была крыху вышэйшай за Серага, свайго хлопца.

— Э-эй, ну чего кривляешься? — з усмешкай пачала насядаць на мужа, які заціснуў галаву ў плечы, Іра. — Сразу так и по-белорусски... Ага.

— А чо?

— Ничо. Вот он всегда на мове, — Іра тыцнула цыгарэтай у бок Несцяровіча, — а ты уже или тоже всегда, или на русском давай. Я так не люблю...

— Іра...

— Дык а ў чым праблема? Серы кажа як хоча. Хай гаворыць хоць са мной.

— Отстань, Нестерович. Ты не понимаешь, — твар дзяўчыны з ледзьве заўважным рабаціннем расплыўся ва ўсмешцы, зялёныя вядзьмарскія вочы зайгралалі. Яна была рускай на 100% — дачка вайскоўца, які асеў тут год 25 таму. — Пошли лучше вниз — пить.

* * *

Падчас чарговага перакуру наверсе кампанію атакаваў Юра — патлаты загулялы музыка без узросту (35? 40? 50?.. ніхто не ведаў). Юра павесіўся на Несцяровіча і Серага, што было лагічным: стаяў на нагах ён зусім дрэнна.

— А я — спас чэлавека!

— Юра, пшол в пи...! — Іра за словам у кішэнь не лезла: самае цікавае, што пры гэтым яна не пераставала ўсміхацца суразмоўцу.

— Не, ну сер’ёзна! Де-е-евушку спас. Ее... ізнасілаваць хацелі. А я — спас.

— Як уратаваў? — Несцяровіча гісторыя зацікавіла, Серы ж пакуль не выяўляў ніякай цікавасці ды ціха паліў.

Сэнс аказаўся ў наступным. З гаўбца сваёй панэлькі Юра ўбачыў нейкае перапужанае паўапранутае дзяўчо ў белых шкарпэтках, імаверна, у стане шоку. Падазваў, спусціўся, тая аказалася добра п’янай ды паведаміла, што збегла з нейкага «флэта» — ад нападнікаў... Юра, выяўляючы цуды шляхетнасці, запрасіў мадмуазэль да сябе, паклаў у ложак, спрабаваў напаіць гарбатай, але тая — вырубілася. Вось і ўсё.

— Ну, і што далей? — Несцяровіча цікавіла канцоўка.

— Нішто. Спіт... наверна, — Юра моцна хіснуўся назад, але яго ўтрымалі.

— А ты, то есть, сюда бухаць прыехал? — перапытаў Серы.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям’і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам у газеце «Новы Час».

— Ну да...

— Эммм, дык а калі яна ў стане шоку прачнецца?

— ...

— Дзверы зачыніў?

— Да-а.

— А знутры можна адчыніць?

— Нет.

— А нумар твой?

— Какой «нумар»? Кварціры?

— Бл.., нумар тэлефона свой — пакінуў? Яна прачнецца — пасля стрэсу і перапою — і што далей ёй рабіць?

— ...

— Ага, смешно, — вочы Іры зайгралі, — я на ее месте с домашнего в ментовку сразу бы позвонила — 102. Особенно, если события она помнит местами. А тут — никого нет, хата незнакомая, закрыто все. А если ее реально трахнули?..

Юра паварочваў галаву ў розныя бакі, ці тое спрабуючы пачуць суразмоўцаў, ці тое — дачытаць непачутае па вуснах. Цікава, які адсотак інфармацыі ён наогул разумеў?

— А калі яе рэальна «трахнулі», радной, то цалкам верагодна, што сядзець будуць не тыя мурзікі, а ты, — рэзюмаваў Несцяровіч і зацягнуўся цыгарэтай.

— Я-я-я? За што? — Юра расплыўся ва ўсмешцы ад абсурднасці пачутага і ўпэўненасці ў сваёй бязгрэшнасці.

— Як табе сказаць... Тых не знойдуць ці нават шукаць не будуць — а ты вунь, пад бокам, бухой в ж...пу ды яшчэ ахвяру ў хаце зачыніў. Такіх на кожнай зоне палова сядзіць: «дабрадзеі» ды чэлы, што міма праходзілі.

— Стрёмна, ана жэ і хату паджэч можэт — в таком састаяніі... — нарэшце ўмяшаўся Серы, а пасля паўзы дадаў: — Ілі здохнет проста.

— Юра-а, на х... ты тут сдался? Домой едь, пока не вышло чего! — Іра пачала нервавацца.

— Не-е-е, ну я атдыхаю тут, рана ехаць.

— Ясна, значыць, таксі, бо ён ніякі. Разам трэба ехаць.

— Вмесце? Куда?!.. — Юра канчаткова заблытаўся.

— Адрас кажы свой!

— Астаповіча, 156А — 21.

— Іра, выклікай.

* * *

Дарога была вясёлай, хоць кіроўца наўрад ці чамусьці здзівіўся — усялякае чуў, немалады, сівы, мажны дзядзька, упэўнены ў сабе і максімальна флегматычны. Юра, як музыка, у любым стане мог адсочваць мелодыі, што вівалі побач, таму патрабаваў то пераключыць радыё, то зрабіць гучней — калі падабалася. А яшчэ спрабаваў час-почас паразважаць пра сітуацыю са згвалтаванай, але Несцяровіч яго штурхаў у бок, каб сівы таксіст, крый Божа, не патэлефанаваў «куды трэба» пасля разліку.

«Не разувайцесь...» — прамармытаў Юра на ўваходзе, хоць разувацца асабліва ніхто і не планаваў. Халасцяцкая кватэра са сваёй атмасферай не схіляла да такога рашэння нават пры іншых раскладах. Дзе ж яно, цела? А вось і яно, за дзверцамі...

Дзяўчо, захутанае ў белую мятую коўдру, нагадвала сумёт, па якім бегалі ды граліся недарэчныя агеньчыкі навагодняй гірлянды, што вісела плюшчом зусім побач, на сцяне. Ружовыя і блакітныя агеньчыкі павольна гаслі, каб пасля заззяць з новай сілай, рытмічна, хоць рытму гэтага ніхто і не лавіў. Прысутнасць «пакутніцы» выдавала адно раскіданыя па падушцы чорныя валасы. «Сумёт» быў цалкам статычны. Яна хоць дыхае наогул?..

«Ань, Ань, Аня-я-я-я-а!» — Юра палез першым будзіць сваю новую знаёмую. «С'еб....л», — хлопцы выштурхнулі Юру ў калідор, каб падысці самім. Пульс ёсць, дыхае! Дзякаваць Богу. Несцяровіч выдыхнуў. «Так, пошли все вон, на кухню, быстро!» — тут ужо пачала камандаваць Іра, якой цяжка было не падпарадкавацца. Зеленавокае дзяўчо села на ўскрайку ложка і пачало ціха «калдаваць» над ахвярай. Зараз агеньчыкі гралі ўжо на яе фрызуры ды далікатных плечыках.

На кухні быў поўны вэрхал, батарэі пустых шклянак ад піва на падлозе, гара нямытага посуду ў ракавіне, станок для галення і люстэрка там жа, нейкія дыскі ў парэпаных пластыкавых футлярах на стале. Юра некалькі разоў паспрабаваў уключыць музыку, але яму не далі. Гаспадар, відаць, пакрыўдзіўся і асеў на зэдліку спінай да сцяны — каб не ўпасці.

— Так, пішы ей запіску, — Серы знайшоў аркуш белай паперы і паклаў перад «дабрадзеем».

— А што пісаць? — Юра разгубіўся.

— Ну-у... Пішы: «Привет, ты в безопасности, все хорошо, мой телефон ..., скоро буду дома. Захочешь кофе — возьми на кухне...»

— Ты тэлефон памятаеш свой? — улез у кухонную дыктоўку Несцяровіч.

— Да-а, но он отключен. Денех нет, — Юра паціснуў плячыма і ўсміхнуўся.

— Ну, хоць пра каву напішы — і можаш назад с'еб...цца ў свой бар. Так у цябе хоць нейкае алібі будзе, а яна, можа, не так спужаецца, калі прачнецца.

У калідоры паказалася Іра: «Она никакущая, пусть проспится. А у вас тут что? Чистосердечное пишешь, Юр?..»

— Юра, не атвлекайся, пра кофе напісал?..

Несцяровіч зірнуў на творчасць гаспадара кватэры, але глядзець асабліва не было на што. «Пацыент» дагэтуль вошкаўся са словам «привет».

— Пагляdзі, — Несцяровіч вырваў аркуш у Юры і тыцнуў у твар Сераму, — без шансаў!

— Мальчики, так номер его пусть напишет кто-нибудь из вас — и все, — Іра ўсё яшчэ спрабавала ўратаваць сітуацыю.

— Няма ў яго нумара, пісаць няма чаго...

Нейкі час на кухні панавала ціша, якая, відаць, аказалася балючай для Юры, які зноў паспрабаваў уключыць бумбокс, але яго ў чарговы раз пасадзілі на месца.

— Так, выклікай таксі, Іра, паехалі, — Серы пачаў нервавацца, — а ты — застанься тут, прашу па-нармальнаму.

Юра адно пакруціў галавой і склаў рукі на грудзях, паказаўшы, што ноч правядзе ў бары любым коштам.

— Як хоча. Хай тады едзе з намі. Жывая барышня, і тое добра. Іра, выклікай! — кінуў Несцяровіч, гэтым разам ужо ціха і абыякава, і тут жа запаліў цыгарэту. А што? Гэтай кухні і гэтаму дому ўжо наўрад ці што зашкодзіць.

На зваротным шляху ў бар Юра спрабаваў распавесці таксісту, што ён уратаваў чалавека, а пасля яго спрабавалі ўратаваць ягоныя сябры. Малады няголены таксіст з чырвона-зялёным сцяжком ля люстэрка задняга віду адно ўсміхаўся. Юра зноўку спрабаваў спрачацца за музыку ў салоне, але гэта быў ужо дакладна не ён, а ўбудаваная функцыя прафесійнага музыкі: прафесійнае ў чалавеку памірае апошнім.

Гэтым часам на Астаповіча 156А-21 пад сумётам змятай і даўно не мытай коўдры спала чарнявае дзяўчо, якое наўрад ці калі ўзгадае і даведаецца (Юра ж пра ўсё забудзе) пра начное падарожжа дзіўнай кампаніі — туды і зваротна. На яе валасах, подушцы, выкінутай у пустку пакоя, далоні гралі ўсё тыя ж недарэчныя навагоднія агеньчыкі.

* * *

Уначы Несцяровічу сніўся сон. Снілася менскае метро, дакладней, яму здавалася, што гэта станцыя, але, як тое бывае ў снах, з выгляду метро ніводнага разу не нагадвала Менск. Там, пад зямлёй, усё было непрапарцыйна пампезным, гігантычным, людзей вобмаль, усе нейкія запаволеныя, няспешныя, з зацёртымі, як на аператыўным відэа, тварамі. Але самае цікавае — гэта барэльефы. Калі ў рэальнасці гэта мусілі быць зоркі, Ленін, «Аўрора» ды пахвала Вялікаму Кастрычніку, то там... тое, што было там, нават апісаць цяжка.

Над цягнікамі, такімі ж павольнымі, як і прымараныя пасажыры, навісалі дзівацкія перапляценні целаў, лысыя галовы тытанаў ды волатаў з доліхацэфалічнымі чарапамі, прамымі насамі, што, здавалася, ішлі неяк адразу ад ілба, мёртвыя вочы без зрэнак, высокія скулы, напружаныя цягліцы. Ну і эмоцыі... На тварах волатаў быў адчай, роспач, вусны былі перакрэсленыя ды выкрыўленыя пакутамі. Але ўсё гэта было неяк велічна, іхны крык — бясслоўны. Яны, здавалася, нікога ні аб чым не прасілі — гэта былі пакуты моцных, велічных і прыгожых людзей-багоў.

Несцяровіч згубіўся ў гэтым метро, ездзіў туды-сюды, выходзіў на паверхню, але нічога не пазнаваў, зноў спускаўся долу, сядаў у цягнік, каб несціся далей. Ён ніяк не мог знайсці сваю станцыю. Павуцінне метрапалітэна стала для яго лабірынтам, з якога, здавалася, было мноства выхадаў, але ніводзін не быў слушным.

Ён прачнуўся... ці то ад жаху, ці то ад холаду. На дварэ было ўжо светла, за адчыненым акном капаў дождж. Безаблічнае неба масівам шэрых хмараў навісала над родным не сваім горадам, дзе нічога не трымала, акрамя ўспамінаў дзяцінства. Трэба было ўставаць на ногі ды цягнуць сваю абалонку пад халодны душ, каб узбадзёрыцца і ацверазець перад чарговым днём, які не абяцаў анічога добрага.

* * *

І гэтую, і некалькі наступных начэй Несцяровіч правёў у бары. Наведнікі ўсе тыя ж, ажно сум бярэ. Але... дзе Юра? Дзе Серы ды Іра? Іх няма. Муляючы ў руцэ цыгарэтны фільтр, Несцяровіч міжволі запускаў у галаву невясёлыя думкі. А што, калі таксіст усё ж такі патэліў «куды трэба»?.. А што, калі Юра ўжо «там»? А дзе ж ён, Несцяровіч, пакінуў свае адбіткі пальцаў у той «нехарошай кварціры»? Дзвярныя ручкі, бумбокс, шкляная попельніца на кухні... Джын, патрэбны яшчэ джын.

Нечакана нехта штурхануў яго ў спіну, Несцяровіч павярнуўся. О Божа, Юра! «Пацыент» ізноў дрэнна стаяў на нагах, але моцна трымаў у руцэ бутэльку «Жыгулёўскага». Разам з ім быў нейкі таўстун у акулярах. «Ізвініць пжлста...» — Юра яшчэ быў здольны падтрымліваць вобраз загулялага інтэлігента.

— О, Юра, стаяць! — Несцяровіч быў упершыню рады бачыць гэтага чалавека.

— Эммм, — Юра нейкі час углядаўся ў яго, каб пасля расплыцца ў дзіцячай усмешцы на няголеным памятым твары. — О-о-о! Жэня, Жэнь, — ён звяртаўся да таўстуна, — вот он, он меня спасал! Я её... спас, а он — міня!

Таўстун паправіў акуляры і працягнуў руку ў вітальным жэсце. Імаверна, усю начную гісторыю ён выслухаў ужо не адзін раз, таму мог ведаць дзейных персанажаў. «Евгений», — ягонае імя неяк згубілася на музычным фоне. Несцяровіч моўчкі паціснуў руку.

— Эта... спасіба цібе! — Юра палез абдымацца, пасля чаго лыкнуў «Жыгулёўскага». — Жэня, вот он, он, ані, взялі таксі і спецыальна паехалі, штобы... штоб міня спасці, прэдставляеш?

Жэня кіўнуў, зноўку паправіў акуляры і зграбным рухам цверазейшага сабутыльніка выхапіў бутэльку «Жыгулёў» у Юры ды знік у натоўпе наведнікаў, нібы расшчапіўшыся на атамы.

— Ну, эта, слушай, — Юра пазмоўніцку прыхіліўся да Несцяровіча, — дай пітнаццаць тысч, ну, палтара рубля... Не хватает.

Несцяровіч усміхнуўся ды палез у кішэнь.

— У цябе ўсё добра, Юра? Што з той барышняй?

— А нічо, норм, ана праспалась, утрам мы с ней піва выпілі, і ана пашла. Во-о-от.

Па атрыманні запаветнай сумы Юра зноўку палез абдымацца, але Несцяровіч паспешліва ўстаў, каб пайсці паліць. Божа мой, чалавек... Няўжо яму зусім паралельна на свой лёс? Зрэшты, якая да таго справа Несцяровічу? Аніякай. Калі ён сам знікне з гэтага бара, тут нічога не зменіцца, жыццё пацячэ далей, а барная стойка, Юра з чужым півам, «Десять миллионов рабов...» у дынаміках, зоркі ў небе ды іх адбіткі — агеньчыкі курылышчыкаў на двары — усё застанецца на сваіх месцах. «Десять миллионов...» — паўтарыў шэптам Несцяровіч і ўсміхнуўся, падымаючыся па сходах.

— О! Нестерович! — наверсе стаяла з электроннай цыгарэтай Іра.

Побач з ёй мяўся нейкі байкер у скуранцы са смешнымі ланцугамі ды ў кепцы, які з нянавісцю паглядзеў у бок Несцяровіча. Сёння яна была ўжо вясёлая і без Серага.

— Я, кажется, знаю, кто будет меня провожать домой!..

* * *

Несцяровіч падняўся на ложку, знайшоў вачыма джынсы, нацягнуў, не зашпільваючы пас, узяў са століка пачак «кента», запальнічку і зрабіў некалькі крокаў у бок балкона. Пасля вярнуўся, каб зачапіць тэлефон, і толькі тады адчыніў шкляныя дзверы ды выйшаў на лоджыю. Акуратна прыадчыніў акно (шкло было лопнутым, ды і штапікі не выглядалі надзейна) і запаліў. Унізе застыг пусты двор, дзіцячы садок ці нейкая школа, самотныя «Аўдзі», «Фальксвагены» ды «Нісаны» чакалі на сваіх гаспадароў, што прыйдуць зранку. Зорак зноўку не было бачна, іх глушыла святло з цэнтра горада, хоць выпадковая здымная кватэра і месцілася недзе на ўскрайку, метраў за 500 ужо шумелі сосны парку, які спускаўся да Нёмана... такія ж сосны, як і ў Курапатах. Можа, тут таксама стралялі? А можа... яшчэ будуць?

Несцяровіч разблакаваў тэлефон, яму патрэбныя былі два адрасаты — два прозвішчы. Змест паведамленняў меўся быць ідэнтычным — слова ў слова. «Прабач мне, калі ласка. За ўсё. Як не — цалкам маеш права. Больш не турбавацьму». Даслаць. Пайшло. Яшчэ раз даслаць. Пайшло. Першым адрасатам была Наста. Тая самая Наста з Курапатаў. Другім... Маша. Тая самая, што пісала: «Мілы, цябе няма дома...», тая, якой не стала з-за Насты. З-за Курапатаў. З-за Несцяровіча. Дайшло. І першае і другое паведамленне — усё дайшло. Несцяровіч выкінуў цыгарэту вонкі, попельніцы не было.

У кватэры, за ягонай спінай, запалілася святло. Гэта насценнае бра — слова, паходжанне якога Несцяровіч ніколі не мог зразумець. У жоўтым праменні цьмянай лямпачкі на ложку прыўзнялася Іра. Яна нацягнула на сябе цішотку Несцяровіча, у руках трымала кнігу.

— Вырашыла пачытаць?

— Не-е-ет. Я это уже читала. Это Герберт Уэллс. Люблю оч. Я тебе его подпишу сейчас.

— Твая кніжка? — Несцяровіч прыціснуў дзверы, каб зашчоўкнуць шпінгалет.

— Тут нашла.

— Ды-ы-ык...

— Какой ты правильный! — Ірыны зялёныя вочы зайгралі, яна ўсміхалася. — Думаешь, она тут нужна кому-то? Или сюда приходят читать?..

— ...

— Все, не п..зди. Я подписываю.

Тэлефон у ягоных руках засвяціўся. Прыйшоў адказ: «Хачу ўбачыцца». Не, не ад Насты, ад... ад яе. Ад Марыі. Трэба вяртацца ў Менск. Як хутчэй. Ранкам? Так, ранкам. Несцяровіч пайшоў на кухню ставіць імбрык, прыхапіўшы тэлефон з сабой, а Іра, здаецца, нічога не заўважыла і працягвала выводзіць подпіс на форзацы кніжкі Уэлса.

* * *

Алег на прыпынках праціраў знутры шыбы свайго бусіка, які рухаўся з Горадні ў бок сталіцы. «Ну ты і надыхаў...» — паўтараў з усмешкай кіроўца, пазіраючы на Несцяровіча, які сядзеў на пярэдняй сядушцы. Алег — ягоны стары сябра, які па працы час-почас ганяе на Менск. І тут зоркі скляліся: званок — час — месца — пагналі. Чым хутчэй!

— Дзе цябе выкінуць, стары? Магу на МКАДзе недзе... У раёне Курапатаў, не хош? Бо мне яшчэ на склад заязджаць.

— Так, давай, — Несцяровіч ужо збольшага прачнуўся, спаць у транспарце — ягоная тэма. Дзе ж яшчэ так выспішся? Ды і дарога лягчэй праходзіць.

У кішэні Несцяровіча зрэдку пілікаў тэлефон. Пілікаў адрывіста — гэта былі эсэмэскі. Коратка зірнуўшы, ён зноў і зноў кідаў чорны прастакутнік зваротна ў кішэнь, не адказваючы. Гэта была Іра. Якая розніца? Ён жа ехаў да Машы. Маша, якая «хоча ўбачыцца». Маша, якой ён зрабіў некалі вельмі балюча. Маша... Маша — самае прыгожае жаночае імя.

— Бывай, а як назад?

— Пакуль не ведаю, як пойдзе.

— Угу.

— Дзякуй табе!

Несцяровіч саскочыў з падножкі, выцягнуў заплечнік, Алег махнуў яму рукой з салона ды рушыў. Белы бусік зліўся з патокам іншых аўто на МКАДзе ды знік. Несцяровіч па звычцы, якая сталася часткай ягонай штодзённай механікі, міжволі пацягнуўся па цыгарэту. Перад ім — усё той жа расстрэльны лес, сосны, мох, вузкія сцежкі, троху далей — крыжы... Той жа, што і паўгода таму. Каб трапіць на прыпынак, яму трэба прайсці праз лес. Шлях да яе — шлях праз Курапаты. Вось яно як выйшла.

Спачатку ён спусціўся ў ярок, пасля адшукаў сцежку, па якой увесну кружлялілі патрулі абаронцаў — яна была прысыпаная ігліцай, часам перарваная лужынамі пасля нядаўняга дажджу. Тады, напрыканцы лютага, лужыны былі скаваныя лёдам, сёння — у вадзе адбівалася шэрае курапацкае неба ды хвоя, якую злёгку гайдаў вецер.

Абыходзячы лужыны, Несцяровіч ступаў па шапках моху, якія хавалі чорны слой зямлі ў 15 сантыметраў, утвораны перагноем ды голкамі, якія спадалі з соснаў штогод.

**Працяг на старонцы 22.**

# «Чаму ў праграмах «Барадзіно» ёсць, а «Пахне чабор» няма?»

## Настаўніца рускай мовы напісала адкрыты ліст у Міністэрства адукацыі

**Настаўніца рускай мовы і літаратуры са Смалявіч Ганна Севярынец напісала адкрыты ліст, у якім распавядае пра катастрафічную сітуацыю з вывучэннем беларускай літаратуры ў школе. З праграм незаўважна знікаюць найлепшыя творы, якія мусіць ведаць і якімі мусіць ганарыцца кожны беларус.**

**Ганна Севярынец звяртаецца да Міністэрства адукацыі, Нацыянальнага інстытута адукацыі, складальнікаў праграм па беларускай літаратуры, доктара педагагічных навук Вольгі Праскаловіч (у жніўні 2017 яна тлумачыла змены ў школьнай праграме па беларускай мове і літаратуры — Рэд.), загадчыкаў кафедр беларускай літаратуры ўніверсітэтаў, даследчыкаў, выкладчыкаў, настаўнікаў.**

«Шаноўныя калегі!

Звяртаюся да Вас ад свайго імя, а таксама ад імя іншых настаўнікаў, даследчыкаў, бацькоў, ад імя вучняў, ад імя ўсіх тых, хто жыве, вучыцца і працуе ў Беларусі.

Апошнім часам склалася катастрафічная сітуацыя з вучэбнымі праграмамі па беларускай літаратуры. Правільней будзе сказаць, што гэтая сітуацыя складалася і развівалася дзесяцігоддзямі — але сёння набыла цалкам невытлумачальны і непрагназаваны характар.

Прадмет «Беларуская літаратура» ў школе разам з беларускай мовай і гісторыяй Беларусі — нацыяўтваральны. Немагчыма пераацаніць яго важнасць у навучанні і выхаванні беларускай моладзі. Дзякуючы гэтаму прадмету, дзякуючы адзінай, агульнапрынятай праграме па ім у нас ёсць магчымасць ствараць і занатоўваць агульнанацыянальны культурны код, той набор сэнсаў, фармулёвак, вобразаў, культуралагічных феноменаў, якія забяспечваюць, з аднаго боку, адзінства нацыі, з другога — перадачу краевугольных паняццяў нацыянальнага менталітэту, нацыянальнага культурнага здабытку, нацыянальнай гістарычнай спадчыны ад пакалення да пакалення.

У кожнай нацыі, у кожнай дзяржаве выкладанню нацыянальнай літаратуры, складанню адзінай праграмы па ёй адводзіцца самае сур'ёзнае месца. Людзі, адораныя пачуццём слова, пакліканыя сваім народам да пісьменніцкай трыбуны, фармулююць і агучваюць тыя праблемы, якімі жыве народ, нацыя, якія з цяжкасцямі і пакутамі вырашаюць людзі, што жывуць і працуюць на гэтай зямлі. Нацыянальная літаратура і нацыянальнае мастацтва наогул — той голас, які вылучае нас сярод іншых нацый і народаў, той голас, які дае нам права «людзьмі звацца» ў сусветнай супольнасці.

У беларускай школе нацыянальная літаратура вывучаецца паралельна з літаратурай рускай. Асобнае пытанне — чаму мы абмяжоўваем сваіх дзяцей літаратурай аднаго толькі народа, маючы суседзямі не толькі Расію, але і Украіну, і Польшчу, наогул, маючы на мэце інтэграцыю ў агульнаеўрапейскую прастору. Але зараз пра тое, што мы маем сёння: дзве літаратуры, якія вывучаюцца паралельна, маюць аднолькавую колькасць гадзін, у асобныя перыяды супадаюць пры вывучэнні храналагічна і, зразумела, гучаць на ўроках побач у межах выкарыстання методык міжпрадметных сувязяў.

Немагчыма ігнараваць той факт, што вучні ў любым выпадку параўноўваюць дзве гэтыя літаратуры.

Праграма па рускай літаратуры, пры ўсіх яе хібах, складаецца з выбітных твораў, якія маюць выключнае мастацкае значэнне і бясспрэчную эстэтычную вартасць. Над гэтай праграмай дзесяцігоддзямі працуюць найлепшыя навукоўцы, найлепшыя школьныя настаўнікі, даследчыкі і выкладчыкі. Спісы твораў па рускай літаратуры, абавязковых для прачытання, шырока дыскутуюцца і абмяркоўваюцца на самым высокім узроўні. Тое, што маюць беларускія школьнікі на ўроках рускай літаратуры, — гэта сапраўды бліскучыя творы высокаразвітой літаратуры.

У такіх умовах складанне праграм па беларускай літаратуры — справа асабліва важная, бо наша літаратура не павінна выглядаць другасна, бедна, неахайна, так, як яна выглядае сёння ў праграмах і падручніках.

У 2017 годзе з базавай праграмы па беларускай літаратуры былі выключаныя творы, бліскучыя па сваіх паэтычных вартасцях, творы, якія сапраўды складаюць наш культурны код, якія ведаюць на памяць бацькі сучасных дзяцей, творы знакавыя: верш Петруся Броўкі «Пахне чабор», верш Рыгора Барадуліна «Бацьку», раман у вершах Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». Замест легендарнага «Чабору» цяпер дзеці чытаюць «Будзем сеяць, беларусы» — верш сумнеўны з эстэтычнага боку, цалкам несучасны па тэматыцы і праблематыцы, нецікавы для вучняў старэйшых класаў.

У гэты ж час па рускай літаратуры яны чытаюць Яўгенія Еўтушэнку, Роберта Раждзественскага, Бэлу Ахмадуліну: як выглядае побач з гэтымі творцамі балада «Надзя-Надзейка» ці памянёны ўжо «Будзем сеяць, беларусы»?

Раней з праграмы быў выдалены выбітны раман Кузьмы Чорнага «Пошукі будучыні». Пытанні, якія вырашаюць у сваіх «школьных» раманах Леў Талстой і Фёдар Дастаеўскі, ёміста і дасканала вырашаюцца і нашым Кузьмой Чорным, прычым — на нашай, нацыянальнай глебе. Чаму нашы дзеці павінны чытаць пра Барадзіно і Кутузава — і не павінны чытаць пра Першую сусветную і беларускае бежанства? Па мастацкіх вартасцях проза Кузьмы Чорнага не саступае прозе Талстога і Дастаеўскага — чаму яна выдалена з абавязковай праграмы?

Тады ж з праграмы знік бліскучы сатырычны раман Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» — прытым што значна больш цяжкі для вучнёўскага разумення Міхаіл Салтыкоў-Шчадрын добра пачуваецца ў курсе рускай літаратуры. Што з сённяшняй праграмы па беларускай літаратуры можа быць супрацьпастаўлена сатырычнай традыцыі літаратуры рускай — Мікалаю Гогалю, Міхаілу Зошчанку, Міхаілу Булгакаву? Чаму беларуская літаратура страціла ў школьнай праграме і гэтую сваю перавагу — своеасаблівы, тонкі гумар, жорсткую грамадскую сатыру? І Чорны, і Барадулін, і Гілевіч, і Мрый — гэта творцы, якія па мастацкіх вартасцях сваёй спадчыны стаяць поплеч з самымі знакамітымі рускімі і еўрапейскімі пісьменнікамі. Найлепшыя вершы Петруся Броўкі нічым не горшыя за вершы рускіх шасцідзясятнікаў. Чаму адных выкідаюць з праграмы, а другіх прэзентуюць дрэннымі вершамі?

Чаму наш выбітны жыццятворца Уладзімір Дубоўка, чалавек, які па сваіх жыццёвых прынцыпах, па асабістых вартасцях, па шляху, які ён прайшоў, можа стаць сапраўдным героем для беларускай моладзі, мае паўтары старонкі нецікава выкладзенай біяграфіі ў новым падручніку? У праграме па рускай літаратуры прадугледжана асобнае вывучэнне перыядаў творчасці Пушкіна (паўдзённая высылка, Міхайлаўскае, Болдзінская восень) — і не прадугледжана асобнае вывучэнне перыядаў творчасці Дубоўкі, кожны з якіх ёсць прыкладам адданай працы дзеля чалавечай годнасці і дзеля сваёй краіны? Чаму так? Чаму ў беларускіх дзяцей ёсць падрабязнае, за некалькі год атрыманае, уяўленне пра жыццёвы і творчы шлях Пушкіна, Лермантава, Някрасава — і няма пра жыццёвы шлях Францішка Багушэвіча ці Уладзіміра Дубоўкі?

Чаму нашы дзеці і па сёння не чытаюць твораў міжваеннага часу, твораў бліскучых беларускіх паэтаў еўрапейскага ўзроўню — Алеся Дудара, Уладзіміра Жылку, Тодара Кляшторнага, Юлія Таўбіна, прытым што яны глыбока і разнастайна вывучаюць вялікую колькасць рускіх творцаў гэтага ж самага перыяду? Чаму яны не ведаюць выдатнага крытыка Адама Бабарэку, прытым што яны добра ведаюць рускіх Вісарыёна Бялінскага і Дзмітрыя Пісарава? Чаму з творчай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Дубоўкі, Петруся Броўкі выбіраюцца творы нецікавыя, тэматычна аднастайныя, не адпаведныя настроям і цікавасцям вучняў?

У адрозненне ад праграмы па рускай літаратуры, праграма па літаратуры беларускай перанасычана нецікавымі, недасканалымі з эстэтычнага боку творамі. У вучняў непазбежна складаецца прыкрае ўражанне, што іх нацыянальная літаратура — тэматычна бедная, эстэтычна ўбогая, змястоўна нецікавая. Але ж гэта не так.

Беларусь мае бліскучую літаратуру. Гэта літаратура мае ўсё, каб быць патрэбнай вучням: напружаныя, драматычныя сюжэты, вострыя, рубам пастаўленыя пытанні, разнастайную, на любы густ тэматыку, эмацыянальна насычаны пафас, глыбокую філасофскую насычанасць.

Чаму гэта ніяк не адлюстроўваецца ў школьнай праграме? Чаму агулам у вучняў застаецца ўражанне пра беларускую літаратуру як пра літаратуру, напісаную беднымі і неадукаванымі сялянамі, прычым пераважна пра Вялікую Айчынную вайну?

Нам усім — краіне, народу, вучням і настаўнікам — востра неабходна сёння наладзіць шырокую адкрытую грамадскую дыскусію з удзелам экспертаў па змесце школьнай праграмы па беларускай літаратуры.

Скласці ў выніку гэтай дыскусіі шырокі і разнастайны спіс абавязковых для агульнанацыянальнага ведання і вывучэння класічных твораў беларускай літаратуры.

Перагледзець прынцыпы складання школьнай праграмы па беларускай літаратуры з кулуарнага абмеркавання да агульнанацыянальнай справы ў бок фарміравання і падтрымання нацыянальнага культурнага коду.

Узгадняць змены ў праграме з самым шырокім колам настаўнікаў, даследчыкаў, бацькоў.

Вярнуць у базавую школьную праграму «Пахне чабор» Петруся Броўкі, «Бацьку» Рыгора Барадуліна, «Родныя дзеці» Ніла Гілевіча, «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя.

Уключыць у праграму па беларускай літаратуры асобныя творы з творчай спадчыны Адама Бабарэкі, Алеся Дудара, Уладзіміра Жылкі, Тодара Кляшторнага, Юлія Таўбіна.

Выкладанне і вывучэнне беларускай літаратуры павінна стаць нашым агульнанацыянальным клопатам, а не клопатам вузкага кола зацікаўленых у асабістых творчых выгадах людзей.

Толькі тады будзем жыць як народ».



**Ганна Севярынец, настаўнік рускай мовы і літаратуры, лаўрэат конкурсу «Настаўнік года Мінскай вобласці — 2017», пісьменніца, даследчыца беларускай літаратуры, маці трох дзяцей, якія навучаюцца ў адукацыйных установах Беларусі.**

# Лабірынт

**Працяг са старонкі 21.**

Чорная зямля хавала жоўты пясочак, які насіў і рухаў туды-сюды ледавік, узрост якога вымяраўся дзясяткамі і сотнямі тысяч год. Пясочак хаваў косткі, разбітыя чашкі чарапоў, дробныя савецкія капейкі 1930-х, мятыя дужкі акуляраў, гільзы ад набояў на вінтоўку Мосіна. Косткі, гільзы ды манеткі хавалі бездань лабірынту чалавечай свядомасці, па якой блукае нястомны мінатаўр, якому толькі дай выйсці на волю, пабачыць святло, каб дзень ператварыўся ў ноч, па-над якой узыдзе чырвоная поўня.

* * *

Яны дамовіліся сустрэцца на Кастрычніцкай — ідэальны вузел камунікацыі, а таксама нервовы вузел вялікага горада, дзе жыццё точыцца як на паверхні, так і пад зямлёй. Людзі тут увесь час спяшаюцца, зусім не так, як у Горадні, каб нырнуць у сутарэнні метрапалітэну і прыспешыць вырашэнне ўсіх сваіх справаў і пытанняў. Каб вырашыць — трэба нырнуць пад зямлю, як глыбей, а пасля вынырнуць у іншым месцы і пабегчы далей.

Калі ён выйшаў ля памятнай шыльды ахвярам тэракта 2011-га, яна ўжо чакала. У кутку, ля белых пластыкавых дзвярэй нейкага мабільнага аператара, стаяла мініяцюрнае дзяўчо з заплечнікам ды ў высокіх берцах. Яна ўсміхалася.

— Маеш цыгарэту?

— Так. Ты паліш, Маш?

— Так.

— Даўно?

— Не важна. Я хачу табе нешта сказаць.

— Угу. Ёсць кавярня побач...

— Не-не. Давай без кавярняў. Проста адыдзем. Шмат людзей.

Моўчкі яны ішлі побач з галоўнай пусткай сталіцы — Кастрычніцкай плошчай, — на якой нават вялікі натоўп людзей падчас мітынгаў выглядае жменькай. Людзі тут перамагаюць унутры сябе не страх сценаў, а страх шэрай пусткі, перад якой яны цалкам безабаронныя. А вось і брама... Яны звярнулі.

— Слухай. Мне... вельмі цяжка гэта казаць. Але я мушу, — Несцяровічу падалося, што ў яе вачах стаяць слёзы, ён маўчаў. — Дык вось. Вось. Я — цябе — ненавіджу. Ненавіджу. Ты не чалавек для мяне. Сячэш? І я... Я жадаю табе ўсяго найгоршага ў жыцці. Ведай.

Ён глядзеў на яе, твар падаваўся знаёмым і незнаёмым адначасна. Нібы пасля нейкай рэтушы, нібыта мінула шмат год. Але мінула ўсяго пара месяцаў...

— Хочаш ударыць?

— Можна?

— Так.

Дзяўчо ўдарыла, заляпіла па вуху, ён па інерцыі крыху адхіліўся, але так — каб трапіла.

— Лягчэй?

— Так, — яна ўсміхалася і... плакала.

Ён глядзеў на яе, пасля перавёў позірк пад ногі, пасля на вокны масіўнай сталінкі. Вокны былі цёмныя, святло там ужо выстыгла, а ўнутры службовых пакояў, імаверна, працавалі адно пажарныя датчыкі бяспекі.

— Ты...

— Я пайшоў.

Несцяровіч развярнуўся ды выйшаў з брамы. Выйшаў, не ведаючы, куды ісці далей, да каго і па што. На праспекце вíравала безліч машын, па ходніках бегалі людзі-машыны. Некаторыя з іх зварочвалі да шыльды памяці ахвяраў тэракта, каб спусціцца ў метро.

*Восень–зіма 2017*

Паэма.

Устань,
ідзі па цёмных сходах,
за спіну рукі завядзі,
зязюля ўскрыкне прад усходам —
і ты палічыш — пяць гадзін,
Ніхто не пойдзе ўслед сцяжынай
Ад дома цераз змрочны сад
Да чорнай з кратамі машыны —
Ні вучань, ні сябрук, ні брат.
Паэт. Прарок — твае правіны.
І гэта чаша не міне.
О Беларусь, мая Айчына,
Нашто пакінула мяне?
Крок ад дома апошні і гадзінніка бой.
І нябёсы, як пожня, над тваёй галавой.

* * *

Уся работа пахне болем.
Не гноем і крывавым потам,
А цытрусам і бергамотам
З гаркавым прысмакам няролі.
Ад Плешчаніцаў да Камчаткі
Боль разліваецца па флягах,
Ва ўсіх сіблагах і гулагах
ім мыюць боты і пальчаткі.
Вязуць на склады да сталіцы,
Вязуць і ў дзень, вязуць і ноччу
Вагоны церняў на вяночкі,
І робаў стос — на багранiцы.
Матляюцца, як млын зламаны,
Даўно пашкоджаныя шалі.
Падзякуй на лесапавале,
Што ты яшчэ не расстраляны.
Ідуць расстрэльныя калоны,
Ідуць расстрэльныя каманды,
Па макаўку, да самых гландаў
Прапахлыя адэкалонам.
І крыж апошні давіць шыю,
«Распні! Распні» — у вушшы звонам.
Суддзя «Трайным адэкалонам»
Пасля прысуду рукі мые.

* * *

**Кальварыя**

Як ад вугла ісці, за следам след,
І абысці перыметрам навокал,
У вязніцы напішацца санет,
Бо тут па сцэнцы — чатырнаццаць крокаў.

## Святлана Куль

# Крыж



**1**
На першым кроку — крыжык ля імя,
Ці птушачка, што ўжо закрыта справа,
Без выбару між вамі, між двума —
Хто з вас прарок, а хто між вас — Варава.

**2**
Без рэшты і без выбару паміж,
Адным шыхтом, адным для ўсіх прысудам
Аднолькавы на ўсіх наклалі крыж —
На геніяў, пракракаў і на Юдаў.

**3**
Не разбярэш, хто здрадзіў, хто герой.
Рабілі Юдаў. Кожнага ламалі.
Для ўсіх адзіны шлях перад гарой,
Адзіны шлях да безлічы кальварый.

**4**
Даўно здабыты зэкамі свінец
На кулі для прарокаў і паэтаў.
Яшчэ з дзясятак крокаў — і канец,
Ні плашчаніц не будзе вам, ні п'етаў.

**5**
Ні ланцужкоў, сатканых з васількоў,
Ні вашы залатыя бранзалеткі,
Ніхто не панясе ў расстрэльны роў,
Не кіне ў яму палявыя кветкі.

**6**
Ніхто не пашкадуе вас ніяк,
Кроў не сатрэ з ілба духмянай хусткай.
Не будзе дрэва — выразаць імя,
Будоўля будзе, біты шлях і пустка.

**7**
Данесці крыж да самае гары,
Упасці і падняцца. Не скарыцца.
Так цяжка паміраць у трыццаць тры,
Таксама, як у сорак або трыццаць.

**8**
Ты спіш, народзе, летаргічным сном,
Якія сны ты бачыш пад прыцэлам?
Зарытую ў раве пад курганом
Душу, ампутаваную ад цела?

**9**
Ці чуеш ты, як твой нявечаць дом,
Як ганьбяць і балююць на руінах,
Ці ўспомніш, як пад катаўскім крыжом
Не захацеў плячо падставіць сыну?

**10**
Гаротны край пасеклі папалам,
Ён лёгка аддае сваіх герояў.
Каля распяцця камісар і хам
Яго майно падзеляць між сабою.

**11**
Кальварыя з мяжы і да мяжы,
клады, клады ў равах, на кожнай
горцы,
і Беларусь, нібыта на крыжы,
распятая на бальшавіцкай зорцы.

**12**
Не будзе вызваліцеля, не кліч.
Даўно на дровы парубілі Спаса.
У храмах пасміхаецца Ільіч
І з ім ЦК — замест іканастаса.

**13**
Калючы дрот цярновага вянца
Цвікі і боль. Чаму? За што? Навошта?
Ты пройдзеш шлях крыжовы да канца,
За ўсіх заплаціш найвялікшым коштам.

**14**
Твае радкі схаваюць пад замок,
Нібы ў труну — нікому не дабрацца.
І гэта будзе той, апошні крок
Тваёй дарогі —
Роўна чатырнаццаць.

* * *

Як цяжка вам вяртацца з глыбіні,
Праз гліну, праз пясок, праз камяні,
У Беларусь, з равоў і з-пад крыжоў —
Дамоў.
Вяртацца, як вяртаюцца з вайны
у дом бацькоў забітыя сыны,
праз дзень, праз год, няхай праз сто
гадоў —
Дамоў.
З гадамі дол становіцца глыбей.
Без вас нам не вярнуцца да сябе,
Да Беларусі, да яе асноў.
Дамоў.

* * *

Надыдзе дзень, адчуем, што пара́
За Вольнага плаціць, за Дудара,
За знішчаныя думкі, мары, строфы,
За памяць, пахаваную ў ілжы,
За нашыя пакутныя крыжы
У бездань перакуленай Галгофы.
За ўсіх, хто быў
на тых крыжах распяты.
Не ў Курапаты пойдзем —
З Курапатаў!
За ўсё спытаем — з мёртвых і з
жывых,
За нашых хлопцаў, за сябе саміх,
Сваім сумленнем і вышэйшай платай
За кожны крыж пакутны з Курапат,
За катаўскія лычкі на парад,
За кожнага чырвонага Пілата.
За ўсё спытаем
найвышэйшым коштам —
За Курапаты нашыя
і Плошчы.
Надыдзе дзень, адчуем, што
пара́.



## Галіна Сіўчанка
## уток

чую як дыхае той хто спазнаў мяне
помню як дзіўны горад страх
праглынуў
чырванню вышывала я кут па льне
клалася беласледам на ўток ільну
там — вадаспад асалоды заўсёды там
тут — забыцця прадззянне
няўмольна тут
сцегам тваім — напрамак
і вей сцягам
кожны шывок і кожны чырвоны кут
зоравуголля ў небе глыбокі квет
тонкай струны напятасць ды кліч
званоў
існасці сну даказваюць іншасвет
яву ільнуючы
з'явіўшы лён наноў
помню як ты і я не знайшлі дарог —
соцень дарог што сцяліся у адну
чую як нехта забалаць перамог
моўкна кладу наследздзе на ўток
ільну



## Ганна Севярынец
## «…І ты ўжо быў. А я цябе не ведала»

Была рака, у якой сядзі ўвесь дзень,
Была бабуля: ўнучыкі, ці снедалі?
І груша-спасаўка, і сонца на вадзе,
І ты ўжо быў. А я цябе не ведала.

І лямпаў гул, і цемра за вакном,
Кантрольнай ціша і рыпенне крэйдава,
І хлопчык быў з кветкамі у кіно,
І ты ўжо быў. А я цябе не ведала.

І ў замеці, і ў спёцы, і ў дажджы,
У слязах і ўсмешках, у сцежках перабеганых
Ты быў ужо. Ці верыш ты, скажы,
Ці верыш ты, што я цябе не ведала?

# Вершы Быкава: як пісьменнік віншаваў з Раством Рыгора Барадуліна



Гэты віншавальны ліст Васіля Быкава Рыгору Барадуліну Сяргей Шапран знайшоў у архіве народнага паэта Беларусі.

Быкаў пісаў класічным правапісам. Школьным правапісам гэта будзе так:

Шчодры вечар, шчаслівы вечар,
Самотны вечар, шаноўны пан,
Гарыць на куце паўтузін свечак,
Хрыстос нам свеціць і гоніць зман.

Хрыстосу слава і кволым слава,
Цярпліўцам моцы ў цярпенні дам,
Галодным — хлеба, убогім — веры,
Жыцця і шчасця — усім людзям.



Шчодры вечар, шчасьлівы вечар
Самотны вечар, шаноўны пан.
Гарыць на куце паўтузін сьвечак –
Хрыстос нам сьвеціць і гоніць зман.

Хрыстосу слава і кволым слава,
Цярпліўцам моцы ў цярпеньні дам,
Галодным – хлеба, убогім веры,
Жыцьця і шчасьця – усім людзям.

Васіль Быкаў,
паэта.

in memoriam

# Памёр літаратурны крытык Дзмітрый Бугаёў

28 снежня памёр літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў. Ён трохі не дажыў да свайго 88-га дня нараджэння.

Ён прыйшоў на свет 12 студзеня 1929 г. у вёсцы Сычык Крычаўскага раёна. Пасля вайны працаваў настаўнікам у Крытышынскай школе Іванаўскага раёна. З 1964 г. — дацэнт БДУ.

Ён быў выключна сумленным чалавекам і, якое б тысячагоддзе ні стаяла за акном, адстойваў праўду. Яшчэ ў 1950-я і 1960-я гады ён вяртаў, папулярызаваў творчасць былых палітзняволеных. У тыя часы гэта было смела. І тым больш для Дзмітрыя Якаўлевіча, чый бацька ў 1936-м не вярнуўся пасля чарговага арышту. Ягоныя манаграфіі пра Уладзіміра Дубоўку (1965) і Максіма Гарэцкага (1968) і сёння чытаюцца з цікавасцю.

У гады незалежнасці Бугаёў быў бескампрамісным крытыкам таталітарнай сістэмы, камуністычнай утопіі, абаронцам нацыянальнай незалежнасці.

Пра савецкія часы ён успамінаў: «Цяпер увогуле лёгка крычаць, бо ўсё дазволена. І нічым не трэба рызыкаваць. А тады нам усім многае давалася з вялікімі пакутамі, кожная пераацэнка давалася з боем».

Успомнім пра гэта і мы ў дні развітання з патрыярхам нацыянальнай культуры, прафесарам.

**Паводле lit-bel.org**





## Алесь Наркевіч
## Араты прышласці

Трэба жыць. І ўсё. І кропка.
Лепшай долі — брaць — не кленчыць.
Не зважаць на недаробкаў,
Што плююць табе у плечы.

Жыць. Не слухаць ціхіх гадаў,
Што нашэптваюць па норах
Забабоны і парады,
Модлы страху і пакоры.

Трэба жыць. І гэтым чынам
Не даваць паскудству ходу.
Будаваць сваю Айчыну,
З нашым зместам, з нашай модай.

Жыць. І будзе светлы бераг,
І у нашай хаце свята.
Жыць: з надзеяй, цвёрдай верай,
Нібы прышласці араты.

**Гэтая гісторыя кахання трымае ў напружанні ўжо год: ён — тытулаваны тайбаксёр і спявак, а яна — спадчынніца слаўнага артыстычнага роду і чэмпіёнка-гімнастка. Нядаўна Віталь Гуркоў апублікаваў у сацыяльных сетках дзве новыя фоткі з Меліцінай Станютай. Зірніце, якія чароўныя!**

Знайшлі гэтых цудоўных кацянят недалёка ад дому, у лесе. Каты вельмі класныя, ласкавыя і шустрыя. Тры дзяўчынкі (дзве белыя і паласатая) і адзін хлопец (чорны). Можа, каму патрэбны такі падарунак?
Тэл. (029) 574-78-27 (Кацярына).

Хлеб з молатымі насякомымі з'явіўся ў продажы ў Хельсінкі. Фінскі канцэрн *Fazer* пачаў продаж «хлеба з цвыркуноў».

У лістападзе Фінляндыя, як і Брытанія, Нідэрланды, Бельгія, Аўстрыя і Данія, зняла забарону на выкарыстанне насякомых у ежу.

Для яго вытворчасці, акрамя звычайных інгрэдыентаў, выкарыстоўваецца мука з сушаных хатніх цвыркуноў (каля 70 штук на 1 бохан). Цвыркуны складаюць прыкладна 3% ад вагі гатовага вырабу.

Бохан такога хлеба каштуе 3,99 еўра (за 250 грамаў, цана за кілаграм — 16 еўра). Гэта крыху даражэй за звычайны хлеб, аднак купіць *Sirkkaleipa* не так і проста: хлеб з цвыркунамі разбіраюць на сувеніры.

Патэнцыйна ж насякомыя будуць і крыніцай бялку: гадаваць цвыркуноў прасцей, чым свіней ці кур.

**Баскетбалістка Алена Леўчанка павіншавала з Новым годам у паліто на голае цела. «З Новым годам! Удзячная за 2017-ы і ўпэўнена чакаю 2018-га года! Жыву з любоўю і ўдзячнасцю», — напісала спартсменка.**

**Стас Кард — 19-гадовы беларускі фатограф. Цэлы год ён збіраў кадры з жыцця сваіх сяброўак, былых аднакласніц, знаёмых і знаёмых знаёмых, з якімі яму выпадала перасякацца. Здымкі складаліся ў праект, які здзіўляе сваёй праўдзівасцю. Рэальнае жыццё 20-гадовых беларусак: калі ні грошай, ні мэтаў няма. Больш фотаў на nn.by.**

На аўкцыён у ЗША трапіў рэдкі дукат Жыгімонта III Вазы. У 2008 годзе ён стаў самай дарагой манетай у гісторыі. За 1,38 млн даляраў яе купіў нямецкі калекцыянер. Чакаецца, што гэтым разам рэкорд будзе пабіты.

Амерыканскі аўкцыённы дом *Classical Numismatic Group INC* прагназуе, што цана залатой манеты падчас аўкцыёну можа дасягнуць 2 мільёнаў даляраў.

Дыяметр манеты — 70 мм, яна важыць 348,3 грама золата. Такіх манетаў у свеце захавалася ўсяго шэсць.

## Анекдоты і жарты

2020 год.
— Аляксандр Рыгоравіч, балатавацца будзеце?
— У мяне абанемент.
* * *
— Алесь, ты ідзеш на выбары?
— Вядома!
— Але ад нас нічога не залежыць!
— Вядома, не залежыць. Але, на ўсялякі выпадак, я падтрымаю пераможцу!
* * *
Афіша цырка: «Выступаюць дрэсіраваныя гіганцкія чарапахі: яны выходзяць на арэну і на задніх лапах робяць адно кола ўздоўж манежа. Затым сыходзяць».
Унізе маленькімі літарамі прыпіска: «Нумар доўжыцца 8 гадзін».
* * *
— У мяне айфон у цеста ўпаў! Падкажыце, што мне рабіць?!
— Шарлотку!
* * *
— Вы так молада выглядаеце, у чым ваш сакрэт?
— Мне дваццаць.

## «НН» 111 гадоў з вамі

**У Радашковічах 350 дамоў; з іх 100 «багатых» і 250 бедных.** Я сказаў «багатых», але гэта не значыць, быццам яны мелі тысячы: у беларусаў кожнага, хто заўсягды мае яду, сыты, называюць «багатыром», а бедным лічыцца такі, што сягоння з'еў, ды не ведае, ці будзе што есці заўтра.

**«НН». №1. 1908**

**Прадпрымальнікі дэманстравалі на праспекце і плошчы Незалежнасці.** Колькасць пратэстоўцаў дасягала 5000 чалавек.

Акцыя за адмену ўказа Лукашэнкі №760, які забараняе прадпрымальнікам мець наёмных рабочых, пачалася а 12 гадзіне на Кастрычніцкай плошчы. На пляцы назадоўга перад мітынгам быў заліты каток, дзе праходзілі нейкія гулянні для школьнікаў пад эгідай БРСМ. Коўзанка займала большую частку плошчы, таму мітынгоўцам было цеснавата.

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Менгарвыканкама Аляксандр Найдзенка паведаміў, што па факце несанкцыянаваных вулічных маніфестацыяў распачатая крымінальная справа.

Ніхто не чакаў, што акцыя 10 студзеня будзе настолькі масавай і рашучай і што да прадпрымальнікаў далучыцца столькі людзей на вуліцах.

**«НН». 10 студзеня. 2008**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец, Настасся Роўда, Андрэй Скурко
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.

Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 09.01.2018.

Замова 159.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 18001